


Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

22 ВЕРАСНЯ 2000г. № 38/4070 КОШТ 100 РУБ.





*Фота У. КАГУЦЕНКІ*

***Ападае пад ногі лісцё,***
***І святлее праз восень дарога.***
***Дзень праходзіць, праходзіць жыццё,***
***Пройдзе й дождж і не будзе нічога...***



## КОЛА ДЗЁН

***Адной з самых важнейшых падзей гэтага тыдня стала адкрыццё XXVII летніх Алімпійскіх гульняў у Сіднеі. На Зялёны кантынент з'ехался больш як 10 200 атлетаў са 199 краін свету. На 36 алімпійскіх арэнах Сіднея, Канберы, Мельберна, Брысбена і Адэлаіды ў 38 відах спорту разыграваецца 300 камплектаў узнагарод. За найбольшую колькасць медалёў — 46 камплектаў — спаборнічаюць лёгкаатлеты. Толькі 1 медальны "набор" аспрэчаць паміж сабой прадстаўнікі софтбола. Гонар нашай краіны ў Сіднеі адстойваюць 138 спартсменаў у 21 дысцыпліне. За 48-гадовую гісторыю выступлення беларускіх спартсменаў на Алімпійскіх гульнях заваяваны 172 медалі: 82 залатыя, 45 сярэбраных і 45 бронзавых. На сённяшні дзень да гэтых узнагарод ужо можна дабавіць яшчэ адзін сярэбраны медаль і тры бронзавыя, якія выйгралі нашы спартсмены на гэтым тыдні ў Сіднеі. Нехта скажа, што малавата перамог, але ўсё ж лепей, чым нічога. Да ўсяго яшчэ наперадзе не адзін дзень XXVII летніх Алімпійскіх гульняў. А закрыццё Алімпіяды адбудзецца 1 кастрычніка.***

### *ВЫНІКІ ТЫДНЯ*

Цэнтральная камісія па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў назвала вынікі вылучэння і рэгістрацыі кандыдатаў у дэпутаты. З 768 прэтэндэнтаў, якія збіраліся паўдзельнічаць у барацьбе за дэпутацкі мандат крэсла ў Авальнай зале, да самой барацьбы дапушчаны толькі 551 чалавек. Найбольшую колькасць кандыдатаў мае Ліберальна-дэмакратычная партыя — 86 кандыдатаў (вылучаліся 109). За ёй ідуць Партыя камуністаў Беларуская — 68 кандыдатаў (вылучалася 73), Камуністычная партыя Беларусі — 38 (48), Рэспубліканская партыя — 13 (19), Аграрная партыя — 12 (16), Рэспубліканская партыя працы і справядлівасці — 10 (14), Беларуская патрыятычная партыя — 9 (13), Сацыял-дэмакратычная партыя народнай згоды — 4 (12) і Беларуская сацыяльна-спартыўная партыя — 1 (2). З усіх зарэгістраваных кандыдатаў толькі 60 чалавек з'яўляюцца прадстаўнікамі прыгожай паловы чалавецтва. Яшчэ менш моладзі да 30 гадоў — 19 кандыдатаў. У другі раз у Палату прадстаўнікоў спрабуюць трапіць 38 дзеючых дэпутатаў палаты. Не былі зарэгістраваны такія вядомыя палітычныя дзеячы, як Валерый Шчукін, Уладзімір Навасад, Генадзь Грушавы, Гары Паганяйла, Валерый Драко, Уладзімір Ганчарык, Віктар Цярэшчанка, Аляксандр Бухвостаў, Аляксандр Пласкавіцкі, Юлія Чыгір. Быў зарэгістраваны лідэр Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі "Народная Грамада" Мікола Статкевіч, але на гэтым тыдні ён зняў сваю кандыдатуру. Да выбараў засталося 22 дні...

### *ПОСПЕХІ ТЫДНЯ*

На гэтым тыдні нарэшце "бітва" за ўраджай выйшла на фінішную прамую. У цэлым па краіне збожжавыя і зернебабовыя ўбраны на плошчы 2166 тысяч гектараў, што складае 97 працэнтаў ад плошчаў, што падлягаюць уборцы. Згодна з апошняй афіцыйнай інфармацыяй, у цэлым па Беларусі пры сярэдняй ураджайнасці 22,8 цэнтнера з гектара было намалочана 4912 тысяч тон збожжа, што на 1 тысячу менш, чым планавалася. І ўсё ж вынік нядрэнны, калі параўноўваць з мінулым годам. Але...

### *ІНФАРМАЦЫЯ ТЫДНЯ*

У друку з'явілася інфармацыя, што ў сталіцы нашай краіны ў хуткім часе павінны з'явіцца гімн і герб. Мець гэтыя атрыбуты яе абавязвае прыняты 22 чэрвеня гэтага года Палатай прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Закон "Аб статусе сталіцы Рэспублікі Беларусь — горада Мінска". Нечарговая восьмая сесія Мінскага гарадскога Савета дэпутатаў вырашыла аб'явіць конкурс на стварэнне герба і гімна горада і даручыла Мінгарвыканкаму і прэзідыуму Савета забяспечыць распрацоўку праекта статуса Мінска, а затым вынесці прапановы на абмеркаванне грамадскасці. Усё гэта добра. Але няўжо дэпутаты Мінскага гарсавета забыліся, што ў сталіцы нашай краіны ёсць герб, якому ўжо не адно стагоддзе?

### *ПАДВЫШЭННЕ ТЫДНЯ*

Адбылося павышэнне тарыфаў на паслугі міжнароднай тэлефоннай і тэлеграфнай сувязі. Цяпер адна мінута тэлефоннай размовы з еўрапейскай часткай Расіі ацэньваецца ў 243, а з азіяцкай — у 294 рублі. Ільготны тарыф па гэтых рэгіёнах, які дзейнічае ў рабочыя дні тыдня з 21 гадзіны вечара да 9 гадзін раніцы і кругласутачна ў выхадныя і святочныя дні, складае 162 і 196 рублёў адпаведна. Новы кошт адной хвіліны тэлефоннай сувязі з Латвіяй, Літвой і Эстоніяй — 305 (ільготны — 203 рублі), з Германіяй і Балгарыяй — 291 рубель (ільготны — 194 рублі), са ЗША — 904 рублі (ільготны — 452), з Ізраілем — 1085 (ільготны — 529). Так што выбірайце калі і куды званіць, а баіцеся прагаварыць усю зарплату — пішыце пісьмы.

### *ЦЭНЫ ТЫДНЯ*

Выраз "Машина не роскошь, а средство передвижения" на сённяшні дзень гучыць не толькі актуальна, але і як пацвярджэнне адваротнага "Машина роскошь, а не средство передвижения". А справа ў тым, што ўведзены ў дзеянне новыя аптовыя і рознічныя цэны на нафтапрадукты, што адгружаюцца канцэрнам "Белнафтахім" і рэалізуюцца прадпрыемствамі яго сістэмы праз аўтазаправачныя станцыі. Цяпер цана рэалізацыі паліва праз АЗС прадпрыемстваў, што ўваходзяць у яго сістэму, і цана рэалізацыі АЗС па аўтамагістралі "Брэст—Масква" адпаведна складае (з улікам падатку з продажу і ПДВ): бензіну А-76 — 361 рубель за літр у першым выпадку і 368 рублёў у другім; бензіну А-92 — адпаведна 459 і 468 рублёў за літр; бензіну АІ-95 — 526 і 537 рублёў за літр; дызельнага паліва — 335 і 342 рублі за літр адпаведна пры продажы праз АЗС прадпрыемстваў сістэмы канцэрна і праз АЗС на аўтамагістралі "Брэст—Масква". Апошні раз цэны на нафтапрадукты ў Беларусі павялічваліся 7 верасня.

### *МІЛАСЭРНАСЦЬ ТЫДНЯ*

Цэны растуць. Пенсіі і зарплаты не паспяваюць за іх ростам, таму і не дзіва, што ў нашай краіне нямала людзей, якія жывуць за рысай беднасці. Каб падтрымаць бедных, у Мінску пачала працаваць сталовая для маламаёмых Яна адкрылася ў кафэ "У гаспадыні" па вул. Любімава. Бясплатная сталоўка для бедных была арганізавана Беларускім дабрачынным фондам "Дзецям Чарнобыля" ў рамках праграмы "Кухня для бедных". Праграма ўключае ў сябе не толькі арганізацыю штодзённых гарачых абедаў (на іх выдаткоўваецца 800 рублёў на чалавека ў дзень), але і аказанне медыцынскай дапамогі, забеспячэнне лекамі, а таксама арганізацыю святаў і дзён нараджэння. Наблага...

*КАНФЕРЭНЦЫІ*

# Гаварыць праўду

13 верасня ў Доме дружбы адбылася міжнародная канферэнцыя "Разбуранае стагоддзе: хроніка будучыні", арганізаваная Міжнародным жаночым фондам Святой Еўфрасінні Полацкай і літаратурна-мастацкім фондам "Гронка". На канферэнцыі абмяркоўваліся праблемы, звязаныя з наступствамі аварыі на Чарнобыльскай АЭС. У рамках канферэнцыі адбылася таксама прэзентацыя зборніка "Жанчына. Планета. Будучыня" і сустрэча з яго аўтарамі і ініцыятарамі "Усебеларускай жаночай школы правоў". І яшчэ значная падзея — прэзентацыя беларускага выдання "Чарнобыльскай малітвы" Святланы Алексіевіч. На беларускую мову кнігу пераклаў Мікола Гіль, выйшла яна пры дапамозе літаратурна-мастацкага фонду "Гронка", на чале якога — галоўны рэдактар часопіса "Полымя" Сяргей Законнікаў. Вяла рэй на імпрэзе старшыня фонду Святой Еўфрасінні Полацкай Валянціна Коўтун.

У выступленнях удзельнікаў канферэнцыі падымаліся важныя праблемы і называліся жахлівыя факты. Дырэктар Інстытута радыяцыйнай медыцыны і экалогіі прафесар Астапенка адзначыў, што чарнобыльскае заканадаўства, нягледзячы на яго слушнасць, не выконваецца. Эколаг В. Несцярэнка выказаў думку, што атамная тэхналогія — гэта тэхналогія высокай рызыкі, непрыдатная для Беларусі. Выконваючая абавязкі старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў Вольга Іпатава адзначыла вялікую ролю ў сусветным разуменні небяспекі атамных тэхналогій кніг С. Алексіевіч. Аляксандр Фядута сцвердзіў, што кнігі С. Алексіевіч — гэта голас эпохі. Прадстаўнік грамадскай арганізацыі "Дзеці Чарнобыля" Тамара Белавокая таксама адзначыла вялікую ролю кніг пісьменніцы ў павышэнні цікавасці сусветнай супольнасці да лёсу беларускіх дзяцей. Сяргей Законнікаў распавёў гісторыю выхаду ў свет "Чарнобыльскай малітвы" на беларускай мове. Фінансавалі выданне і імпрэзу Пастаяннае Прадстаўніцтва ААН на Беларусі, праграма "MATRA", Пасольства Нідэрландаў у Польшчы, грамадская арганізацыя "Жыццё пасля Чарнобыля", спонсары з горада Брэмена. На Беларусі ж не знайшлося мецэната, які быў бы зацікаўлены ў выхадзе кнігі там, дзе яна была напісана, і для тых, пра каго напісана. Як сказала ў сваім выступленні сама Святлана Алексіевіч, "Чарнобыльская малітва" да першага выдання на Беларусі была выдадзена ў семнаццаці краінах свету. Пісьменніца разважала пра тое, што гэта сімптаматычна для "нацыі, якая спазнілася". Але выйсце са стану штучна спыненага часу ёсць. Найперш у тым, каб кожны на сваім месцы рабіў тое, што належыць, што лічыць адпаведным сваім сумленню. С. Алексіевіч расказала пра неадназначнае стаўленне нашага грамадства да тэмы Чарнобыля. Людзі не жадаюць асэнсаваць катастрофу, якая адбылася з імі. Пісьменніца гаварыла пра набалелыя, вельмі актуальныя праблемы — адсутнасць духоўных ідэалаў у маладога пакалення, расчараванне пакаленняў старэйшых, праблему інтэлектуальнай эліты, якая не можа адыграць рашаючую ролю ў жыцці грамадства... "Я пішу не пра страх, а пра тое, як чалавеку застацца чалавекам", — сцвердзіла пісьменніца. "Не справа літаратуры — сатрасаць жахам, а — даць апірышча". Пра закранутыя пісьменніцай праблемы гаварылі Сяргей Грахоўскі, Пётр Садоўскі, Вера Буланда, прафесар Ефрасіння Бондарава, грамадская дзяячка Вольга Абрамава...

Для прысутных іграў вядомы гітарыст Я. Скрыган.

**Н. К.**

# У Саюзе беларускіх пісьменнікаў

У кнігарні "Светач" адбылася прэзентацыя новай кнігі вядомай пісьменніцы Вольгі Іпатавай "Залатая жрыца Ашвінаў", што выпушчана ў перакладзе на рускую мову выдавецтвам "Мастацкая літаратура" ў серыі "Беларускі бестселер". Перад навучэнцамі гандлёвай вучэльні, супрацоўнікамі кнігарні, наведвальнікамі выступілі дырэктар выдавецтва Георгій Марчук, загадчык рэдакцыі арыгінальнай паэзіі і прозы Леанід Дранько-Майсюк, паэты Алесь Пісьмянкоў, Навум Гальпяровіч, артыстка Галіна Дзягілева, перакладчыца Ірына Качаткова. Вольга Іпатава распавяла пра своеасаблівасці аўтарскай працы над гістарычнай тэматыкай.

●

На сустрэчы з вучнямі і настаўнікамі беларускамоўнай школы N 15, што месціцца ў Серабранцы, празаік Яўген Каршукоў падрабязна расказаў пра работу Саюза беларускіх пісьменнікаў, пра дзейнасць аб'яднання "Літаратар", якое рэгулярна на працягу многіх гадоў праводзіць пасяджэнні ў СБП. Аўдыторыя цёпла прымала Зміцера Вішнёва, Альгерда Бахарэвіча, Віктара Жыбуля, якія чыталі свае вершы, падзяліліся планамі на будучае. Нязмушана таксама ішла гаворка пра "Анталогію беларускай паэзіі" на балгарскай мове, што выйшла ў Сафіі, і ахоплівае перыяд ад Кірылы Тураўскага да нашых дзён.

**М. Р.**

●

На чарговы "Траецкі кірмаш" у Мінску прыязджалі народныя майстры, самадзейныя артысты і творчыя калектывы Маларыцкага раёна Брэсцкай вобласці. Сярод іх былі і літаратары. Па традыцыі заняткі з імі праводзілі прадстаўнікі Саюза пісьменнікаў.

**Н. Г.**

●

Аб'яўлены міжнародны конкурс на лепшы музычна-літаратурны твор, прысвечаны братэрству пагранічнікаў дзяржаў-удзельнікаў СНД. Мэты конкурсу — адлюстраваць сродкамі музычна-літаратурных твораў гістарычна існуючае братэрства пагранічнікаў у забеспячэнні бяспекі народаў дзяржаў-удзельнікаў СНД;

— скласці праўдзівы вобраз пагранічніка — захавальніка і прадаўжальніка гераічных традыцый пагранічнай службы;

— скласці песню аб воінах-пагранічніках, якая стала б афіцыйным музычна-літаратурным творам Савета камандуючых Пагранічнымі войскамі.

Больш падрабязна з умовамі конкурсу і тэрмінамі яго правядзе ня можна пазнаёміцца ў ваенна-ш скай камісіі СБП. Тэл. 236-96-81.

**Н. К.**

# Сустрэча ў Скарынаўскім цэнтры

***З нагоды свята 500-годдзя аб'яўлення Мінскай іконы Божай Маці, натхнёныя Днём Тварэння, сябры Беларускага шляхетнага клуба на сваёй чарговай сустрэчы ў Скарынаўскім цэнтры абмеркавалі пытанні аднаўлення дзейнасці Інстытута дaследаванняў Цэнтральнай і Усходняй Еўропы.***

Сустаршыня арганізацыйнага камітэта па рэалізацыі праграмы "Хрысціянству-2000" Любоў Уладыкоўская-Канапляннік падзялілася сваімі меркаваннямі аб значэнні навуковага вывучэння феномену хрысціянства на Беларусі, асабліва як культуратворчага фактару, што, на яе думку, дапаможа актывізацыі хрысціянскага чынніка ў духоўна-маральным аздараўленні грамадства, у змяншэнні праяў рэлігійнага сектанцтва, бязвер'я, захаплення масавай культурай, асабліва сярод моладзі, а таксама паспрыяе комплекснаму асэнсаванню беларускай культуры, увядзенню ў жывы кантэкст яе выкінутых і забытых старонак.

Айцец Аляксандр Шымбалёў распавёў пра нашчадкаў беларускай шляхты, падкрэсліў неабходнасць і вялікую значнасць для нашага грамадства адраджэння лепшых шляхетных рысаў: пачуцця ўласнай годнасці, высакародства, гістарычнай памяці.

Была заслухана таксама інфармацыя старшыні прэзідыума ініцыятыўнага камітэта па стварэнні Мінскага каталіцкага універсітэта праф. Анатоля Грыцкевіча, які паведаміў аб паляпшэнні кола сябраў рабочай групы, выпрацаванай канцэпцыі функцыянавання і мэтах універсітэта, аб яго арганізацыйнай структуры і падрыхтаванай вучэбнай дакументацыі.

*УГОДКІ*

# Пад сцягам вольнасці

80 гадоў таму, у верасні 1920 года ў Мінску выйшаў першы нумар літаратурна-мастацкага і навуковага ілюстраванага часопіса "Вольны сцяг". Нядоўгім быў шлях гэтага выдання: пабачыла свет усяго дзевяць нумароў, апошні датаваны студзенем 1922-га. Аднак не зважаючы на гэта, трэба сказаць, што "Вольны сцяг" пакінуў прыкметны след у беларускай журналістыцы і нямала спрыяў развіццю нацыянальнай літаратуры. Дзякуючы гэтаму часопісу чытачы змаглі пазнаёміцца з творамі, якія сёння ўвайшлі ў залаты фонд беларускага прыгожага пісьменства. У прыватнасці, былі надрукаваны раздзелы з паэм "Новая зямля", "Сымон-музыка" і аповесці "У палескай глушы" Я. Коласа, драматургічныя творы "Пакрыўджаныя", "Збянтэжаны Саўка" Л. Родзевіча, "Вучыцель Мутарка" М. Гарэцкага, пераклад "Слова аб палку Ігаравым", зроблены Я. Купалам пад назвай "Песня аб паходзе Ігара" і іншыя. З вершамі выступалі Я. Купала, З. Бядуля, М. Чарот, М. Грамыка, Я. Журба і іншыя аўтары. Часопіс даў зялёнае святло апавяданням З. Бядулі, Ц. Гартнага, М. Гарэцкага... Надавалася ўвага і літаратурнай спадчыне, пацвярджэнне таму публікацыя твораў А. Гаруна і К. Каганца. Знайшлося месца ў "Вольным сцягу" і матэрыялам гістарыка-краязнаўчага характару. Адзін з іх — "Кароткі нарыс нацыянальна-культурнага адраджэння Беларусі". Часопіс выходзіў у чорна-белай вокладцы, але ў апошняга нумара яна каляровая.

ВІНШУЕМ!

# Голас па-за часам

Ён адсвяткаваў ужо не адзін юбілей: і "залаты", і той, што адзначаюць праз наступныя 10 гадоў і што для большасці сімвалізуе надыход "заслужанага адпачынку"... Сёлета ў яго таксама знамянальная дата: 40 гадоў працоўнай (творчай!) дзейнасці.

Людзі дасведчаныя кажуць, што афіцыйна гэтая дзейнасць пачалася 1-га верасня 1960 года, калі выпускнік Маскоўскай кансерваторыі, ураджэнец Віцебска Аркадзь Саўчанка быў залічаны ў оперную трупу Акадэмічнага Вялікага тэатра Беларусі. З гэтай нагоды калектыў (да яго знакаміты цяпер спявак, народны артыст СССР Аркадзь Саўчанка паставіўся з рэдкаснай у тэатральным асяроддзі адданасцю, пастаянствам) рыхтуе яго бенефіс.

Вядома, што ў якасці бенефіса зазвычай выбіраюць спектакль, дзе герой падзеі можа паказацца з найлепшага боку. Але тут выбраць няпроста. Незвычайнасць сітуацыі ў тым, што яркі вакальны талент А. Саўчанкі, падмацаваны выдатнай школай і сур'ёзнай працай артыста па ўдасканаленні спеўнага і сцэнічнага майстэрства, за 40 гадоў самаадданага яго служэння тэатру застаўся нібы непадуладным часу. Мяняліся дырыжоры, рэжысёры, канцэртмайстры, партнёры ў спектаклях; адыходзіла старое пакаленне прыхільнікаў оперы, сталела маладзейшая публіка і гадаваліся новыя меламаны... А голас Аркадзя Саўчанкі нібыта і не мяняўся: усё той жа багаты абертонамі непаўторны тэмбр, усё тое ж роўнае, па-маладому сакавітае, па-акцёрску пластычнае і натхнёнае гучанне. І — захапляюча дакладная дыкцыя, чым заўсёды вылучаўся і вылучаецца А. Саўчанка нават у складаных оперных ансамблях.

Дык вось, які б спектакль ні абралі сёння, каб ушанаваць бенефіцыянта, ён мог бы з годнасцю выканаць кожную вядучую партыю барытонавага рэпертуару. На цяперашняй афішы нават няма стольні назваў, колькі ёсць іх у творчай біяграфіі артыста, Аркадзь Саўчанка — гэта і Анегін, і Жорж Жэрмон, і тарэадор Эскамільё, і Міхал з "Новай зямлі", і Рыгалета, і маркіз дзі Поза з "Дона Карласа", і Дон Жуан, і Андрэй Балконскі, і Максім Багдановіч з "Зоркі Венеры", і Апанас з "Алесі", і Малатэста з "Дона Паскуале", і Мізгір, і граф Альмавіва, і Фігара... Спіс оперных персанажаў, увасобленых А. Саўчанкам, можна прадоўжыць — і ён будзе ўтрая большы.

А ўсё ж які спектакль абраны для бенефіса? Адзін з лепшых у сённяшнім рэпертуары: "Князь Ігар". Магутны і драматычны герой оперы А. Барадзіна — герой Аркадзя Саўчанкі будзе ў цэнтры ўвагі публікі, партнёраў па сцэне, артыстаў аркестра на чале з дырыжорам увечары 28-га верасня.

**С. БЕРАСЦЕНЬ**



*На здымку: А САЎЧАНКА ў оперы Я. Глебава "Майстар і Маргарыта".*

*Фота А. ДЗМІТРЫЕВА*

ВЕЧАРЫНЫ

# Трымае ў руках стыхію...

Напачатку, вядома ж, было слова. Уладзімір Шаліхін прадавіў героя вечарыны, якога запомніў яшчэ як вучня музычнай школы ў Гомелі, дзе пачынаў "музычныя універсітэты" і сам — студэнтам вучэльні. Валерый Анісенка прачытаў даўні верш Уладзіміра Салавухіна "Дырыжор рапсодыі Ліста", выклікаўшы, апроч радаснага ўзрушэння, і шкадаванне: чаму такога паэтычнага, ёмістага на эмоцыі, трапныя метафары, сапраўды музычныя вобразы прызнання Дырыжору, апявання яго чарадзейнага мастацтва, няма ў беларускай літаратуры?

Адразу ж захацелася перакласці. Але са шматлікіх, доўгіх радкоў дакладна запомнілася толькі гэта: "Я слухаў музыку, сачыў за дырыжорам... І гукі ён з бязмоўя выклікаў... Рух палачкі — і ўкленчылі ўсе гукі, і ў музыку пакорліва зліліся.... Трымаць у руках стыхію — і ёсць мастацтва. Брава, дырыжор!"

Для маэстра Анатоля Лапунова — мастацкага кіраўніка і галоўнага дырыжора сімфанічнага аркестра Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Беларусі, тая філармонічная вечарына сталася чарговым выпрабаваннем стыхіяй.

Пасля слова, што было напачатку, не музыка (як тое чакалася) загучала — грымнула стыхійная авацыя, і публіка ў партэры стоячы павітала "утаймавальніка аркестра". Яму ж трэба было засяродзіцца і адкрыць канцэртную праграму, падрыхтаваную да ўрачыстай нагоды: маэстра адзначаў сваё 60-годдзе і 25-годдзе творчай дзейнасці.

Дарэчы, за гэтыя 25 гадоў Анатолю Лапунову давялося папрацаваць і галоўным дырыжорам Дзяржаўнага тэатра музычнай камедыі, і ў філармоніі — за пультам Акадэмічнага сімфанічнага аркестра... Цяпер вось — на чале досыць спецыфічнага выканаўчага калектыву, якому наканавана штодня, свету Божага не бачачы (у літаральным сэнсе — дзённага святла), рэпеціраваць у студыі і рыхтаваць фондавыя запісы, з якіх складаецца скарб музычнай радыёфанатэкі. Зрэдчас выпадаюць адкрытыя публічныя выступленні. Яшчэ радзей шанцуе на гастролі. Але пад кіраўніцтвам А. Лапунова спраўдзілася нават некалькі замежных вандровак.

Ды галоўны чын — студыйныя запісы. І перадусім — новых беларускіх партытур.

Менавіта з такіх партытур і выбраў першы нумар сваёй юбілейнай праграмы маэстра: Д. Смольскі, Варыяцыі для сімфанічнага аркестра "з беларускім менталітэтам", як пазначана ў аўтара. Жаласлівы матыў "Перапёлачкі", загадкавыя стылёвыя калажы, нейкія безвыходныя супастаўленні ды канфлікты, "талерантны" гумар... Таямніца па-канцэртнаму яркага твора трымала слухацкую ўвагу і тых, каму ўжо даводзілася яго чуць, і тых, для каго гэта было першае ўражанне.

Музычная стыхія выпрабоўвала дырыжора як ніколі. Гэта ў студыі можна спыніцца пасярод выканання, зрабіць заўвагу, паспрабаваць іншы варыянт, выправіць тэхнічны хіб, запісаць некалькі дубляў, каб потым, пры мантажы стужкі, выбраць лепшы. На жывым канцэрце даводзіцца трымаць форму, вобразны, эмацыйны стан, трываючы ўсё: і "кіксы" трубы, і фальшывы строй валторнаў, і нехаайную фразіроўку струнных... Не сказаць, што гэтага было замнога. Але сказаць, што не было, — значыць і самой сфальшывіць. Зрэшты, жывыя людзі са сваімі праблемамі ды хваляваннямі сабраліся і на сцэне, і ў зале і цудоўна разумелі адно аднаго.

"Без дубляў" і нават без антракта гралі музыканты разам ўю эфектную праграму: "Палавецкія скокі", з "Князя Ігара" А. Барадзіна (адсутнасць хору надавала гучанню гэтага папулярнага фрагмента дзіўную "акампанементную" арыгінальнасць); Скерца з Шостай сімфоніі П. Чайкоўскага; бліскучую, "заразлівую" і, дарэчы, цудоўна ўвасобленую музыку І. Штрауса, А. Дворжака...

Хвалі музыкі чаргаваліся з хвалямі воплескаў, а наднокжа дырыжорскага подыума спакваля схавала стракатая хваля кветак. Заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі А. Лапуноў дзякаваў за ўсе віншаванні, пачутыя ў той вечар на сцэне, за тэлеграмы ад калег, за падтрымку сяброў-спонсараў, якія дапамаглі наладзіць урачыстасць і нават зрабіць памятны сюрпрыз для публікі (усім гледачам пры ўваходзе ў філармонію ўручалі каляндарык на будучы год з каляровым партрэтам А. Лапунова).

Асаблівую ж удзячнасць ён выказаў сваім слухачам, сустрэчы з якімі ў зале адбываюцца не часта, але нясуць такі магутны энергетычны зарад, што падсілкоўвае творча, дае магчымасць жыць у мастацтве і рухацца далей, не адчуваючы цяжару гадоў...

**С. Б.**



*На здымку: маэстра А. ЛАПУНОЎ у радыёстудыі.*

*Фота В. СТРАЛКОЎСКАГА*

АБСЯГІ

*ГОМЕЛЬШЧЫНА...*

## Рыхтуюцца да вернісажа

Адбыўся сход абласной арганізацыі Саюза мастакоў. На ім былі разгледжаны пытанні, звязаныя з выставачнай дзейнасцю. Адзначалася, у прыватнасці, што многія гомельскія мастакі актыўна ўдзельнічаюць у абласных, рэспубліканскіх і замежных выставах, наладжваюць свае персанальныя экспазіцыі ў Гомелі, Светлагорску, Мазыры. А гэтымі днямі ідзе падрыхтоўка да вернісажа "Рэчыцкія далягляды". На сходзе ў Саюз мастакоў былі прыняты М. Заберан, Я. Кір'янаў і М. Асаўляк.

## Трынаццаць — лічба шчаслівая

Закончылася рэканструкцыя Рэчыцкага палаца культуры і тэхнікі з глядзельнай залай на 700 месцаў вытворчага аб'яднання "Беларуснафта". Тут працуе трынаццаць творчых калектываў. Яны — неаднаразовыя ўдзельнікі рэспубліканскіх і міжнародных фестываляў. Асаблівай папулярнасцю карыстаюцца народны хор "Рэчыцкія зоры", ансамбль народных інструментаў "Лірыца", узорны дзіцячы ансамбль "Асарці".

З нагоды адкрыцця новай залы адбыўся канцэрт з удзелам лепшых самадзейных калектываў раёна.

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

*ВІЦЕБШЧЫНА...*

## Баюць байкі ў Барані

У Барані пад Оршай прайшлі ўрачыстасці ў гонар 90-годдзя земляка, выдатнага байкапісца Уладзіміра Корбана. На сустрэчу з моладдзю і тамтэйшай інтэлігенцыяй прыехалі галоўны рэдактар часопіса "Вожык" Міхась Пазнякоў, гумарыст Рыгор Яўсееў, пісьменнікі і паэты з Віцебска Франц Сіўко, Барыс Беляжэнка, Міхась Міранович, Людміла Семанёнак. На будынку сярэдняй школы N 15 была адкрыта мемарыяльная дошка, а ў санаторыі мясцовай фірмы "Лёс" адбылася літаратурная вечарына. Прайшлі сустрэчы і ў іншых школах Аршаншчыны.

## Мадонна Людмілы Ярмолавай

Віцебская мастачка Людміла Ярмолава прадставіла на суд гледачоў выставу сваіх новых работ, выкананых алеем на кіотах. У аснову творчасці Ярмолавай пакладзены біблейскія сюжэты, а любімы вобраз — Мадонна — прысутнічае на розных іконах мастачкі. Выстава называецца "Жыць Раждством". Людмілу шчыра павіншавала медыцынская грамадскасць горада — па прафесіі Ярмолава ўрач, але занятце мастацтвам лічыць своеасаблівай споведдзю перад Богам. Невыпадкова адна з яе работ знаходзіцца ў кляштары назарацянак у Італіі.

**Святлана ГУК**

*БРЭСТЧЫНА...*

## Аўтографы з любоўю

Вечарына памяці выдатнага пісьменніка і вучонага Уладзіміра Калесніка адбылася ў Брэсцкім дзяржуніверсітэце, дакладней — у тутэйшым навукова-асветніцкім цэнтры яго імя. Навукоўцы, пісьменнікі дзяліліся сваімі ўспамінамі пра Уладзіміра Андрэевіча, гаварылі пра ягоны вялікі ўклад у беларускае літаратуразнаўства і педагогіку, у справу нацыянальнага адраджэння. Сустрэча праходзіла на фоне багатай выставы кніг з аўтографамі былых сяброў, калег і паплечнікаў Уладзіміра Андрэевіча Калесніка, падараваных яму з любоўю і ўдзячнасцю, — Алеся Адамовіча і Янкі Брыля, Уладзіміра Караткевіча і Івана Мележа, многіх іншых... Наладзілі выставу актывісты Таварыства беларускай мовы і гаспадыня цэнтра, удава пісьменніка Зося Міхайлаўна Калеснік. Своеасаблівымі аўтографамі незабыўнаму чалавеку былі таксама вершы і песні, што прагучалі ў той вечар.

## Новыя кнігі

Працягвае радаваць чытача цікавымі кніжкамі брэсцкае выдавецтва С. Лаўрова. Зусім нядаўна тут выйшлі зборнік вершаў Валянціны Осіпавай "Навстречу разлукам" і празаічны зборнік Аляксея Філатава "Адарваць ад сэрца". Кнігі аб'ядноўвае пільнае ўзіранне аўтараў у жыццё, спавядальнасць, прыстойная мастацкая якасць твораў. Зрэшты, імёны гэтых літаратараў добра вядомыя чытачам. Вершы Валянціны Осіпавай часта паяўляліся ў рэспубліканскай перыёдыцы, адзначаліся прэміямі. А Аляксей Філатаў заявіў пра сябе некалькімі кнігамі аповесцяў, апавяданняў, мініяцюр. Аснову яго новай кнігі (прадмову да якой, дарэчы, напісаў Фёдар Яфімаў) склала аднайменная аўтабіяграфічная аповесць пра бурлівыя 50—60-ыя гады.

**Сымон АКСЕНІН**

*МІНШЧЫНА...*

## У саліста "Вяселля" — юбілей



Вядомы выканаўца беларускіх народных песень, саліст беларускага ансамбля народнай музыкі "Вяселле" Міхась Пацук адзначае сваё 50-годдзе. Творчы вечар спевака адбудзецца 3 кастрычніка а 19 гадзіне ў канцэртнай зале Белдзяржфілармоніі. У канцэрце прымуць удзел Ядвіга Паплаўская і Аляксандр Ціхановіч, Надзея Мікуліч, Святлана і Уладзімір Салодкія, Ніна Бранковіч, Валянціна Крыловіч, выканаўца беларускіх прыпевак Тамара Ліхадзіеўская, вакальны ансамбль "Крэсіва" пад кіраўніцтвам Анатоля Казака, фальклорныя ансамблі "Скарбніца", "Радавод"... Праграму вядзе дыктар радыё Кацярына Ягорава. Рэжысёр канцэрта Ніна Осіпава. Квіткі можна набыць у касе філармоніі. Даведкі па тэлефонах: 260-74-96, 284-79-00. Спонсары канцэрта: фірмы "Дарыда", "Белмедінфарм", "Атлант", "Ітэргруп", "Інтэр-Партнёр". Інфармацыйныя спонсары: газеты "Вячэрні Мінск", "Літаратура і мастацтва", радыёклуб "Фальклор", фірма "Ковчег", музычная рэдакцыя Беларускага радыё.

**М. ТУРАВЕЦ**

АДГАЛОСКІ

## Спосаб лячэння прызнаны, а хвароба — не?

З цікавасцю прачытаў інтэрв'ю з пісьменнікам В. Якавенкам "Хвароба Шумілава" "ці не выклік багам?". Шчыра ўдзячны, што "ЛіМ" спрабуе абараніць навукоўца і выступае супраць яго цкавання, супраць бюракратызму і абыякавасці.

Кандыдат медыцынскіх навук Шумілаў сапраўды творча падыходзіць да праблемаў аздараўлення нашага вымірaючага народа. Таму пазіцыя ўрача цалкам адпавядае інтарэсам нацыянальнай і дзяржаўнай бяспекі. Будзе беларускі народ — будзе і беларуская дзяржава.

Нават Дзяржаўны патэнтны камітэт РБ прызнаў яго новыя методыкі лячэння і абараніў іх патэнтам. Парадаксальна, што ёсць афіцыйна прызнаны спосаб лячэння сіндрому хранічнай стомленасці, але няма назвы самой хваробы ў, відавочна, ужо састарэлым класіфікатары мінздрава Беларусі. Замест таго, каб дапоўніць існуючы класіфікатар, арганізуецца цкаванне ўрача, звальненне яго з працы.

**Міхаіл ЦЯЎЛОЎСКІ,**
**заслужаны дзеяч навукі РБ, акадэмік, доктар тэхнічных навук.**

# Крымская сага

ВАНДРОЎКІ

***Ужо не першы год запар карэспандэнт “ЛіМа” ўлетку адпраўляецца ў вандроўку па Крыме. У розныя месцы. У складзе студэнцкага будатрада ці самастойна, вялікай кампаніяй ці паасобку. Здавалася б, час натоліцца і прызвычаіцца. Аднак новых уражанняў процьма і рука мімволі цягнецца іх занатаваць. Ну а пасля, вядома ж, падзяліцца.***

●

Цягнік “Мінск—Сімферопаль”. Паступова прыходзіць разуменне таго, што нарэшце вырваўся ў адпачынак, змяніў дажджы на спёку. На шостую раніцу заспаным вокам вычэпліваеш у вакне назву станцыі — Гарнастаеўка. Хутка мяжа з Украінай. Тэрыторыя валютчыкаў і памежнікаў. Калі першыя гавораць ціха і праходзяць хутка, то другія патрабуюць настойліва, гледзячы прама ў вочы. Здаецца, галасы і першых і другіх зліваюцца ў адну фразу: “Падрыхтуйце дакументы... Самы лепшы курс”. Хвалююся. І не таму, што зрабіў нешта супрацьзаконнае (гэта назад я буду везці больш за тры дазволеныя літры віна, зараз жа ўсё ў норме). Проста, па чутках, за год змяніліся правілы выезду. І што цікава, нават у АВІРАХ гэтых правілаў не ведаюць. Тэлефануючы туды, пытаўся, ці патрэбныя якія дадатковыя адзнакі ў агульнаграмадзянскі пашпарт. Паўсюль мне казалі супрацьлеглыя рэчы. І нават амбасадар Украіны Анатоль Дронь не ўнёс дакладнасці ў гэтую блытаніну. Гэта зараз вядома, што з 2001 года для ўезду на тэрыторыю краіны-суседкі трэба будзе мець у сіненькай кніжачцы ўзору 1996 г. (абавязкова!) штампік для выезду за мяжу. Тады ж, працягваючы пашпарт з “Пагоняй”, чакаў горшага. Горшага не здарылася.

Увогуле, грэх скардзіцца. Мяркую, даволі шмат людзей гэтым летам зусім не змаглі выехаць на Поўдзень. Лічыце самі: квіткі на цягнік былі прададзены ў пачатку ліпеня да верасня ўключна. З'явіўся, што праўда, новы аўтобус з такім жа маршрутам, але квіткі прадаюцца толькі ў адзін бок. Адказ на пытанне: “Як жа вярнуцца назад?” службу не цікавіць. З гэтага складанага становішча кожны шукаў выйсце па-свойму. Аўтару пашчасціла быць добра знаёмым са старэйшай касіркай чыгуначнага вакзала, і білеты “з'явіліся” за два дні. А прыяцелька, пра якую размова ніжэй, згуляўшы ў святую наіўнасць і ўразіўшы ўсіх сваёй непасрэднасцю, дайшла да начальніка станцыі “Мінск-пасажырскі”. Праўда, ужо ў вагоне будучая кліентка санаторыя “Сімеіз” была вымушана трываць падселеных да яе ў купэ безбілетных пасажыраў. Праваднік, да якога абураная курортніца звярнулася па дапамогу, толькі развёў рукамі. Маўляў, мне ж таксама трэба нечым на жыццё зарабляць.

●

Знаходзячыся за мяжой Беларусі, паступова прызвычайваешся да таго, што руская мова тут не з'яўляецца пануючай. Паступова ўкраінізацыя краю дае свой плён. Вось ужо нават абвесткі на дробных станцыях — толькі на мове карэннага насельніцтва. І ладна, калі б толькі фразы кшталту “Станцыя такая-та”, “Адлік вагонаў пачынаецца з галавы цягніка”, “Адпраўленне а такой-та гадзіне”. Не! Лаянка паміж дыспетчарамі, размова абходчыкаў. Усё гэта, канечне, смажыцца інтэрнацыянальным матам, але не можа пакінуць абыякавым. Вядома ж, ілюзія, але часам здаецца, што нават гандляры рознай драбязой пераходзяць на “великий и могучий” толькі з мэтай дагадзіць пакупніку.

У адчыненыя вокны цягніка прасоўваецца піва “Абалонь”, і першае, што кідаецца ў вочы, — этыкетка змяшчае пераклад з украінскай на ангельскую, нямецкую, але ж не на мову “старэйшага брата”. У самім Крыме такіх назіранняў робіш менш. Усё ж інтэрнацыяналізм тут, на жаль, пераважае над нацыяналізмам. Шматлікія турысты з Расіі, Беларусі і Карэі (ёсць і такія) з мясцовымі жыхарамі стасуюцца па-руску. Гэта, аднак, не замінае гасцям з Заходняй Украіны пачуваць сябе годна на абруселых землях. Той, каму даводзілася, стоячы ў чарзе масквічоў, пачуць за сабою вісклівае дзявочае “Вы астатні?”, без намаганняў зразумее пачуцці беларуса пры сустрэчы са свядомым украінцам. Хоць якая “свядомасць” можа быць у гэтай малой? Нават усім абрыдлыя рэкламныя слоганы ўспрымаюцца там ледзь не за філалагічныя “изыски”. “Чудовий смак — то захіст від карієсу”, “Зазірні під кришачку”, “Жадаемо выйграці наступного разу”.

Варта адзначыць, што зрусіфікаваныя хахлы (яны самі сябе так называюць) успрымаюць гэтае вяртанне да каранёў як працэс цалкам натуральны і амаль не звязаны з палітыкай урада. Да месца будзе згадаць, што пераважнай большасці народу жывецца цяжка, і як следства — кіраўнікоў сваіх украінцы не любяць. Хоць часам і аддаюць ім свае галасы на выбарах і рэферэндумах. Як было напісана на адной убачанай мною ўлётцы “Будзьце рэалістамі — галасуйце за Кучму”. За два тыдні нашага знаходжання ў Крыме толькі аднойчы давялося пачуць ад мясцовых жыхароў, што “занадта тут стала хахляцкага”. Той няшчасный прамоўцай сталася дачка асеўшага ў Крыме савецкага афіцэра. Не лішнім будзе дадаць, што сваімі поглядамі на “нацыянальнае пытанне” Вера дзялілася ў напаўп”яным стане з “раскручаным” на бутэльку турыстамі. Дзеля аб'ектыўнасці заўважым: такая Вера там не адна, разпораз сустракаюцца і другія прыхільнікі “маналітнага адзінства савецкіх народаў”, але, як мы неадназначна пераконваліся, такія людзі надвор'я ў аўтаномнай рэспубліцы Крым не робяць. Чаго не скажаш пра татараў, якіх на паўвыспе 250 тысяч...

У невялічкім пасёлку Сімеіз, у якім я апынуўся ў выніку дзіўнага збегу абставін, татары жывуць у асобным двухпавярховым будынку. Ён адгароджаны ад усіх высокім плотам. Над дзвярыма шыльда “Татарская община”. За той бок ад плота ўвесь час чулася незразумелая гаворка мясцовых мусульманаў. Нешта ўвесь час майстравалі чарнявыя мужчыны, і хавалі за тоўстымі тканінамі твар і целы жанчыны. (Дарэчы, заўважана, што нават свецкія дамы з краінаў, дзе пераважае нехрысціянскае веравызнанне, на пляжы паводзяць сябе больш сціпла за сваіх славянскіх аднагодак. Не распранаюцца цалкам, купаюцца і загараюць толькі ў закрытых купальніках. Іх целы не ўпрыгожваюць модныя міні-татуіроўкі). Тройчы на дзень ледзь не ўвесь Сімеіз слухае ўзмоцненыя мікрафонам спевы маладога мулы. Абавязковы перад малітвай рытуал першы раз адбываецца ранкам. Можаце сабе ўявіць пачуцці сонных кліентаў бліжэйшага санаторыя. Аднак адміністрацыям мясцовых аздараўляльных устаноў даводзіцца лічыцца з рэлігійнымі пачуццямі суседзяў. Пастаянныя ж наведвальнікі бара, што знаходзіцца побач з таварыствам, ведаюць: роўна ў 20.00 рэстаранная спявачка напаўслове абарве свой папсовы хіт, каб не заглушыць надакучлівага мулу. Няма нічога дзіўнага ў тым, што татар збольшага таксама не любяць. Аднак да сутычак, дзякуй Богу, пакуль не даходзіць.

Менш вытрыманыя, як высвятляецца, маскоўцы. У дзень, калі ў расійскай сталіцы быў здзейснены чарговы тэрарыстычны акт, рэха выбуху на Пушкінскай плошчы адгукнулася ў пераговорным пункце далёкага Сімеіза. У бітма забітым памяшканні пошты можна было здымаць праграму “Глас народа”. Антычачэнскую рыторыку з вуснаў усхваляваных за лёс родных масквічоў цяжка было спыніць самымі лагічнымі довадамі. Нечыя сумненні ў маральнасці толькі што абранага большасцю прэзідэнта РФ успрымаліся рускімі як асабістая абраза. Звесткамі і чуткамі пра трагедыю яшчэ доўга поўнілася пабярэжжа. Што і казаць, арганізатары злачынства дасягнулі сваёй мэты.

Натуральна, у такім прыгожым месцы зусім не хацелася разважаць пра палітыку, ведаць, што льецца кроў, шукаць правых і вінаватых. Нязвыкла кідкая прырода прываблівала, мора, адмысловыя кусты, якія чамусьці называюцца дрэвамі, безліч цікавых раслінаў, загадкавыя горы. Усё гэта хутчэй падштурхоўвала на наіўныя і радасныя вершы, чымсьці на гнеўны артыкул. Мабыць таму маленькі пакойчык, які быў зняты за 20 долараў і 50 грывен (з трэцяга па пятнаццатае жніўня) пераважна пуставаў, зачынены на ключ. (Цяжка не згадаць, што гэты пакойчык знайшоўся не адразу, браць на пастой дзікуна-адзіночку ніхто не хацеў. Аднак у маёй гаспадыні справа была пастаўлена на прафесійны ўзровень. Кожны кут у яе двары лічыўся “жылым памяшканнем”). Я ж, узіраючыся ў краявіды, сноўдаўся па ўзбярэжжы...

●

Вандраваць уздоўж мора можна на грамадскім транспарце, маршрутных таксі й аўтастопам. І тое, і другое, і трэцяе дорага і нязручна. Недахоп у краіне паліва, імклівы рост коштаў на бензін не дазваляюць кіроўцам прыватнага транспарту падвозіць мінакоў задарма. Праўда, у гэтым выпадку можна спакусіць вадзіцеля бутэлькай беларускай гарэлкі, вядома ж, калі яна ёсць. Маршруткі ў адрозненне ад мінскіх ходзяць бітма набітыя людзьмі. Таксама ходзіць гарадскі транспарт, толькі радзей разы ў тры. Вядома ж, ёсць розніца ў аплаце. Так маршрутка звозіць вас з Сімеіза ў Ялту і назад за чатыры грыўны. У час нашага леташняга знаходжання ў Крыме (канец ліпеня 99 г.) менавіта столькі тады каштаваў долар. Зараз жа “зялёны” ацэньвалі ў 5.23. Прычым, як паведамілі нам мясцовыя жыхары, на працягу ўсяго сезона курс амаль не змяніўся. Дакладна столькі ж трэба пакінуць было кантралёру перад уваходам у батанічны сад. Там сярод бамбукаў, пальмаў і кактусаў мы сустрэлі... Леніна. Вялізны бюст правадыра выклікаў у турыстаў з далёкага замежжа столькі ж эмоцый, колькі ў нас рэдкія расліны. Пра тэрмін знаходжання Уладзіміра Ільіча ў гэтым дзіўным месцы можна меркаваць па залатым надпісе на мармуры “30 год Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі”.

Не маглі мы абысці ўвагай пляж, на якім некалі бавіў час Мікалай II з сям'ёю. Яно й зразумела, Новы свет, дзе знаходзяцца гэтыя запаветныя мясціны, лічыцца адным з самых прывабных для турыстаў горадам. І сапраўды, там ёсць на што паглядзець. Ступіўшы крок на вузкую сцяжынку горнага “запаведніка”, ты ўжо не ў стане вярнуцца назад. Па-першае, таму што заплаціў за ўваход; па-другое, хочацца ўсё, што бачыш вакол, пакінуць на фотастужках. Толькі гротаў некалькі... Гэта раней там былі вінныя сховішчы (дзіркі ад паліцаў засталіся дагэтуль), сёння ж пырхаюць кажаны і шчыруюць пачынаючыя альпіністы. Пакуль ідзеш да месца, наслухаешся ад экскурсантаў розных легендаў і саб'еш аб камені ногі. Стомлены, падаеш на пясок і, закрыўшы вочы, успамінаеш нядобрым словам апошняга рускага цара, якога сюды (вядома ж!) прывозілі па моры, успамінаеш цяперашніх саматужных краязнаўцаў, што які ўжо раз даводзяць заможным гасцям, з якога валуна сігануў у ваду артыст Яроменка падчас здымкаў “Піратаў XX стагоддзя”...

Між іншым, чытаючы надпісы на шыльдах, не-не ды ўспомніш сатырыка Задорнава. Ну вось напрыклад: “Ремонт ножей, ножниц и ПРОЧЕЙ ДРЯНИ”. Абвесткі на пункце абмену валюты: “Фальшивые купюры не принимаем”, “Гости Крыма обслуживаются вне очереди”. Беларусам апошняе зразумець цяжка, бо ніякіх чэргаў каля абменнікаў няма. Купіць, прадаць, памяняць “долары, марачкі, расійскія рублі” тут можна на кожным кроку. Для гэтага не трэба прыходзіць з раніцы, хавацца ад міліцыі, трымацца правілаў канспірацыі, так неабходных мянялам у Мінску.

Як няцяжка здагадацца, увага да людзей немясцовых у гарадах-курортах надзвычайная. Ад самага прыезду вы маеце магчымасць адчуць на сабе ўсе “даброты” навязлівага сервісу: паўсюль сноўдаюць людзі з прапановамі купіць што-небудзь, зняць пакой ці кватэру, пракаціцца на катэры, зрабіць экскурсію і г.д. і д.п. Пры такой актыўнасці мясцовага насельніцтва і наплыву замежнікаў не можа не здзіўляць малакалькаснасць міліцыянтаў на вуліцах. Аднак і тыя, што ёсць, могуць падысці да вас і запытаць рэгістрацыю. Часовая прапіска — рэч настолькі ж неабходная, колькі і дарагая. Адпаведны штампік каштуе да дваццаці грывен (бліжэй да мора — лягчэй кашалёк). Несумленным курортнікам пагражае буйны штраф або пятнаццаць сутак зняволення. І добра, калі зловяць не ў першы дзень адпачынку... Калі пайшла ўжо размова пра грошы, варта ўзгадаць аб выглядзе ўкраінскіх рублёў (так па старой звычцы называюць грыўны). У адрозненне ад нашых разліковых білетаў з іх “пейзажамі”, “балетамі” і “нацюрмортамі”, грашовыя купюры суседзяў змяшчаюць аблічы нацыянальных дзеячаў мінуўшчыны. Да гэтага ўкраінцы прызвычаіліся настолькі, што пры азнаямленні з беларускімі грашыма задавалі непрыемныя пытанні. Заставалася па-добраму ўспамінаць інфляцыю, якая “зжэрла” “зайцоў”, “зуброў” і іншых жывёлінаў...

У тым жа Сімеізе некалькі пляжаў. Усе, апроч санаторных (уваход па санкартках), платныя. Заплаціўшы грошы, атрымліваеш квіток, якім можна карыстацца адзін дзень. І беражы вас Бог некуды сысці з абранага месца. На другіх пляжах квіткі другога ўзору...

А яшчэ ў Крыме безліч усялякіх бараў, кафэ, рэстарацыяў, пяльменных і г.д. Можна без перабольшання сцвердзіць: на любы густ. З танцпляцоўкай і без яе, са стрыптызам і без такога. Калі з'явіцца жаданне, можна нават на поўным сур'ёзе ў жніўні сустрэць Новы год (“Для тых, хто не паспеў зрабіць гэтага ўзімку”) і Дзень святога Валянціна.

А аблічаць вас паўсюль. Гэта дакладна. Асабліва калі вы прыйшлі разам з шыкоўнай жанчынай. І вы прамаўчыце, бо не будзеце ж псаваць сваёй сваркай усім цудоўны вечар.

Аднак гэта “кветачкі” ў параўнанні з тым, што робяць асобныя ўпраўныя людзі з недасведчанымі курортнікамі. Рэч у тым, што ў Крыме выдатныя віны і амаль поўная адсутнасць добрай гарэлкі. Амаль усе напоі, мацнейшыя за 30°, — спіртавы сурагат. І калі пра адсутнасць у Крыме “гаручай вадкасці” вядома, бадай, усім прыезджым, то як адрозніць сапраўднае віно ад падробкі, не ведаюць многія. Між тым усё проста: параўнайце кошты ў “фірмовых” крамах з коштамі ў шапіках і ў прыватных гандляроў. Розніца будзе велізарная, зразумець, дзе “ліпа” будзе не цяжка. Асаблівая ўвага на бутэлькі са словам “чорны” на этыкетках. “Чорны палкоўнік” ці “Чорны манах” — віны файныя, толькі не трэба купляць іх за долар. Добра, калі пад папулярнай назвай схаваўся кактэйльчык гарбаты са спіртам (быў такі выпадак), а калі што іншае?

Самае горшае, што прыняць атруту можна з рук сваіх жа сапляменнікаў. Варта сказаць, што беларусы на паўвыспе — гэта людзі або даўно з'ехаўшыя з Радзімы, або летнія госці накшталт мяне. Першыя з задавальненнем раскажуць, як у гады вайны (“адлігі”, застою) яны “ад'язджалі часова, а засталіся назаўжды”, будуць называць вас землякамі часова, а пасля папросяць набыць у іх гарачую пахлаву, кукурузу, піражкі ці халоднае піва. Між іншым, тут можна не казаць “Мне, калі ласка, з лядоўні”. Проста іншых напояў ніхто не трымае. Праўда, піва ў Крыме так сабе (якасць значна горшая за афармленне). А што яшчэ цікава, пустая шкляная тара тут нікога не цікавіць. Ніхто, як у нашай сталіцы, не рве з рук бутэлькі і не глядзіць прагна ў вочы. І пры гэтым чамусьці не даводзілася спатыкацца аб пустую тару. Анамалія, ды й толькі!..

Дык вось, іншыя беларусы прыязджаюць, каб адчуць на сабе ўсеагульную атмасферу ляноты і безадказнасці (абсалютная большасць). Ёсць і тыя, натуральна, дзяўчаты, хто едзе зарабіць грошы ў рэстарацыях (кухаркай ці афіцыянткай). Нехта раз у год мае магчымасць пабачыць каханага, а нехта наадварот збягае з дому ў пошуках імгненнага курортнага рамана.

●

Усё пачыналася прыгожа і рамантычна. На вакзале ў Сімферопалі маю ўвагу прыцягнула шыкоўная блакітнавокая бландзінка гадоў дваццаці шасці. Яна толькі што пакінула той жа вагон цягніка, што і я, і накіравалася да прыпынку гарадскога транспарту. Падставай для знаёмства сталася цяжкая сумка, транспарціроўка якой прыносіла Лаліце відавочны дыскамфорт. Узяўшы на сябе яе пакуты, я паступова “зандзіраваў глебу”. Дзяўчына даволі актыўна распавяла, што працуе лекаркай у адной з мінскіх паліклінік, па спецыяльнасці эндакрынолаг, не замужам, збіраецца ў санаторый “Сімеіз”. Варта адзначыць, што з беларускай сталіцы аўтар выехаў з поўнай упэўненасцю, што едзе ў горад Судак. Аднак, што такое планы, калі **такая** дзяўчына ледзь не сама прапаноўвае ехаць з ёй? Тут ужо не спыніць ні ўсведамленне таго, што знаходзіцца Сімеіз у адваротным ад Судака напрамку (кошты там значна вышэйшыя), ні адчувальны недахоп часу (з'язджаць я павінен быў пятнаццатага, а яна — дваццаць шостага). Узрушаны нечаканай падзеяй, нават не заўважыў, як замест тралейбуса мы селі ў таксоўку (мой кашалёк стаў на шэсць даляраў лягчэйшым). Пазней я што вар'ят увечары бег на спатканне. Мажліва і дарэмна, бо ўсе мае заляцанні, расповеды пра геройчную журналісцкую працу, спевы, дарагія рэстарацыі так і не прынеслі жаданага выніку, на змену спрэчкам пра медыцынскія памылкі прыйшлі ўсё ж гісторыі пра згубленае каханне. Аднак гэты факт мала што змяніў. Сэрца прыгажуні не растала нават ад вялікага букета гладыёлусаў. І гэта крыўдна, паколькі цудоўнае месца Сімеіз змяшчае ў сабе адну недарэчнасць — там увогуле не прадаюцца кветкі! Давялося адмыслова ехаць за букетам у Ялту (дзе кветкі, між іншым, таксама дэфіцыт) і, рызыкуючы разбудзіць прыгажуню, адпраўляць вячэрні букет выпадковым ганцом. Словам, курортны раман не атрымаўся. Беларускі журналіст не здолеў зрабіць таго, што за тры дні здзейсніў невядомы супрацоўнік расійскага ФСБ (вось і любі пасля гэтага спецслужбы!). Мне ж Лаліта пакінула адно прыемныя ўспаміны пра ўласныя “сумасбродства” і быццам бы выпадкова выбраную ў караоке песню:

***Мне нравится, что вы больны не мной***
***Мне нравится, что я больна не вами.***
***И никогда тяжелый шар земной***
***Не уплывет под нашими ногами.***

Адзінае расчараванне, дарэчы...

**Вадзім ДОЎНАР**

## "Путь жизненный..."

**Алег Буркін жыве ў Слуцку, рэдагуе мясцовую газету. А нарадзіўся 36 гадоў таму ў Заходняй Сібіры (Расія). Атрымаўшы ваенную адукацыю, дзесяць гадоў праслужыў у арміі. Быў сакратаром дывізійнай шматтыражкі, карэспандэнтам**




**акруговай газеты, рэдактарам аддзела ваенных праграм савецка-афганскай радыёстанцыі "Голас афганца". Пасля звальнення ў запас, перш чым стаць цывільным журналістам, настаўнічаў, выкладаў рускую мову і літаратуру. А да ўсяго А. Буркін — чалавек, улюбёны ў літаратуру. Яго вершы друкаваліся ў такіх аўтарытэтных выданнях, як "Молодая гвардия" (Масква), "Аврора" (Санкт-Пецярбург), а таксама ў часопісе "Маладосць". А. Буркін — адзін з аўтараў калектыўных зборнікаў "Ранний рассвет" ("Молодая гвардия") і "Встреча" ("Еш гвардия", Ташкент). Нядаўна ж у Слуцку пабачыла свет уласна аўтарская кніга А. Буркіна "Путь жизненный пройдя до середины...", прадмову "Высокія дрэвы пад навальніцай" да якой напісаў лаўрэат літаратурнай прэміі імя Івана Мележа, рэдактар аддзела часопіса "Маладосць" Віктар Гардзей. Сваё ўступнае слова ён завяршае такім запрашэннем да чытачоў: "Адгарніце гэтую таленавітую паэтычную кнігу. У ёй грукочуць ваенныя і мірныя навальніцы, і да зорнага неба цягнуцца высокія дрэвы". Прыкмечана дакладна, бо і сапраўды лірычны герой А. Буркіна паўстае чалавекам, які прайшоў праз выпрабаванні, якія наканавана яму было напаткаць у Афганістане, аднак і ў жыцці паўсядзённым, звязаным з мірнымі рэаліямі, яму жывецца няпроста. Бо, нягледзячы на перажытае, ён у многім у душы застаўся ранейшым рамантыкам, такім, якім і ўваходзіў у жыццё пасля заканчэння сярэдняй школы. Хіба што духоўна пасталелым і фізічна акрэплым. Кніга пабудавана такім чынам, што і дазваляе адчуць, як адбывалася гэта. Асобныя раздзелы зборніка — "Семнадцатилетнее", "Когда на смерть идут — поют", "Отшумели песни нашего полка", "Путь жизненный пройдя до середины..." — гэта ў пэўнай ступені і асобныя старонкі біяграфіі самога А. Буркіна. Адпаведна — вершы розных гадоў. Праўда, калі ацэньваць іх мастацкія вартасці, няцяжка заўважыць, што і раннія творы, і пазнейшыя напісаны прафесіянальна. А. Буркін добра адчувае слова, умее мысліць вобразна. Больш таго, у яго нязменна прысутнічае жыццёвая напоўненасць радка, калі паэт, ідучы, адштурхоўваючыся ад прыватнага, здатны перадаць сам пульс часу. Зразумела, праз светаўспрыманне і светаразуменне лірычнага героя. Гэта тычыцца і верша "Прощание", якім адкрываецца кніга. Закончана сярэдняя школа, у кішэні чаканы атэстат сталасці. Хочацца, як звычайна, праехацца ў трамваі "зайцам". Ды нешта спыняе: "Смущаюсь? Перед Аттестатом? Взрослею что-ли на глазах?" І нечаканы пераход, які, уласна кажучы, і надае вершу сапраўднае гучанне, а чытачу магчымасць упэўніцца, што твор — сапраўдная паэзія:**

*...Меня в мечту трамвайчик вез,*
*где "зайцем" быть*
*совсем непросто.*
*И на талон недавних грез*
*найдется где-нибудь*
*компостер.*
*И будет дел невпроворот*
*в объятьях шарика земного...*
*А детство встанет*
*и сойдет.*
*На следующей остановке.*

**"На талон недавних грез" і сапраўды знайшоўся "компостер". Пацвярджэнне таму — вершы афганскага цыкла. Непрыдуманы, а выпакутаваны, як "Последнее откровение вертолета", у якім спавядаецца сам "Миг-шестой". Як "Замена" — з дакладна схопленым імгненнем, калі самалёт, вяртаючыся з Афганістана, перасякае дзяржаўную граніцу Савецкага Саюза:**

*Нас только Родина творит.*
*Она и перетянет раны,*
*зиявшие два года рвано,*
*тугим бинтом Амударьи.*

**І ў мірных вершах А. Буркін застаецца самім сабой, аб чым найлепшае пацвярджэнне "Непонятые" — пра людзей, якія не падобныя на іншых.**

**Юрась ВАЙСЁНАК**

КРЫТЫКА

# Даследаванне працягваецца

Выдатны літаратурны помнік усходніх славян "Слово о плъку Игоревѣ" ужо два стагоддзі (з часу яго адкрыцця) даследуецца філолагамі, гісторыкамі, палеографамі, тэкстолагамі і спецыялістамі іншых галін навукі. Бібліяграфія навуковых прац, якія прысвечаны гэтаму пісьмоваму помніку і яго ўплыву на пазнейшыя віды мастацтва, налічвае некалькі тысяч назваў, сярод якіх шэраг грунтоўных манаграфій. Ужо даўно адчувалася неабходнасць у абагульненні ўсяго таго, што было зроблена па вывучэнні самога "Слова", і ўсяго таго, што было створана па яго матывах, каб даць даследчыкам імпульс для раскрыцця яшчэ не высветленых пытанняў, звязаных з помнікам. За гэтую нялёгкую задачу ўзяўся доктар філалагічных навук, прафесар М. Г. Булахаў і справіўся з ёю паспяхова, падрыхтаваўшы кароткі, як адзначана ў падзагалоўку, энцыклапедычны слоўнік "Слово о полку Игореве в литературе, искусстве, науке" (Мінск, выд-ва "Універсітэцкае", 1989). Праўда, пры аб'ёме ў 50 друкаваных аркушаў кароткім яго лічыць можна толькі ўмоўна. Слоўнік уключае 470 размешчаных па алфавіце артыкулаў. Тэматыка іх вельмі разнастайная.

Асноўную частку слоўніка складаюць артыкулы, прысвечаныя зместу помніка: яго жанру, кампазіцыі, рытміцы, асаблівасцям мовы, персаналіям, міфічным істотам, гістарычным і геаграфічным рэаліям, якія ўпамінаюцца ў помніку.

Шэраг артыкулаў прысвечаны адкрыццю "Слова", яго выданням і даследаванням айчынных і замежных спецыялістаў. Аўтар не толькі раскрывае змест гэтых даследаванняў, але і дае ім сваю ацэнку з улікам апошніх навуковых дасягненняў.

Вельмі змястоўныя і цікавыя артыкулы пра пераклады "Слова" на сучасную рускую літаратурную мову і іншыя мовы. А такіх перакладаў (поўных і частковых, вершаваных і празаічных), выкананых у розныя часы пісьменнікамі і вучонымі, у слоўніку разгледжана 123: на рускую мову — 65, на ўкраінскую — 26, на беларускую — 6, на балгарскую — 5, на польскую, чэшскую, славянскую, нямецкую — па 3, на сербскую — 2, на македонскую, літоўскую, латышскую, башкірскую, армянскую, грузінскую, іспанскую — па адной. Прычым філалагічны аналіз многіх з гэтых перакладаў аўтарам слоўніка зроблены ўпершыню.

У слоўніку многа артыкулаў пра мастакоў, якія ілюстравалі розныя выданні "Слова" або стварылі карціны па яго матывах, пра аўтара оперы "Князь Игорь" А. П. Барадзіна, пра пастаноўкі гэтай оперы ў розных тэатрах і выканаўцаў яе галоўных роляў.

Усе артыкулы пра персаналіі змяшчаюць у сабе кароткія біяграфічныя звесткі пра іх, кожны артыкул забяспечаны бібліяграфіяй па тэме.

Асабліва хочацца адзначыць тое, што ў кнізе належнае месца адведзена беларускім даследчыкам, каментатарам, перакладчыкам "Слова" Янку Купалу, М. Багдановічу, М. Гарэцкаму, Р. Барадуліну і іншым. Разам з тым асвятляюцца і асноўныя моманты творчага ўвасаблення ідэй і вобразаў помніка ў беларускім выяўленчым і тэатральна-музычным мастацтве 20 стагоддзя. Наогул гэтая тэма яшчэ патрабуе спецыяльных даследаванняў, бо да апошняга часу няма поўнага крытычнага разгляду як беларускіх перакладаў "Слова", так і варыяцый па яго матывах. А між тым "славіяна" ў Беларусі не такая ўжо і бедная на арыгінальныя працы, на мастацкія палотны. І гэта невыпадкова, паколькі беларускія землі, якія ўваходзілі ў склад старажытнарускай дзяржавы, ігралі вельмі важную ролю ў грамадскім і культурным жыцці Русі. Да таго ж не ўсе пытанні складаных адносін паміж старажытнарускімі княствамі, у тым ліку паміж Кіевам, Полацкам, Мінскам, Гародняй, Туравам, Пінскам, можна трактаваць адназначна. Нельга забывацца і на тое, што "Слова" магло распаўсюджвацца і чытацца на беларускіх землях пасля распаду старажытнай Русі (магчыма, яно і ўзнікла тут) і аказаць значны ўплыў на шляхі фарміравання беларускіх літаратурных жанраў. А што ўжо гаварыць аб тым, што славуты Усяслаў Полацкі, пра якога загадкава паведамляе аўтар "Слова" і які быў вядомы далёка за межамі Русі, знаходзіцца ў ліку найбольш каларытных паэтычных вобразаў на старонках помніка! Тут ёсць над чым задумацца сучасным даследчыкам нашай культурнай спадчыны.

Слоўнік забяспечаны 615 партрэтамі даследчыкаў, перакладчыкаў, мастакоў, рэпрадукцыямі тытульных лістоў розных выданняў "Слова", ілюстрацый да іх, карцін, створаных паводле матываў гэтага помніка, здымкаў аб'ектаў матэрыяльнай культуры старажытнай Русі. Выданне выканана на высакаякаснай паперы і выдатна аформлена.

Пры падрыхтоўцы энцыклапедычнага слоўніка "Слово о полку Игореве" в литературе, искусстве, науке" М. Г. Булахавым выканана велізарная пошукавая і даследчая праца: вывучаны ўсе шматлікія папяровыя навуковыя публікацыі, у тым ліку маладаступныя цяпер, прааналізавана многія пераклады гэтага помніка на розныя мовы, складзена вычарпальная бібліяграфія па ўсіх пытаннях, звязаных са "Словам".

Працу над даследаваннем розных праблем, звязаных са "Словом о полку Игореве", М. Г. Булахаў працягваў і пасля выхаду свайго так высока ацэненага слоўніка. Вынікам яе з'явілася манаграфія "Слово о полку Игореве" і Беларусь" у дзвюх частках, выдадзеная ў гэтым годзе Мінскім педагагічным універсітэтам імя Максіма Танка.

Першая частка складаецца з некалькіх раздзелаў. Асноўнае месца ў ёй займае раздзел "Лексіка-фразеалагічная і сінтаксічная варыянтнасць у беларускіх перакладах "Слова о пълку Игоревѣ" (с. 54—254). У ім вельмі скрупулёзна разгледжаны словы і выразы арыгінала, якія неаднолькава перадаюцца ў беларускіх перакладах: *абы пльки ущекоталъ; бръзыи комони; яруги имъ знаеми; тули отворени; орьтъмами; кая раны дорога; хотять полетѣти на уедіе; суть бо у ваю железныи поворози подъ шеломы латиньскыми; уныша бо градомъ забралы, а веселие пониче; зегзицею незнаема рано кычеть; идуть сморци мьглами; претьрьгоста бо своя бръзая комоня* і іншыя — усяго 214.

Перадача іх на сучасную беларускую літаратурную мову супастаўлена ў перакладах, зробленых Янкам Купалам (празаічны і вершаваны), М. Гарэцкім, Р. Барадуліным, В. Дарашкевічам, І. Чыгрынавым, Я. Крупенькам. Для параўнання потым разгледжаны ў такім жа плане шматлікія пераклады на сучасную рускую літаратурную мову. І гэта

# Эпохі і лёсы творцаў

Лёс літаратуры, як і лёс народа, вызначаецца лёсамі асоб. На парозе другога тысячагоддзя, аглядаючы літаратуру XX стагоддзя, выразна бачацца перыяды ўздыму, актывізацыі мастацка-творчых пошукаў нашай літаратуры і змрочныя эпохі падаўлення духоўнага жыцця народа, руйнавання народных традыцый, фізічнага і маральнага знішчэння талентаў.

Наша літаратура — як бор, які выстаяў, не скарыўся знішчальнай навальніцы. Ды ўсё ж гэты бор скрозь зеўрае прагаламі. Пра каго з нашых пісьменнікаў, класікаў ці сучаснікаў, можна сказаць: ён меў шчаслівы творчы лёс?.. Ці ўвогуле не можа быць такога, бо сумленны мастак, як правіла, у апазіцыі з эпохай і ўладай, якія заўсёды імкнуцца дыктаваць "ідэйна-творчыя прынцыпы", нават прызначаюць мастакам куміраў і патрабуюць велічальных одаў у іх гонар.

Беларуская літаратура — гэта паранены, падсочаны бор. У ім моцныя характарам тытаны-творцы — вальналюбівыя, светлавелічныя, жыццяносныя сосны. Побач — іншыя звычайныя дрэвы і падлесак, якія змаглі дужэць і ўздымацца, бо ад віхурнавальніц іх баранілі высокія сосны. У гэтым бары растуць прыгожыя, пахучыя краскі-зёлкі, а іх намагаецца заглушыць бескарысны, непараборлівы баравы быльнёг-пустазелле, чапляецца за ногі ніцая, учэпістая трава, якая нікому ніколі не ўсцешыць вока.

Ды ўсё ж бор таму і бор, што ў ім растуць гордыя і прыгожыя сосны.

Гэтую асацыяцыю я дазволіла сабе пад уражаннем новай кнігі літаратуразнаўцы Міколы Мікуліча "Пошук вядзе ў глыбіню", што выйшла з друку ў Гродне ў 1998 г. Аўтар яе знаёмы зацікаўленаму чытачу навукова-даследчыцкімі кнігамі "Максім Танк і сучасная беларуская лірыка", "На зломе часу" (старонкі, інтэрв'ю, дыялогі), шэрагам літаратуразнаўчых, крытычных артыкулаў у перыядычным друку. У гэтага даследчыка ёсць сваё абгрунтаванае бачанне многіх праблем і многіх перыядаў гісторыі роднай літаратуры і, як уяўляецца, ён мае сваю арыгінальную і эфектыўную метадалогію даследавання.

Новая кніга разнаякасная і многагалосая, разнастайны змест яе трох раздзелаў. Найбольш значным уяўляецца першы — уласны даробак М. Мікуліча, даследчыка праблем заходнебеларускага і пазнейшага перыядаў нашай літаратуры. Аднак аўтар не абмяжоўвае свае навуковыя пошукі толькі той эпохай. Ён прасачыў творчасць трох вядомых паэтаў, выхадцаў са знакамітай Слонімшчыны — Гальяша Леўчыка, Міхася Васілька і Анатоля Іверса. Гэтыя паэты прайшлі праз польскія турмы, грамадзянскае супраціўленне, камуністычнае падполле, затым — праз другую сусветную вайну, фашысцкую акупацыю...

Кніга пачынаецца грунтоўным артыкулам "Купала і Гальяш Леўчык: праблема пераемнасці ідэйна-эстэтычных традыцый". Літаратуразнаўца засяроджана прааналізаваў асноўныя вобразы і матывы творчасці гэтага "вельмі беларускага, традыцыйнага паэта", мастацкія ідэалы якога фарміраваліся пад уплывам грамадска-сацыяльнага жыцця канца XIX—пачатку XX стагоддзя і нацыянальнай літаратурнай традыцыі гэтага часу. Прачытанне творчасці Г. Леўчыка М. Мікуліч ажыццяўляе, зыходзячы з нязменных філасофскіх катэгорый дабра і зла, жыцця і смерці, улічваючы пры гэтым, што кожная эпоха афарбоўвае нават гэтыя агульнагуманістычныя канстанты спецыфічнымі грамадска-ідэалагічнымі і нават медытатыўна-лірычнымі матывамі.

М. Мікуліч пераканаўча прасочвае пэўныя тыпалагічныя паралелі і сыходжанні, змястава-вобразныя і фармальна-стылёвыя паказчыкі, якія сведчаць, што ў пачатку XX ст. Г. Леўчык, аўтар выдадзенага ў 1912 г. у Вільні зборніка "Чыжык беларускі", быў ці не найбольш за іншых паэтаў свайго часу набліжаны да творчых прынцыпаў і ідэйна-філасофскіх крытэрыяў ужо ў той час вялікага Купалы. Гэтаму спрыяла асабістае знаёмства двух паэтаў, якое грунтавалася на пачуццях павагі і сімпатыі і затым перарасло ў шчырае сяброўства.

Аднак многім яго творчым планам не суджана было здзейсніцца. Яшчэ ў заходнебеларускія часы ён актыўна супрацоўнічае з віленскімі выданнямі "Заранка", "Авадзень", "Студэнцкая думка", "Беларускі каляндар", "Маланка" і іншымі, дасылаючы ў іх вершы, апавяданні, публіцыстычныя артыкулы, дзіцячыя, сатырычныя, гумарыстычныя творы. Вядома, што і ў Вільні паэт намагаўся выдаць зборнік паэзіі "Беларускі жаваранак" і вёў на гэты конт перамовы з А. Луцкевічам, І. Дварчаніным. Задума таксама засталася няздзейсненай. Чаму? На гэтае пытанне спрабавалі адказаць знаўцы літаратурнагамадскага жыцця Заходняй Беларусі, у прыватнасці У. Калеснік, А. Лойка, Я. Саламевіч. Ёсць цікавыя сведчанні А. Клімовіча, аўтара "Матэрыялаў да біяграфічнага слоўніка дзеячаў беларускай культуры і нацыянальнага руху", што адной з прычын маглі быць стасункі Г. Леўчыка з рэлігійнай сектай метадыстаў у Варшаве.

Услед узнікае шэраг іншых пытанняў: як і чаму сталася, што беларускі паэт-патрыёт з радзімы падаўся на чужыну, у Польшчу? Сучаснікі Г. Леўчыка і яго эпісталярная спадчына сведчаць, што ў 20-я гады, асабліва ў другой палове, паэт выяўляў грамадзянскую актыўнасць: намагаўся адкрыць у Вільні выдавецтва "Кніжніца", жыхары Слонімшчыны прасілі яго балатавацца ў паслы сейма, але ён адмовіўся. Чаму? Ці толькі таму, што бачыў узмацненне дыктатуры санацыі, як лічыў У. Калеснік? Сапраўды — пошукі вядуць у глыбіню, патрабуюць унікнуць у супярэчлівасць тых абставін, падзей, адносін Г. Леўчыка з аднадумцамі і апанентамі...

У 30-я гады Г. Леўчык жыў яшчэ ў Слоніме. Сучаснікі сведчаць, што ён шчыра вітаў далучэнне Заходняй Беларусі да Савецкай. Але чаму ў тым жа 1939 г., пакінуўшы ў Слоніме жонку, якую тут у 1942 г. расстралялі фашысты, выехаў у Варшаву? Ці толькі лёсам сваёй унікальнай бібліятэкі ён быў заклапочаны? Чаму ён, змагар на ніве беларускага нацыянальнага адраджэння, аб чым пераканаўча сведчыць яго спадчына, не змог з поўнай аддачай, з уласцівай яму шчырасцю і шчодрасцю папулярызаваць сваёй Беларусі?

У даследчыка М. Мікуліча, спадзяюся, і ў чытачоў, выклікае давер меркаванне Анатоля Іверса, які добра ведаў Леўчыка і так патлумачыў прычыну апошняга ад'езду паэта ў Польшчу: было відаць, што яму "...не ўсё падабалася пры новай уладзе, пэўна чуў,

зусім правамерна, бо яны беларускімі перакладчыкамі ўлічваліся.

Выбар пры перакладзе таго ці іншага варыянта, адзначае М. Г. Булахаў, "абумоўліваўся рознымі прычынамі — творчым майстэрствам перакладчыка, узроўнем яго ведаў старажытнай і сучаснай мовы і літаратуры, асабістым разуменнем сутнасці падзей мінулага, знаёмствам з навуковымі даследаваннямі ў галіне "словазнаўства", эстэтычнымі прынцыпамі, уплывам ранейшых перакладаў на рускую мову і г.д.".

Як сведчыць лінгвістычны аналіз разгледжаных аўтарам кнігі фрагментаў арыгінальнага тэксту і іх перакладаў на беларускую літаратурную мову, перакладчыкі шырока выкарыстоўвалі лексічную і граматычную сінаніміку для перадачы зместу і стылістычных асаблівасцей старажытнага помніка. Так, у беларускіх перакладах выразу *щекотъ славий успе* назоўнік перададзены словамі-сінонімамі *свергат* (Янка Купала), *шчоўканне* (М. Гарэцкі,) *шчокат* (Р. Барадулін, В. Дарашкевіч), *пошчак* (Я. Крупенька), а дзеяслоў — словамі-сінонімамі *заснуць* (Янка Купала — празаічны, М.Гарэцкі, Р.Барадулін, В.Дарашкевіч), сціхнуць (Янка Купала — вершаваны), *заціхнуць* (І. Чыгрынаў), *змоўкнуць* (Я. Крупенька). У беларускіх перакладах выразу *старыми словесы* прыметнік перададзены словамі-сінонімамі *старадаўны* (Янка Купала, І. Чыгрынаў), стары (В. Дарашкевіч), *даўнейшы* (М. Гарэцкі), *спрадвечны* (Р. Барадулін), а ў выразе *съ заарания въ пятокъ* акалічнасць часу — словамі-сінонімамі *спазаранку* (Янка Купала — празаічны, І. Чыгрынаў), *рана* (Янка Купала — вершаваны), *раннім-рана* (М. Гарэцкі), *зрана* (Р. Барадулін), *з рання* (В. Дарашкевіч), на світанні (Я. Крупенька).

М. Г. Булахаў не толькі фіксуе выкарыстанне беларускімі перакладчыкамі лексічных адпаведнікаў да таго ці іншага слова арыгінала, але часта і адзначае, які з іх больш дакладны і прымальны. Так, ён лічыць, што з дзеясловаў *прыдбалі* (Янка Купала, М. Гарэцкі), *параскрадалі* (Р. Барадулін, В. Дарашкевіч), *раскралі* (І. Чыгрынаў) у перакладзе фразы *не побъдными жребии собъ власти расхытастае* больш адпавядаюць арыгіналу два апошнія. Адносна перадачы дзеепрыметніка ў выразе *под трубами повити* беларускімі словамі *радзіліся* (Янка Купала — празаічны), *спарадзіліся* (Янка Купала — вершаваны), *народжаныя* (Я. Крупенька), *узрошчаныя* (І. Чыгрынаў), *спавіваныя* (М. Гарэцкі, Р. Барадулін, В. Дарашкевіч) даследчык адзначае: "Дзеепрыметніку *повити* найбольш адпавядае форма *спавіваныя*, астатнія варыянты з'яўляюцца неметафарычнымі сінонімамі і, бясспрэчна, эквівалентна не выражаюць стылістычнага адцення, якое мае старажытнае слова" (с. 70).

Абгрунтоўваючы найбольш дакладны пераклад на беларускую мову тых ці іншых слоў арыгінала, М. Г. Булахаў нярэдка прасочвае іх паходжанне і выкарыстанне ў розных славянскіх мовах на працягу апошніх стагоддзяў. Напрыклад, пададзены этымалагічныя даведкі пра словы *Див, въсрожать, обида, поскепаны, притрепалъ, смага, тлъковинъ, яруга* і некаторыя іншыя.

Адзначаны даследчыкам і выпадкі памылковых перакладаў. Так, М. Гарэцкі ў перакладзе выразу *летая умомъ подъ облакы* чамусьці адступіў ад арыгінала, замяніўшы слова *умъ* словам *арол*. Янка Купала дастаткова зразумелае словазлучэнне арыгінала *стонущи грозою* (з формай творнага склону назоўніка) замяніў граматычна няправільным словазлучэннем *стогнучы грозьбы*, бо непераходны дзеяслоў *стагнаць* не можа кіраваць формай вінавальнага склону. Некаторыя беларускія перакладчыкі ў выразе *а половци неготовыми дорогами побегоша* назоўнік *дарога* перадалі назоўнікам *шлях*, хоць *шлях* — гэта вялікая, шырокая, даўно наезджаная дарога, а такіх дарог у бяскрайніх паўднёвых стэпах у XII стагоддзі не было, аб чым сведчыць ужо нават азначэнне *неготовыми*. Нельга прызнаць правільным таксама перадачу гэтага азначэння беларускім словам *нецярэбленым* (Янка Купала — празаічны), бо полаўцам, каб пракласці ў бязлесных стэпах хоць бы якую дарогу, не трэба было штосьці церабіць. У перакладзеным М. Гарэцкім выразе *земля тутнетъ* дзеяслоў *тужыць* не адпавядае значэнню старажытнага *тутнетъ*: ён калісьці абазначаў *"гудзе, грыміць"*.

Такіх і падобных недакладнасцяў і памылковых перадач як асобных слоў, так і сінтаксічных канструкцый М. Г. Булахаў, глыбока прааналізаваўшы розныя беларускія пераклады ў супастаўленні з тэкстам арыгінала, выявіў шмат. Яго заўвагі на гэты конт будуць вельмі карыснымі для наступных перакладчыкаў і дапамогуць ім больш дакладна пераўвасобіць на сучасную беларускую літаратурную мову змест выдатнага пісьмовага помніка ў лексіка-граматычных і стылістычных адносінах.

Другая частка манаграфіі "Слово о полъку Игоревъ" і Беларусь" мае паўхрэстаматыйны характар. Амаль палову яе складаюць новыя, раней не публікаваныя даследаванні аўтара пра пераклады "Слова" на беларускую літаратурную мову і на гаворкі беларускай мовы, а таксама па іншых аспектах гэтага помніка. З даследаванняў першага тыпу чатыры прысвечаны перакладам купалаўскім: "Інтэнсіфікацыя вобразных сродкаў "Слова о плъку Игоревъ" у купалаўскім празаічным перакладзе на беларускую мову", "Эпітэты "Слова о плъку Игоревъ" і іх эквіваленты ў вершаваным перакладзе Янкі Купалы", "Варыянтнасць моўных сродкаў у купалаўскіх перакладах "Слова о плъку Игоревъ" і "Алфавітны паказчык лексікі і граматычных форм у купалаўскіх празаічным і паэтычным перакладах "Слова о плъку Игоревъ". Асаблівую навуковую каштоўнасць уяўляе апошняе даследаванне, бо ў ім дакладна вызначана, якія словы і граматычныя формы Янкам Купалам выкарыстаны і ў якой колькасці. Як сведчаць зробленыя падлікі, у празаічным перакладзе налічваецца 436 назоўнікаў, 329 дзеясловаў, 140 прыметнікаў, 37 прыслоўяў і 10 лічэбнікаў — усяго 952 словы, а ў вершаваным — 532 назоўнікі, 366 дзеясловаў, 185 прыметнікаў, 88 прыслоўяў і 10 лічэбнікаў — усяго 1180 слоў. Значыць, другі пераклад параўнальна з першым змяшчае больш 200 дадатковых паўназначных лексем. "Такое разыходжанне, — піша даследчык, — тлумачыцца тым,, што, перакладаючы помнік прозай, Купала, напэўна, імкнуўся трымацца прынцыпу блізкай эквівалентнасці лексічных сродкаў свайго тэксту ў адносінах да тэксту арыгінала. Наадварот, у паэтычным тэксце ён значна шырэй карыстаўся сродкамі вобразнага апісання падзей і персанажаў твора. Тут у большай меры назіраецца метафарычнае словаўжыванне, паўней прадстаўлена ацэначная лексіка, асабліва ў катэгорыях прыметнікаў і прыслоўяў". Прычым у тэксце празаічнага перакладу выяўлена звыш 50 назоўнікаў, больш за 75 дзеяслоўных форм, каля 25 прыметнікаў і каля 10 прыслоўяў, якіх няма ў тэксце паэтычнага перакладу.

Не меншую цікавасць маюць выяўленыя даследчыкам колькасныя суадносіны лексікі арыгінальнага тэксту і купалаўскіх перакладаў. "Па нашых падліках, — адзначае даследчык, — у старажытным тэксце ўтрымліваецца 408 назоўнікаў, 291 дзеяслоў, 132 прыметнікі, 32 прыслоўі і 11 лічэбнікаў, а ўсяго 873 паўназначныя (знамянальныя) словы. У празаічным перакладзе Купалы выяўлена прыбліза каля 580 лексем, якія маюць аднолькавую або блізкую да слоў арыгінала структуру, што сведчыць аб генетычных вытоках беларускай мовы. Разам з тым каля 290 слоў празаічнага перакладу Купалы па спосабу ўтварэння і этымалагічных прыкметах адрозніваюцца ад лексікі старажытнага помніка. Гэта і зразумела: пасля XII ст. беларуская мова, захоўваючы слоўнікавы фонд мовы ўсходніх славян папярэдніх эпох, набыла нямала новых лексічных сродкаў, якія ў поўнай меры сталі здабыткам сучаснай беларускай літаратурнай мовы".

Амаль палову другой часткі гэтай манаграфіі складаюць цалкам або скарочана раней апублікаваныя па розных пытаннях "Слова" артыкулы самога аўтара і іншых даследчыкаў, тэксты празаічных перакладаў помніка на гаворкі беларускай мовы: два поўныя — на пінскую Ф. Д. Клімчука і на тураўскую М. А. Саскевіч, а таксама 16 перакладаў "Плачу Яраслаўны", выкананыя рознымі даследчыкамі, на гаворкі вёсак Мацы і Андронава Кобрынскага раёна, Доўгая Івацэвіцкага раёна, Сычы Драгічынскага раёна, Дубы і Дубіца Столінскага раёна, г. Бяроза Брэсцкай вобласці, вёсак Буда Хойніцкага раёна, Залессе Чачэрскага раёна і г. Жлобіна Гомельскай вобласці, вёсак Манакова Міёрскага раёна Віцебскай вобласці, Шаламы Слаўгарадскага раёна Магілёўскай вобласці, вёскі Іванаўка (Янаўка) Чарнобыльскага раёна Кіеўскай вобласці.

У дадатку 10 даюцца паэтычныя варыяцыі (вершы) па матывах "Слова" В. Віткі, А. Вялюгіна, В. Вярбы, К. Кірэенкі, М. Сяднёва, М. Танка, Я. Чыквіна.

Можна не сумнявацца, што і гэтая манаграфія навуковай і чытацкай грамадскасцю будзе прынята прыхільна.

М. Г. Булахаў падрыхтаваў да друку яшчэ адну кнігу-хрэстаматыю — "Слово о плъку Игоревъ" у асвятленні дзеячаў беларускай навукі, літаратуры і культуры" (254 старонкі машынапісу). У ёй даюцца поўнасцю або скарочана 45 артыкулаў і выказванняў пра "Слова" нашых вядомых суайчыннікаў: С. Александровіча, М. Багдановіча, Р. Барадуліна, Р. Бярозкіна, В. Вольскага, М. Гарэцкага, М. Грынчыка, В. Дарашкевіча, Л. Зарэмбы, В. Чамярыцкага, Л. Шакуна і іншых.

Такім чынам, хоць "Слово о плъку Игоревъ" апублікавана ўжо даўно і вывучана быццам бы ўсебакова, даследаванне яго працягваецца.

**Іван ГЕРМАНОВІЧ**

---

што пакрысе пачалі арыштоўваць нават былых падпольшчыкаў-камуністаў... Мяркую, што і ў Леўчыка былі знаёмыя, якія пацярпелі ад карных органаў. А, можа, думаў пра сябе як пра "нацыяналіста"...

Тым не менш гэты творца пакінуў прыкметны след у заходнебеларускай паэзіі.

Два наступныя артыкулы кнігі М. Мікуліча "Пошук вядзе ў глыбіню" тэматычна звязаны з папярэднім. Гэта — "Я сын мазоля, сын раллі..." (колькі штрыхоў да творчага партрэта Міхася Васілька) і "Жыву ў бацькоўскім краі..." (станаўленне творчай індывідуальнасці Анатоля Іверса).

Імя М. Васілька даволі вядомае, і ў свой час яго творчасць была любімай сярод старэйшага пакалення "заходнікаў". Аўтар кнігі асобнымі штрыхамі прасочвае з маленства цяжкае, бясхлебнае, беспрытульнае жыццё будучага паэта. Ды і ў сталыя гады лёс зусім не спрыяў яму — "страты, падазронасць і непрыхаваны здзек з боку старых і новых уладных структур". Бывалі хвіліны чорнай роспачы, калі хацелася назаўсёды звесці рахункі з жыццём — давялося пахаваць матулю ў бежанстве, далёка ад радзімы, праз нейкі час на вачах паэта згарае ад сухотаў жонка, пакінуўшы маленькага сынка... Допыты і катаванні ў дэфензіве, нямецкі канцлагер... Але тады ён, малады заходнебеларускі паэт, не зламаўся і сваімі вершамі мацаваў кволыя і роспачныя душы суайчыннікаў.

Даследчык выяўляе ўплыў філасофска-эстэтычных традыцый Купалы на творчасць маладога М. Васілька, а ў наступныя дзесяцігоддзі да іх далучыўся ўплыў і магутнага, шматмернага таленту М. Танка. Прасочваючы заходнебеларускі і пазнейшы перыяды творчасці М. Васілька, М. Мікуліч паглыбляе асобныя ацэнкі спадчыны гэтага мастака, дадзеныя аўтарытэтным даследчыкам У. Калеснікам. Аўтар акцэнтуе нашу ўвагу на актыўным супрацоўніцтве М. Васілька з заходнебеларускай перыёдыкай, зацікаўлена паведамляе сучаснаму чытачу аб шчырай грамадска-культурнай працы паэта, калі трэба было змагацца за ўсё роднае, беларускае. Ён ладзіў гурткі Грамады, Таварыства беларускай школы, мастацкай самадзейнасці, арганізоўваў вечарыны, сам быў заняты ў сцэнічных пастаноўках, харавых выступленнях, дэкламацыях... Неаднойчы ён, змагар за беларушчыну, падвяргаўся арыштам, допытам, але заставаўся духоўна моцным, маральна трывушчым, нязломным.

Хапіла сілы паэту і на ваеннае ліхалецце. "Выбавіўшыся жніўнем 1941 г. з Германіі, куды ён патрапіў, будучы апалоненым як польскі жаўнер і дзе напоўніцу спазнаў палыновага смаку лагеру і чужыны, М. Васілёк уключаецца ў партызанскае змаганне". Ён быў чыннікам скідальскага падполля, а яго вершы, падпісаныя мужным, баявым псеўданімам "Язэп Гром", змяшчаліся ў антыфашысцкім партызанскім друку, мацавалі веру народа ў перамогу на акупіраванай Беларусі. М. Мікуліча, як даследчыка жыцця і творчасці паэта, турбуе ў нейкай меры нявысветленае для сучаснікаў супрацоўніцтва М. Васілька з савецкай разведкай і яго ўдзел зімой 1943 г. у вядомым беластоцкім з'ездзе беларусаў....

Нягледзячы на тое, што ў вайну М. Васілёк быў многа разоў за паўкрока ад смерці, у наступныя пасляваенныя гады "палітрукоў бальшавіцкай ідэалогіі" (Г. Бураўкін), як піша М. Мікуліч, "... насцярожвала яго палонніцтва і разведчыцкая праца, а таксама тое, што па розных прычынах творы паэта траплялі на старонкі не толькі левага, але і правага друку". Недавер і псіхалагічны ўціск савецкай улады і яе "органаў" засушылі талент, а пасля і жыццё М. Васілька. Вось як трапна і ўражліва выказаўся аб яго лёсе В. Быкаў у лісце да аўтара кнігі: "Няшчасны лёс, няшчасная асоба... А чалавек вельмі добры, вельмі шчыры, па характары самы беларус. Але жыццё, вайна і КДБ зламалі яго і ўрэшце звялі ў магілу. Ён пéражыў шмат што... Але не мог перажыць бальшавіцкі таталітарызм".

Дзякуючы намаганням даследчыка і прыведзеным у кнізе сведчанням В. Быкава, Д. Бічэль-Загнетавай, М. Танка і інш., перад сучаснікамі паўстае яшчэ адзін горкі, трагічны лёс мастака, беларускага пісьменніка, прыгожага, рашучага і летуценнага чалавека.

Анатоль Іверс — яшчэ адзін незайздросны чалавечы і не да канца здзейснены творчы лёс са "слонімскай дзялянкі" беларускага падсочанага літаратурнага бору. Творчасць гэтага паэта даследавалася папярэднімі літаратуразнаўцамі побач са спадчынай М. Машары. М. Мікуліч у сваім нарысе застаецца верным абранаму даследчыцкаму падыходу: асэнсоўвае творчасць паэта ў кантэксце з нацыянальна-адраджэнскімі грамадска-літаратурнымі традыцыямі, улічваючы неспрыяльныя жыццёвыя абставіны, пра якія ў ранейшых даследаваннях упамінаць забаранялі ўсё тыя ж "ідэалагічныя палітрукі".

Жыццё і гэтага заходнебеларускага, а потым беларускага савецкага паэта праходзіла ў напружаным супрацьстаянні ідэалагічным службам, існуючым парадкам дзвюх вельмі розных, але ў адносінах да беларусаў і Беларусі блізкіх грамадска-палітычных сістэм. Даследчык уважліва ставіцца да адметнага паэтычнага свету А. Іверса, імкнецца глыбока і аб'ектыўна асэнсаваць жыццёвы шлях паэта ў складаны заходнебеларускі і пазнейшы, не менш супярэчлівы, перыяды беларускай гісторыі. Грунтоўна, падрабязна паэзія А. Іверса амаль не разглядалася айчынным літаратуразнаўствам, і таму М. Мікуліч засяроджваецца як на ранняй, так і на пазнейшай яго творчасці, вылучаючы ключавыя вобразы-матывы, заўважаючы "светапоглядную пэўнасць аўтара, дастатковую выверанасць яго думак і перажыванняў, трапнасць назіранняў і характарыстык, каларытнасць народнай мовы". Аўтар шырока абапіраецца на шматлікія ўспаміны аб розных часах і падзеях самога паэта, з якім сустракаўся і ліставаўся, на ўспаміны іншых сведак даўніх, ды помных падзей.

Прасочваючы творчы лёс А. Іверса, які пра сябе сказаў: "Купала адкрыў мне Беларусь", даследчык слушна піша, што абставіны 30-х гадоў і ваеннае ліхалецце (праслед дэфензівы, паэта тройчы судзілі, затым вайна, якая забрала бацьку, жонку і брата) не спрыялі росквіту таленту паэта. Па-сапраўднаму ён мог бы рэалізаваць творчыя здольнасці, спраўдзіць боскае наканаванне ў пасляваенны час. Але гэтага не адбылося, бо "з усталяваннем савеччыны, камунізацыяй працы і грамадска-сацыяльных парадкаў" настаці для яго нялёгкія часы, азмрочаныя палітычным недаверам.

Здаецца, што лёс гэтага чалавека, пра якога вельмі ёміста і дакладна ў свой час сказаў У. Калеснік: "Простая і цвёрдая сумленнасць змалку год уладарыць над яго жаданнямі", з'яўляецца вельмі ж характэрным, найбольш тыповым увасабленнем драматызму і трагізму сумленнага чалавека, мастака ў таталітарнай сістэме. За тое, што заўсёды размаўляў на роднай мове, А. Іверса лічылі чужаком у савецкай чыноўніцкай наменклатуры, абразліва называлі нацыяналістам. Яго беспадстаўна звальнялі з працы спачатку ў рэдакцыі раённай газеты, затым з пасады сакратара гарсавета, выключалі з Саюза пісьменнікаў. Але родная беларуская зямля і людзі, сумленныя і шчырыя, давалі сілу і мужнасць не здраджваць маральным перакананням і патрыятычным каштоўнасцям.

Калі літаратуразнаўствам папярэдніх дзесяцігоддзяў заходнебеларуская паэзія ўспрымалася найперш як паэзія супраціўлення, змагання, то сёння яна прачытваецца і як аптымістычна-трагічная песня пакутнікаў-барацьбітоў, заложнікаў спачатку польскага, а затым бальшавіцкага палітыка-ідэалагічнага ўціску. І гэта добра ўдалося паказаць М. Мікулічу.

Другі раздзел кнігі склалі інтэрв'ю даследчыка з людзьмі, чый лёс цяжкі і пачэсны — слугаваць Беларусі, беларускай літаратуры, бараніць яшчэ жывое святое, роднае слова. Занепакоена разважаюць аб мінулым і будучым нашай літаратуры, культуры, духоўнасці Генадзь Бураўкін ("Я працаваў для Беларусі"), Уладзімір Гніламёдаў ("Задача літаратуры — дасведаваць чалавека"), Іван Навуменка ("Усякаму пакаленню трэба баявая справа").

У трэцім раздзеле кнігі М. Мікуліч выступае ўкладальнікам, змясціўшы такія неабходныя для аб'ектыўнага асэнсавання гісторыі роднай літаратуры і яе творцаў дакументальныя сведчанні, як лісты Паўліны Мядзёлкі да Максіма Танка, ліст Юры Луцкевіча, сына Антона Луцкевіча, да Петруся Броўкі, успаміны Алеся Белакоза пра Ларысу Геніюш і ўспаміны Анатоля Іверса.

Апошнія старонкі цікавай, інфармацыйна і дакументальна насычанай кнігі М. Мікуліча прысвечаны аналізу і ацэнцы досыць значнага ўкладу прафесара Міколы Мішчанчука ў нацыянальнае літаратуразнаўства ("Беларуская літаратура на сучасным этапе", 1978, 1983; "Беларуская савецкая паэзія 20-х гадоў", 1980 і інш.). Рэцэнзент высока ацэньвае апошняе па часе грунтоўнае даследаванне М. Мішчанчука "Ёсць у паэта свой аблог цалінны. Жанрава-стылявая разнастайнасць сучаснай беларускай лірыкі".

Кніга М. Мікуліча (рэдактар яе доктар філалагічных навук, член-карэспандэнт НАН РБ У. Гніламёдаў, рэцэнзент доктар філалагічных навук А. Ліс, мастак Л. Клімава) выйшла ў Гродне (Гродзенскі дзяржаўны універсітэт імя Я. Купалы) накладам 500 асобнікаў. Але бясспрэчна, што яна ўсё ж дойдзе да свайго чытача. Яна паспрыяе абуджэнню нашай гістарычнай [illegible] і свядомасці, узбагачэнню нашай беларускай душы.

**Зоя МЕЛЬНІКАВА**

*г. Брэст*





## "На азёрах сініх

**Кнігу Уладзіміра Карызны "На азёрах сініх", якую выдавецтва "Полымя" выпусціла ў серыі "Школьная бібліятэка", прадстаўляе народны пісьменнік Беларусі Іван Навуменка. І адразу ў сваёй прадмове "На крылах натхнення і песні" знаходзіць словы, што перадаюць усю адметнасць таленту гэтага знакамітага паэта: "Уладзімір Карызна мае сваё, адметнае, месца ў немалой, шматаблічнай сям'і беларускіх паэтаў. Яго імя ўпамінаецца, можа, нават часцей, чым другія паэтычныя імёны, і галоўнае — імя гэтае называецца перад агромністай аўдыторыяй, бо шматлікія вершы паэта пакладзены самымі лепшымі кампазітарамі на музыку. Яны гучаць па радыё і тэлебачанні, іх можна пачуць у вясковай хаце, гарадской кватэры, у**





**інтэрнаце". І слушна зазначае пры гэтым: "Не кожны верш можа стаць песняй. І не кожны паэт зробіцца песеннікам. Ёсць паняцце — "музычная пластыка". Дык вось гэтая пластыка, меладычны пачатак у вершах, — неад'емная якасць паэтычнага таленту Уладзіміра Карызны". Аднак ёсць яшчэ адна няменш важная якасць, пра якую, дарэчы, не забывае і І. Навуменка, калі заўважае, што творы У. Карызны "душой і сэрцам сагрэты". У. Карызна вельмі хораша выказвае сваю любоў да Бацькаўшчыны, да роднай зямлі. Яго вершы аб прыродзе, аб людзях, якія жывуць на Беларусі, аб каханні — не крыкліва-эстрадныя, не поклічна-прызыўныя, калі сёй-той з аўтараў ледзь не б'е сябе ў грудзі, каб пераканаць, як ён любіць Радзіму. Яны спавядальныя, сцішана-засяроджаныя, у іх голас таго, хто разумее: калі ты нешта ці кагосьці па-сапраўднаму любіш, цябе адразу адчуюць. Праз душэўнасць, адкрытасць. Праз мілагучнасць радка. Што гэта і сапраўды так, упэўніваешся, калі знаёмішся з кнігай "На азёрах сініх". Зборнік адрасаваны адначасова малодшаму і сярэдняму школьнаму ўзросту. Складаецца з раздзелаў "Кветкі любяць вясну" і "Салаўіная калыска". Але гэта не значыць, што іх трэба чытаць паасобку. Можна разгарнуць кнігу на любой старонцы, і любы твор будзе аднолькава блізкі чытачу любога ўзросту, а гэта яшчэ адно пацвярджэнне, наколькі паэзія У. Карызны хораша кладзецца на душу, абуджаючы светлыя пачуцці. Для прыкладу, верш "Роднае слова", адрасаваны маленькім:**

*Роднае слова —*
*Матчына слова—*
*З гукаў чароўных*
*Выткана мова.*
. . . . . . . . . . . . . .
*Ціха і светла з яе,*
*Бы з крыніцы,*
*Сочацца родныя*
*Песні-жывіцы...*

**А гэта верш "дарослы", што стаў адной з самых любімых у народзе песень:**

*Жытнёвае поле, лясы і азёры,*
*Крынічанька ў лузе і ў небе жаўрук, —*
*Услухайся толькі — усё тут гаворыць:*
*Люблю цябе, Белая, Белая Русь.*
"Люблю цябе, Белая Русь"

**Акрамя вершаў у кнігу ўвайшлі загадкі, казкі, паэмы. Паэмы — гэта "Кыонг і яго сябры" і "Зямля — два паўшар'і", у першую чаргу напісаная для дзяцей, але гэта і "Гром над дарогай", "Бацька", "Карэнні болю", "Размова наросцеж". Кожны з твораў варты таго, каб яго не толькі чытаць, а і перачытваць. Тым няменш хацелася б вылучыць паэмы "Гром над дарогай" і "Бацька", у якіх паэт расказвае пра самых дарагіх яму людзей — пра маці і бацьку. Знаходзячы пры гэтым пяшчотныя словы, ён, аднак, не абмяжоўваецца канстатацыяй сваёй любові, а пераходзіць і да значных абагульненняў, у выніку чаго гаворка пашырае свае межы. Гэта і размова пра час, у якім жылі блізкія людзі, гэта раскрыццё няпростых лёсаў нашых сучаснікаў, якія, не зважаючы на жыццёвыя нягоды, выстаялі. Ад знаёмства з кнігай "На азёрах сініх" застаецца светлае, радаснае пачуццё.**

**Юрась ВАЙСЁНАК**

ВІНШУЕМ!

# Івану КАРЭНДУ — 50!



*Паэт, калі ён сапраўдны творца, ніколі не развітваецца з паэзіяй і ніколі не пакідае яго натхненне. Лішняе пацвярджэнне таму — біяграфія Івана Карэнды. І журналістам ён быў, і намеснікам міністра, а цяпер знаходзіцца на не менш адказнай рабоце ў Маскве, але для ўсіх, хто добра ведае Івана Арсеньевіча, ён — найперш паэт. У сваіх творах ды і па характары. А наколькі муза ўмее слухацца І. Карэнду, як падуладны ёй найтанчэйшыя зрухі душы і ў той час якая яна неабыякавая да паўсядзённых рэалій жыцця, пераканаліся і шматлікія чытачы, калі пазнаёміліся з кнігай "Белы наліў". Зборнік па-добраму ўразіў, а ў некаторых з'явілася і добрая зайздрасць: гэта ж трэба так хораша пісаць. Лёгка, нязмушана, калі радок кладзецца на паперу свабодна, нібы пры гэтым адразу, без творчай напругі, прамаўляецца. Адна з прычын, бадай, у тым, што І. Карэнда, у адрозненне ад іншых па-сапраўднаму заявіў аб сабе тады, калі зразумеў, што не пісаць вершы не можа. І яго не спалохала тое, што сёй-той з яго аднагодкаў ды і маладзейшых калег па пяры паспеў к гэтаму часу выдаць адну, а то і некалькі кніг. Затое ўваходжанне І. Карэнды ў вялікую літаратуру было ўпэўненым і адразу стала падзеяй. І невыпадкова адна з падборак, што з'явілася ў часопісе "Полымя", была адзначана штогадовай прэміяй гэтага старэйшага літаратурна-мастацкага выдання нашай краіны.*

*Віншуючы Івана Арсеньевіча з поўднем веку, хочацца пажадаць яму пражыць яшчэ столькі і больш і напісаць яшчэ нямала твораў, якія б маглі скласці некалькі кніг!*

## Іван КАРЭНДА

●

***Калі здарыцца так,***
***Што я моўчкі ўпаду,***
***Не сказаўшы апошняга слова,***
***Ведай, мама мая,***
***Што сустрэў я бяду***
***Сэрцам, поўным любові сыновай.***

***Калі здарыцца так,***
***Што ў апошні мой міг***
***Развітаца з каханай спазнюся,***
***Я малю цябе, Бог:***
***Што дзяліў на дваіх, —***
***Шчодра любай аддай, не таргуйся.***

***Калі здарыцца так,***
***Што сардэчным сябрам***
***Не пацісну руку перад сконам, —***
***Усявышні, прашу:***
***Дай ім столькі дабра,***
***Каб нікому не білі паклонаў.***

***Калі здарыцца так***
***На апошняй вярсце,***
***Што сыноў са мной***
***побач не будзе,***
***Перадайце сынам,***
***Што я толькі хацеў,***
***Каб паклалі мне рукі на грудзі.***

***Калі здарыцца так —***
***На апошняй мяжы***
***Я звярнуся з малітвай да Бога:***
***Госпадзь, грэх адпусці —***
***Беларусь зберажы,***
***Пакажы ёй да шчасця дарогу.***

●

***Усё меней буслоў,***
***Усё больш крумкачоў***
***Над прасторамі роднымі кружыць.***
***Выпаўзае, шыпіць***
***Розны гад з-пад карчоў,***
***Яд спускаючы ў брудныя лужы.***

***Стогне наша зямля***
***Ад нясцерпных пакут,***
***Ад брыды і ад набрыдзі дзікай,***
***Ад шалёнай хлусні,***
***Ад чарнобыльскіх пут,***
***І гібее народ мой паціху.***

***Зачакаліся мы***
***Навальнічнай пары***
***І дажджоў праліўных, ачышчальных.***
***Яшчэ доўга ісці***
***Да світальнай зары***
***Нам па сцежках крутых, ратавальных.***

***Будзем падаць не раз,***
***Бо ідзём басанож,***
***Да крыві разбіваючы ногі.***
***Але мусім ісці.***
***І мы дойдзем усё ж***
***Да жаданай сваёй перамогі.***

●

***Калі восень душу***
***Сцісне горкаю скрухай,***
***Перавяслам тугім***
***Перавяжа гады,***
***А за ёю зіма***
***Памялом завірухі***
***Абмалоціць снапы,***
***Замяце ўсе сляды, —***
***Колькі будзе зярнят***
***(Пэўна, жменька — не болей),***
***Я хачу, каб яны***
***Па вясне прараслі***
***Васількамі надзеі***
***На светлую долю***
***І маёй Беларусі***
***Свежых сіл дадалі.***

### Бязлістаму дрэву

Памяці М. АБРАМЧЫКА

***Няма ні лісточка...***
***А летась яшчэ***
***Нішто не прарочыла скруху,***
***Не мог ад цябе***
***Адарваць я вачэй***
***І шэпт твой гадзінамі слухаў.***

***Пад кронай тваёй***
***Непраглядна-густой***
***Шукаў ад дажджу я прытулак,***
***А сонца пякло, —***
***Ты на выпадак той***
***Давала цянёк-паратунак.***

***Куды б я ні ездзіў,***
***Куды б ні хадзіў, —***
***Заўсёды чакала з дарогі.***
***З табою, як з сябрам,***
***Адзін на адзін,***
***Дзяліў і тугу, і трывогі.***

***Увышкі, да сонца,***
***У сіні прастор***
***Цягнула, як рукі, галіны...***
***Адкуль жа напаў***
***На цябе гэты мор?***
***Хто ўпотай атруты падкінуў?***

***Зялёным абрусам***
***Заслана зямля,***
***Вярнуліся з выраю птушкі.***
***Хто будзе, скажы,***
***Іх дзяцей-немаўлят***
***З вятрыскам пад воблакі гушкаць?***

***Бязлістае дрэва!***
***Калі крумкачы***
***Зімой над табою кружылі,***
***Не ведаў, што трэба***
***Табе памагчы,***
***Што сохнуць карэнні і жылы.***

***Стаю з адчуваннем***
***Уласнай віны.***
***Не веру, што ты ўжо — нябожчык.***
***Балюча і скрушна...***
***А дождж праліўны***
***За што цябе, мёртвага, хвошча?***

●

***Не спяць паэты:***
***скардзяцца сябрам,***
***што душыць іх***
***бяссонніца начамі,***
***што зноў і зноў***
***стаіць перад вачамі***
***гара Галгофа — грэшная гара...***

***"...За што мяне вы,***
***людзі, праклялі? —***
***Ісус Хрыстос пытаецца ў натоўпу. —***
***Жыццё, што вамі***
***складваецца ў торбы, —***
***не для мяне, пакутніка Зямлі!"***

***Маўчыць натоўп.***
***Ён вынес свой прысуд***
***і не адступіць***
***ад свайго рашэння.***
***Ні спачувальных слоў,***
***ні галашэння***
***не занатуе***
***летапісец тут.***

***Жыві, Варава!***
***Радуйся, Пілат!***
***Ахвяру выбраў***
***калектыўны розум.***
***Натоўпу не патрэбен***
***час на роздум —***
***тым больш не любіць***
***прамаруджваць кат.***

***Фінал вядомы —***
***уваскрэс Хрыстос!..***
***...Дагэтуль грэх***
***ляжыць на чалавецтве.***
***Калецтва душ —***
***найгоршае калецтва,***
***што праз стагоддзі***
***род зямны пранёс...***

***...Не спяць паэты.***
***Хіба ж можна спаць?***
***Калі нас зморыць***
***сон хоць на гадзіну,***
***зноў апынецца***
***на крыжы Адзіны...***
***...Не, не дадзім***
***Хрыста наноў распяць!***

### У чароўным палоне

***Днём і ноччу***
***Любыя вочы***
***Мілым цяплом саграваюць душу.***
***Радасць-песню,***
***Светлую песню,***
***Песню кахання я***
***ў сэрцы нашу.***

***Я — палонны,***
***Безабаронны,***
***Ты, нібы фея, чаруеш мяне.***
***І ніколі***
***З гэтай няволі,***
***Мусіць, не суджана вырвацца мне.***

***Дзень згарае***
***За небакраем,***
***Вечар сустрэчу нам зноў прынясе.***
***На спатканні***
***Словы прызнання,***
***Словы любові я выкажу ўсе.***

***Я чакаю,***
***Шчасце гукаю —***
***Рэха здалёк адгукаецца мне.***
***І аднойчы***
***Шчасце не збочыць,***
***Шчасце каханне маё не міне.***

●

***Вецер шпурляе пад ногі лісты***
***З клёнаў прырэчных.***
***Цэлую вечнасць не пішаш мне ты,***
***Цэлую вечнасць.***

***Не разумею — ці ява, ці сон,***
***Ці недарэчнасць.***
***Цэлую вечнасць маўчыць тэлефон,***
***Цэлую вечнасць.***

***Што гэта — здрада,***
***ці жорсткі падман,***
***Ці бессардэчнасць?***
***Цэлую вечнасць жыццё, як туман,***
***Цэлую вечнасць.***
***Роспач і сум спапяляюць душу...***
***Боль невылечны***
***Цэлую вечнасць у сэрцы нашу,***
***Цэлую вечнасць.***

# СТАРЫ

АПАВЯДАННЕ

Маргарыта ПРОХАР



***Маргарыта ПРОХАР нарадзілася ў 1979 г. на Гродзеншчыне. Скончыла СШ N 1 у Карэлічах. Цяпер студэнтка філалагічнага факультэта БДУ. З апавяданнямі і вершамі друкавалася ў "Маладосці", "Беларусі", "Чырвонай змене" і іншых перыядычных выданнях. Пераможца конкурсу маладых літаратараў, які праводзіўся ў 1998—1999 гг. рэдакцыяй "Чырвонай змены".***
***У серыі "Бібліятэка часопіса "Маладосць" рыхтуецца кніга прозы.***

**I**

Поле пахла сухім іржышчам і пырнікам. Увосень так пахла яно заўсёды, колькі помніў сябе Стары, колькі жыло яно само, гэтае поле, што шырылася аж пад самы Тамілавіцкі лес, — няроўнае, бугрыстае, але надзвычай урадлівае: давала аб сабе знаць зямля — былы лясны абшар, чорны, тлусты падзол. Відаць, калісьці тут была пушча — магутны, волатаўскі лес. Але прыйшлі людзі... І людзям таксама трэба было жыць. Так застаўся адзін гэты Тамілавіцкі лес як сведка даўняе крыўды, і поле, на якім часам яшчэ ўпіраўся плуг у старыя, счэпленыя, нібы ўкамянелыя, рэшткі былых моцных каранёў, быццам сама зямля па гэты час укаранелымі пеньчукамі і ўзбугрынамі помсціла чалавеку за пушчу.

Стары — вялікі, шэры, чымсьці падобны да ваўка сабака — валюхаўся па купінах, абколваючы лапы на вострых, яшчэ не размяклых ад дажджу асцюках іржышча. Дажджы пойдуць пазней, цяпер толькі верасень і ржэўнік стаіць натапыраны, як шчотка, і востры. На хвіліну сабака прыпыніўся ля сцірты зляжалай леташняй саломы, якую часта пакідалі ўздоўж поля, бліжэй да лесу, каб не замінала; яна і стаяла там год, два, пакуль хто не звозіў на падворак, ці проста гніла пад дажджамі і снегам. Сабака змучана прыхінуўся бокам да сцірты, задыхаў цяжка, хрыпата. Ён, і праўда, быў ужо зусім стары — вылазіла камякамі поўсць, абвіслі вушы, ды і сам ён ссівеў, саслаб, вось толькі нюх з гадамі не змяніўся, нават абвастрыўся: Стары стаў чуйны на пах, як ніколі. Дарэчы, Старым яго празвалі, калі ён быў малым куртатым шчанюком, бо дзеда, бацьку ягоных звалі гэтаксама — Стары. У Рубецкіх, ягоных гаспадароў, стала, відаць, звычаем так называць сабак, бо продак Старога калісьці выратаваў у нямецкую блакаду ў лесе жонку Адама Рубецкага — Марыю: хітра, толькі па адных яму вядомых сцежках вывеў яе праз багну ў Барсукі, дзе жыла сям'я сястры Рубецкага. І як ён здагадаўся, куды весці? Што ж, Стары — значыць, мудры...

Сабака ад стомы ўпаў на купу ссохлага голля і з хвіліну ляжаў нерухома — збіраўся з сіламі. Потым пружыніста ўскочыў, хапаючы паветра — ад натугі, — і зноў патрусіў па полі, усё далей і далей, трымаючыся мяжы, прылеску, што захінаў ад нядобрага вока — сабака хацеў жыць... А калі не жыць, то хаця б памерці не так, як гэтага прагнуў хтосьці іншы...

Ззаду грымнуў стрэл — рэзка, нечакана. Стары ўпаў на зямлю, нібы з'яднаўся з ёю, і хутка, як вужака, кіруючыся нейкім падсвядомым адчуваннем, запоўз у густы алешнік, сцішыўся там, схаваўся: шэрае злілося з шэрым — не пазнаць.

Хутка затрашчала голле пад нечымі ботамі. Ля сцірты саломы, дзе нядаўна рабіў перадышку Стары, спыніўся чалавек. Худы, даўганогі, паставай ён быў падобны да бацяна, але твар — хуткі, рухавы — меў у сабе штосьць мышынае, дробнае і хітрае. Нібы прынюхваючыся, ён моцна ўдыхнуў паветра і, быццам ліс, пачаў кружыць па полі, вышукваючы Старога. Новыя боты яго парыпвалі на ўзбугрынах поля, пакорліва ламалася пад імі ржышча. Боты блішчэлі на сонцы і, бадай, толькі крыху запэцкаліся падчас блукання па лесе. Увогуле, усё ў Віля Рубецкага выглядала фацэтным — і боты, і скураная куртка, і фуражка, добрая фуражка, з лакіраваным казырком, які гэтак удала прыкрываў ад іншых невыразныя, нібы дзве дзірачкі, Вілевы вочы.

Стары назіраў за ім з алешніку, адчуваючы, як б'ецца рэзкімі ўдарамі сэрца. Праз хвіліну вочы заплылі вільгаццю, сталі слязіцца, і ён на імгненне прымружыў іх, паклаў галаву на лапы, і адразу паплылі, абганяючы адно аднаго, відовішчы — адбіткі тых падзей, якім Стары быў сведкам усё сваё жыццё. І цяпер ён нібы забыўся на Вілю, на стрэл, проста аддаўся ізноў таму, што віравала ў яго памяці...

...А Віля ўсё кружыў па полі, усё шукаў...

**II**

...Хата Рубецкіх адразу кідалася ў вочы: новая, вялікая, на дзве палавіны, абшытая вагонкай, вось толькі фарбаваная даўно, калі Адам яшчэ быў у сіле. Тады хата — блакітная, з белымі аканіцамі — нібы люстрылася святам. Старэйшы сын Рубецкага — Міхал — хацеў гады два назад паднавіць яе, ізноў пафарбаваць у блакітны, але знячэўку захварэў, ды так, што ніякія дактары не маглі паставіць пэўны дыягназ. Верка, знахарка з Выселак, прыносіла нейкія зёлкі, пашаптала нешта над імі, заліла кіпенем і, настаяўшы хвілін з дзесяць, дала выпіць. Але ад гэтага Міхалу зрабілася яшчэ горш: пачаў біць кашаль, грудзіну сціскала, нібы абцугамі. Шкода было глядзець, як дзень ада дня слабеў гэты, падобны да волата, моцны мужчына. Міхал быў увесь — і знешне, і фізічнай сілай — падобны да бацькі; малодшы, Віль, што жыў цяпер у другой палавіне хаты з Волькай — сваёй жонкай, — хутчэй нагадваў далёкага сваяка Рубецкіх, Рымкевіча, які, калі адыходзілі немцы, з'ехаў некуды, прыхапіўшы яўрэйскае золата. Непадалёк ад Тамілавіч, у Каленіках, было яўрэйскае гета, і Тадзік Рымкевіч браў у сховы за золата тых яўрэяў, якія час ад часу ўцякалі адтуль. Але, як ні дзіўна, ніхто з тых уцекачоў так і не аб'явіўся пасля вайны, таму пра Тадзіка хадзілі чорныя чуткі... Рубецкія нават ніколі не прыязджалі да Рымкевіча, а ён — да іх, яны нібы знаходзіліся па два розныя берагі, і Адам Рубецкі не любіў, калі хто згадваў яго сваяцтва з Рымкевічам. Але гэтае сваяцтва дало сябе знаць: гены яго перайшлі да Віля, малодшага — як не верыць пасля гэтага ў спадкаемнасць, у той таямнічы свет, з якога пасля фарміруецца, будуецца душа і характар чалавечы? З таго часу Адам яшчэ больш увагі пачаў аддаваць Міхалу — свайму старэйшаму, каб пасля ён стаў дбайным гаспадаром. І гэта сапраўды было б так, калі б не тая праклятая хвароба сына, якую Адам не змог перанесці — разумеў: гэта крах, гэта крушэнне ўсіх ягоных надзей. Нездарма, паміраючы, прашаптаў: "Звяліся Рубецкія..." Пачуўшы гэта, Віль выскачыў з хаты ў двор злы, як чорт, пнуў нагою Старога, які ляжаў у парозе, моцна вылаяўся і ўвесь дзень потым бурчэў: "З глузду з'ехаў... бацька, называецца". Міхала ў гаспадары рыхтаваў, як усё роўна караля на каранацыю. Кічыцца: "Рубецкія — гаспадары на ўсю вёску, бо справядлівыя, маўляў, сваёй працай жывуць. Бо дурні!.. Яўген Мелік, новы старшыня, грошай назбіраў і на дзяцей, і на ўнукаў. З зарплаты? Гэта толькі бацька з зарплаты мог жыць, як быў старшынёй. Падумаеш, раз Рубецкі — то будзь ледзь не святы. Дурні! Жыцця не разумеюць!" Вось ён, Віль лічыў, што разумее жыццё. Назаўтра, напрыклад, ён дамовіўся з Мелікам, што прывязе фарбу — на хату. Яна, праўда, адпушчана на клуб, але і яму, Вілю, хопіць. Тут ён хітра ўсміхнуўся. Фарба цёмная, вішнёва-чор-ная, маці і Міхал не хацелі нават чуць, каб такім быў дом. Але ён, Віль, на сваім настаіць, ён пакажа, хто тут гаспадар!..

**III**

Зранні прыйшлі нанятыя Вілем за гарэлку Абрэмчыкі, бацька і сын — барадатыя, чорныя, як гракі. На драбінах Віль падвёз закіданую ад цікаўнага вока сенам фарбу. Выбегла насустрач Волька — вяртлявая, чымсьці падобная да мужа кабета, але, бадай, яшчэ больш сквапная, чым Віль. Дзяцей у іх не было, але, нягледзячы на гэта, Вольчына сквапнасць нікольکі не зменшылася. Марыя не любіла нявестку, нават не хавала гэтага. Вось і цяпер жанчыны моўчкі стаялі адна проці адной. Марыя не глядзела на Вольку — пазірала туды, дзе Абрэмчыкі згружалі фарбу. Волька, наадварот, нібы ела вачыма свякруху, твар яе ўвесь ззяў ад задавальнення, каб можна было, то, здавалася, крыкнула б Марыі: ну што, укалола я цябе, укалола я цябе, укалола, па-нашаму пойдзе!..

Падышоў упэўнены ў сабе Віль, радасна паціраючы далоні. Толькі, калі глянуў на маці, сустрэў яе дакорлівы позірк, крыху сумеўся.

Марыя, павярнуўшыся да яго, ціха сказала:

— Я ж прасіла цябе. Хаця б дзеля Міхала, дзеля памяці бацькі... І ты мне абяцаў...

Віль закруціўся на месцы, як вужака, якой наступілі на хвост. Размахваючы рукамі і стараючыся не глядзець маці ў вочы, ён нібы залямантаваў:

— Што я дрэннага зрабіў?! Кожны на маім месцы ўзяў бы гэтую фарбу. Ці лепш, каб з хаты смяяліся?

Марыя спакойна запярэчыла:

— Не крычы. Фарба, фарба... Яна, такая пачварная, як гэтая, і дарам непатрэбная, каб ты ведаў, не гаворачы ўжо пра іншае, пра крадзеж...

Тут на Вілю наляцела Волька:

— Маўчыш? Колькі гэта цягнуцца будзе? Хто тут, у рэшце рэшт, гаспадар?

Віль страпянуўся, падтрымаў Вольку:

— І праўда. Хопіць гуляць у жмуркі. Міхал хворы, бацька памёр, значыць, гаспадар тут я.

— Я твая маці...

Але Віль не даў дагаварыць ёй, перабіў, пачаў крычаць. Тады Стары, што да гэтага нікім не заўважаны ціха ляжаў у пажоўклай траве ля ганка, напружыўся і раптам кінуўся на Віля, учапіўся зубамі ў бот. Віль ад нечаканасці падскочыў, шмякнуўся аб зямлю. Барадатыя Абрэмчыкі, што стаялі ля воза, дружна зарагаталі. Пунсовы ад сораму, Віль узняўся з зямлі і пабег у хату. Праз хвіліну выскачыў адтуль са стрэльбай, на хаду кінуўшы старэйшаму Абрэмчыку:

— Без мяне фарбуйце, самі!.. Пракляты сабака!.. — і пабег праз агарод, да лесу, за Старым. Суседскі хлапчук, белагаловы Лёнька, ускочыў на плот і задзірліва засвістаў услед:

— Фію-у! Фію-у-у!..

Віль, абярнуўшыся, памахаў яму кулаком, але малы не спыніўся.

...Стары не адразу кінуўся да поля. Блукаў агародамі, перабег рэчку, але, убачыўшы, што Віль неадступна ідзе следам, рашыўся: скочыў на адкрытае месца — на пашу — і ўварваўся ў статак. Яму пашанцавала, ён змог, скарыстаўшы агульны перапуд, прабіцца да Тамілавіцкага лесу. Тады і грымнуў першы стрэл. Вostра запахла едкім порахам, які ў лесе хутка змяшаўся з пахам смалы ад соснаў і пахам восені — гаркаватым водарам апалага лісця. Стары пабег хутчэй, усё больш аддаляўся ад вёскі, з кожным метрам адчуваючы, што слабее, выбіваецца з сіл. Потым быў прыпынак ля сцірты з саломай, дзе ён адчуў, як пахне ржэўнікам жоўтае асцюкаватае поле. Як і цяпер, яно праглядвалася добра, нават праз алешнік. Стары падняў галаву. Амаль побач стаяў Віль і цяжка, злосна дыхаў. Потым плюнуў на зямлю, вылаяўся і пайшоў па полі. Стары доўга глядзеў яму ўслед.

Там, дзе прайшоў Віль, заставаўся чорны прагал і ўтаптаны ў гразь шчасціністы ржэўнік. Хутка Віль схаваўся за ўзгоркам, а Стары ўсё глядзеў і глядзеў на поле, прымружыўшы стомленыя вочы.

Над полем, над сухім жоўтым іржышчам, бліжэй да Тамілавіцкага лесу, павісла сонца, расцяклося па небе ў рваных насупленых хмарах, як перастоеная дзяжа, — бляклa-жоўтымі выцвілымі плямамі, і толькі збоку, ля самай вёскі, пралілося пунсовай, як свежая кроў, паласой. Сонца ўжо не грэла, проста цяплілася на небе, абы адбыць свой час, і гэтак жа стомлена, як і Стары, бязмэтна азірала поле.

Лёгка пералятаў па ўзмежку вецер, і травы, падхопленыя ім, раптоўна ўздрыгвалі, нібы ўстрывожаныя чымсьці, а потым ізноў бязвольна ападалі на зямлю. Вецер прыносіў з агародаў пах дыму — палілі бульбоўнік. Дым аддаваў горыччу, восенню, сухім паленым зеллем, зямлёй. Ён, незаўважны для простага вока, ішоў на Тамілавіцкі лес праз поле. І поле таксама пачало пахнуць дымам. Стары памятаў, што ўвесну з палеткаў цягнула свежым, маладым, зялёным водарам азіміны, з якой толькі-толькі сышоў снег, пахла тады акрыялай зямлёй, густа, моцна, а ўлетку, калі налівaліся каласы, па полі разліваўся тонкі хлебны пах, які заставаўся надоўга, нейкі час нават і пасля таго, як машыны сабралі зерне, пакінуўшы адзін пусты і востры ржэўнік ды сцірты свежай саломы, бліжэй да лесу. І тады налятаў вецер, зносіў з асірацелага поля рэшткі гэтага прыемнага жытнога водару, і яно пачынала пахнуць пырнікам, бадыллем, іржышчам ды пыльным восеньскім павуціннем, што ляпілася за вострыя асцюкі былых каласоў. А потым поле і ўвогуле страціла свой адметны пах, на ім асвойваўся чужы, нязвыклы, і Стары добра адчуваў яго. Вось цяпер поле пахла дымам....

Цікава, які водар быў ад пушчы, што калісьці была на месцы гэтага поля?.. Стары не ведаў. Зрэшты, лёс пэўных людзей чым не падобны да лёсу гэтае пушчы? Высекуць лес — стане пустым месца; знішчыцца, змялее род — таксама пустка, знебыццё...

Стары з натугай падняўся і паціху пасунуўся ў бок вёскі, да падвор'я Рубецкіх. Зрэдку ён супыняўся на полі, глядзеў, як вечаровыя цені напаўзаюць на ржышча, як дагараюць апошнія вугельчыкі сонца над чорнай сцяною маўклівага лесу. На небе хмары сталі цямнейшымі, і не відно ў іх прасвету. І ўсё вакол ахоплена цішынёй, нейкай мёртвай, нязвыклай, нават не цішынёй, а нейкім сціхатам. Добра, што хоць падзьмуў вецер... Сабака падхапіўся і пабег насустрач яму, гэтаму выратавальнаму подыху, да Тамілавіч: Стары прывык да людзей, да жытла, да людскіх галасоў і гукаў вёскі. У рэшце рэшт, да Рубецкіх, нібы і сам быў іхняй пароды, часткай іх сям'і...

Не дабегшы крыху да агарода Рубецкіх, Стары спыніўся. Адсюль, з малінніку, яго не было відаць, але сам ён, стоячы на бугрыстым узгорку, бачыў усё: ля хаты Рубецкіх снавалі Абрэмчыкі, і Старога непрыемна сцебануў па вачах колер — чырвона-чорны, густы, што рабіў хату падобнай да вялізнай, толькі што пафарбаванай дамавіны — Віль свайго дамогся...

Сабака ўладкаваўся ямчэй у кустоўі, на кучы бадылля, якое сюды зносілі з агародаў. Больш гадзіны ён ляжаў нерухома, усё глядзеў і глядзеў на чорную, як чужую, хату, з якой столькі год звязана было яго жыццё...

**IV**

А ў чорнай начы блукаў па полі не то прывід, не то цень. Ад цемнаты, суцэльнай, непрагляднай, — на небе ні зоркі, усё зацягнула хмарамі, — Стары не адразу пазнаў яго. Дык гэта ж Віль! Дзіўна — без стрэльбы... І чаго ён блукае ўначы?.. Стары ўспомніў стрэл — і ў сэрца нібы штось укалола вось цяпер яны адзін на адзін, цяпер ён адпомсціць за Марыю, за хату, за выгнанне сваё... Адзін рывок — і ён паваліў лапамі цень, уціснуў у ржышча, пачаў душыць, злосна, помсліва, як воўк. Віль не супраціўляўся і праз хвіліну зусім аціх, амярцвеў. Стары адышоў ад яго і глянуў у неба: неба стала святлець, сышла цемната, што давіла на вочы, пачало струменіць, пульсаваць, біць крыніцай святло, шырэй і шырэй разгортваючыся над зямлёй...

І тады Стары зразумеў, што гэта ранак, што ён праспаў у малінніку ўсю ноч і што сустрэча з Вілем і Вілева смерць — гэта толькі сон... Не, на самай справе ён ніколі не зможа адпомсціць Вілю: няма ўжо той сілы, слабасць, старасць...

Стары ізноў глянуў на чорную хату і штосьці насцярожыла яго там. Ён убачыў, як выйшла заплаканая Марыя, як хуценька, вельмі ўжо задаволеная чымсьці, выскачыла з вёдрамі да калодзежа Волька, як бегаў, камандаваў Абрамчыкамі Віль, выбіраючы дошкі, дапамагаў збіваць іх у нейкую вялізную скрыню. Назіраючы за імі, Стары нерваваўся, не мог спакойна ўлежаць у сваім сховішчы-прытулку. Нешта трывожыла, насцярожвала, сабака падсвядома адчуваў бяду...

А пад вечар двор Рубецкіх запоўнілі людзі. Яны неслі вянкі, кошыкі з дробна нарубленай елкай — раскідваць на

*(Працяг на стар. 12)*

## Мінчукі пад Воршай

Традыцыйнае святкаванне Дня беларускай вайсковай славы праходзіла сёлета як ніколі шматлюдна. Што дзіўна, у Мінску ў святочных мерапрыемствах удзельнічала нават менеі народу, чымсьці непасрэдна на Крапівенскім полі — месцы славутай Аршанскай бітвы. За ўсе дзевяць гадоў на працягу якіх сучаснікі аддаюць даніну памяці вялікім продкам, поле не бачыла такой колькасці ўдзячных нашчадкаў як у мінулую суботу. Тры разы да месца падзеяў пад'язджаў аўтобус з гасцямі. Арганізатары зрабілі ўсё: нарыхтавалі дровы, узвялі сцэну, запрасілі артыстаў. Перашкодзіць добраму настрою магло толькі кепскае надвор'е. Хто быў падрыхтаваны да горшага, ставілі палаткі, запальвалі вогнішчы, адкаркоўвалі бутэлькі. Праўда, у гэты дзень пілі няшмат і выключна добрыя напоі. Апроч купкі маладых дзецюкоў, што (гледзячы па рэпертуары песень) зблыталі беларускае свята з расійскім рок-канцэртам, ніхто не замінаў культурнай праграме. (Урэшце, неразумных маладзёнаў хутка супакоілі.)

Культурная праграма магла задаволіць густы самых розных спажыўцоў нацыянальнага і доўжылася ўсю ноч. Пачалася яна са службы каталіцкіх і праваслаўных святароў за душы герояў, палеглых пад Воршай у няроўнай сутычцы з жаўнерамі Маскоўскага княства. Дарэчы, сузіранне гэтых герояў сталася асобнай дзеяй у перформансе вядомага віцебскага мастака Алеся Пушкіна. Не атрымаўшы магчымасці прадставіць свой новы твор у рамках фестывалю "Навінкі-2000", ён з задавальненнем прывёз "Аршанскую даніну" пад Воршу.

Дзеля справядлівасці трэба адзначыць грунтоўнасць падрыхтоўкі да гэтага непрацяглага па часе мерапрыемства і глабальнасць самой ідэі. Застаецца выказаць спачуванні тым, хто можа пра гэты перформанс толькі прачытаць ці пачуць. Як кажуць, лепш адзін раз пабачыць. Таксама між іншым як і рыцарскія турніры адпаведных мінскіх клубаў. Кажуць, першапачаткова ў іх была дамоўленасць, што бойка на лузе будзе звычайнай інсцэніроўкай. Аднак ужо едучы ў аўтобусе, сучасныя рыцары ўсчалі спрэчку на тэму "Хто мацнейшы", і ў выніку на Крапівенскім полі гэтым разам біліся "ўзапраўду". Пры захаванні, вядома, некаторых умоўнасцяў. Замінаў адно бутафорскія дамы сэрца, якія выбягалі час ад часу за межы "поля бітвы" і, прагна гледзячы ў вочы, прасілі цыгарэтку. А на сцэне тым часам уладарылі барды. Сярод іх не было некаторых раней заяўленых асобаў. Не прыехалі Віктар Шалкевіч і Эдуард Акулін. Давялося нават пабачыць студэнтачак, якія прагулялі заняткі, каб пачуць спевы апошняга. Расчараваныя дзяўчыны ледзь не кінуліся ноччу шукаць транспарт, каб даехаць да Мінска. Аднак не здолелі зрабіць гэтага, пачаўшы танчыць пад музыку часоў Вялікага княства Літоўскага. Сярод выступоўцаў згадваецца заўжды ваяўнічы Андрэй Мельнікаў, адмысловы Сяргей Мінскевіч і рамантычна-гумарыстычны Змiцер Бартосік.

Сімвалы тут глядзеліся больш вячыста, чымсьці падчас дзяржаўных святаў, а лозунгі прамаўляліся гучней і аптымістычней за мітынговыя поклічы.

Вадзім ДОЎНАР

## Перамога ў Стамбуле

Імя Алены Сало, маладой спявачкі, уладальніцы прыгожага меццо-сапрана, для нашых чытачоў — не новае. Прынамсі, "ЛіМ" адзначаў яркае выступленне салісткі ў вялікай канцэртнай праграме ансамбля музычных і харэаграфічных мініяцюр "Бліскавіца", паказанай падчас мінулага філарманічнага сезона. А вось для чыннікаў і ўдзельнікаў Міжнароднага конкурсу спевакоў, заснаванага ў Стамбуле знакамітай турэцкай спявачкай Лейлай Генжэр, імя Алены Сало і яе вакальнае мастацтва сталіся прыемным адкрыццём. І міжнароднае журы, у склад якога ўваходзілі прадстаўнікі знаных оперных тэатраў Італіі, Францыі, Аўстрыі, Манака, ганаравала маладую салістку Нацыянальнага тэатра оперы Беларусі першай прэміяй.

Паспяхова выступілі на конкурсе яшчэ дзве беларускія вакалісткі — Э. Рыжановіч ды Л. Лазарчык-Сахацкая: яны выйшлі ў фінал і атрымалі ганаровыя дыпломы.

Удзелу нашых маладых артыстак у гэтым спаборніцтве садзейнічала пасольства Турцыі ў Беларусі.

Н. К.

ПАДЗЕІ

# З візітам у Лондан

ПРА ЎДЗЕЛ СТАЛІЦЫ БЕЛАРУСІ Ў ФЕСТЫВАЛІ ТЫСЯЧАГОДДЗЯ РАСПАВЯДАЕ КАРЭСПАНДЭНТУ "ЛіМа" СТАРШЫНЯ КАМІТЭТА АРХІТЭКТУРЫ, ГОРАДАБУДАЎНІЦТВА І ЗЕМЛЕЎПАРАДКАВАННЯ МІНГАРВЫКАНКАМА Аляксандр ЧАДОВІЧ

**— Аляксандр Іванавіч, вы былі кіраўніком творчай групы, якая падрыхтавала і правяла акцыю, надзвычай важную для міжнароднага прэстыжу нашай краіны. Калі ласка, раскажыце, якім чынам удалося ажыццявіць мінскі праект на Фестывалі тысячагоддзя ў Лондане, і спачатку пра сам фестываль.**

— "Stage 2000 — Millenium Festival" арганізаваны пад эгідай Міністэрства замежных спраў Вялікабрытаніі дзякуючы адной салідвай фірме — "New Millenium Experience Company". Са снежня 1999-га па снежань 2000-га мае адбыцца мноства разнастайных міжнародных мерапрыемстваў, экспазіцый, прадстаўленняў у Лондане і ў Грынвічы, акурат у той мясціне, на нулявым мерыдыяне, дзе свет упершыню сустрэне трэцяе тысячагоддзе. Мэта арганізатараў — паказаць дасягненні культур свету ў другім тысячагоддзі, даўшы прагнознае ўяўленне новага этапу развіцця цывілізацыі.

Асноўная праграма разгортваецца ў так званым Купале тысячагоддзя — Millenium Dome. Гэта грандыёзная канструкцыя размяшчаецца на беразе Тэмзы, займае плошчу 80 тысяч квадратных метраў, дасягае 50 метраў вышыні ў цэнтры: унутры такога збудавання можа змясціцца піраміда Хеопса! Купал тысячагоддзя — своеасаблівы "дысней", які не паўтарае амерыканскі ці парыжскі аналагічныя аб'екты, населеныя казачнымі персанажамі. Яго прастора падзелена на 14 тэматычных зонаў, якія, адпаведна, скіроўваюць увагу наведвальнікаў ці на спасціжэнне свету, на адукацыю, на пашырэнне ведаў, на развіццё асобы, ці на нейкія забавы і да т.п. Паміж комплексамі шматлікіх гульняў, трэнажораў размешчаны пляцоўкі для выставак, прэзентацый, канцэртных выступленняў. Millenium Dome прыцягвае самую шырокую цікавасць гасцей Вялікабрытаніі, і мяркуецца, што на працягу года яго наведае каля сямі мільёнаў чалавек.

Дык вось, у той частцы праграмы, што знаёміць з рознымі краінамі і гарадамі, быў запланаваны і Дзень Мінска.

Выклікае вялікую павагу і ўдзячнасць пазіцыя кіраўніцтва нашай сталіцы, якое, нягледзячы на фінансавыя праблемы, палічыла справай гонару ўдзел прадстаўнікоў Мінска ў найбуйнейшай міжнароднай праграме па сустрэчы новага тысячагоддзя. Падрыхтоўку гэтай акцыі падтрымліваў і тагачасны мэр Уладзімір Ярмошын, і затым яго пераемнік Міхаіл Паўлаў. Была сфармавана творчая група, узначаліць якую даручылі мне. Мастацкую канцэпцыю правядзення Дня Мінска распрацоўваў Ігар Духан, культуролаг, першы прарэктар і загадчык кафедры мастацтваў Міжнароднага гуманітарнага інстытута, што пры БДУ. Дапамагаў вядомы мастак, сцэнограф, дызайнер Зіновій Марголін. Актыўна далучыліся да справы іншыя калегі, спецыялісты-кансультанты.

У праграмы прэзентацыі Мінска, разлічанай толькі на адзін дзень, была задача спалучыць кампаненты відовішча з мастацкай вобразнасцю, паказаўшы выстаўку архітэктурнага асяроддзя (яно ўключае культуру гарадской аблічча, будаўнічае мастацтва, прамысловыя аб'екты і г.д.), а таксама прадставіўшы асяроддзе музычнае — у жывых канцэртах.

Мы адмовіліся ад стварэння нейкага "сувенірнага" каларыту ў паказе Мінска на Фестывалі тысячагоддзя. Карані нашы — еўрапейскія, і не толькі ў геаграфічным, але і ў агульнакультурным сэнсе. Менавіта ідэя паказу беларускай сталіцы XX стагоддзя як сярэдне(усходне-)еўрапейскага культурнага асяродка і паўплывала на акцэнты: былі вылучаны тыя моманты, што адлюстроўваюць сувязь культурнай прасторы сённяшняга Мінска з еўрапейскай класічнай традыцыяй. Таму фальклорна-этнаграфічны аспект, таксама істотны для разумення культуры нашай сталіцы і краіны ўвогуле, у кантэксце гэтай канцэпцыі апынуўся не на першым плане.

**— Такім чынам, нарадзілася арыгінальная экспазіцыя "Мінск, XX стагоддзе: мастацтва — час — прастора". Але ж трэба было забяспечыць яе дастаўку ў Лондан, знайсці сродкі на паездку творчай дэлегацыі...**

— У сувязі з гэтым выказваю асаблівую ўдзячнасць мінскаму гарвыканкаму, які прыняў на сябе асноўны фінансавы цяжар. Дапамагла і родная кампанія "Белавія": груз даставілі бясплатна, да таго ж, каб прыняць наш "творчы багаж", самалёт ТУ-134 замянілі на ТУ-154. Супрацоўнікі мытні дапамаглі правільна ўсё аформіць, дапамаглі пры пагрузцы, і калі частка будучай экспазіцыі ўсё ж не змясцілася ў люк самалёта, з разуменнем далучыліся да пошуку аптымальнага варыянта дастаўкі. Мы ўдзячныя і фірме "Швебел" на чале з Уладзімірам Сідаровічам, якая забяспечыла знаходжанне на фестывалі аркестра "Віртуозы Мінска".

**— Тое, што частку экспазіцыі вы мусілі пакінуць у родным аэрапорце, нейкім чынам адбілася на выніку?**

— На шчасце, адсутнасць таго ці іншага маглі заўважыць толькі самі стваральнікі праекта. Выстаўка атрымалася дынамічная і прыцягальная для наведніка.

Дарэчы, пра тое, што 30 ліпеня — Дзень Мінска, абвяшчалася і ў афішы, і ў друку; адпаведную інфармацыю распаўсюдзіла па сваіх каналах пасольства Беларусі. Мы адчувалі цікавасць людзей, якія запаўнялі залу. Яны мелі магчымасць пагладзець экспазіцыю, дзе з дапамогай фотаздымкаў і выкана违 аб'ёмна архітэктурных элементаў было прадстаўлена аблічча Мінска. На працягу ўсяго выставачнага дня, з 10.00 да 18.00, дэманстравалася інфармацыя з кампактдыскаў: пра Мінск, яго мастацкае жыццё, прамысловасць, адукацыю, прыроднае асяроддзе, пра яго людзей, пра свята горада. А непаўторнае музычнае асяроддзе і ўражвала рэтраспектывай нашай досыць старажытнай спадчыны, і давала ўяўленне пра высокі сучасны ўзровень майстэрства выканаўцаў, і нават актывізавала ўвагу публікі да самой выстаўкі, — чаго я, дарэчы, не заўважаў у малавыразным "музычным аздабленні" дзён іншых гарадоў, калі наведваў Millenium Dome падчас падрыхтоўкі нашага праекта.

Ансамбль "Кантабіле" Беларускай дзяржаўнай філармоніі прадставіў сусветнаму і яшчэ не вядомыя на Захадзе помнікі беларускай музычнай культуры — ад "Полацкага сшытка" да твораў XVIII стагоддзя. А віяланчэліст Алег Алоўнікаў выступіў і асобна ад калектыву, з сольнай праграмай, у якую, апроч іншага, уключыў уласныя кампазіцыі, навеяныя стасункамі музычнай культуры Беларусі і свету. На клавесіне яму акампанавала Вольга Дадзіёмава — вядомая даследчыца старадаўняй беларускай музыкі, і яна ж вяла, каментавала канцэрты "Кантабіле". Аркестр "Віртуозы Мінска" Беларускай акадэміі музыкі, якім кіруе прафесар Аркадзь Берын, — унікальны сімфанічны духавы калектыў, з уласцівымі яму багаццем і разнастайнасцю акустычных магчымасцяў, тэмбравых эфектаў, — падрыхтаваў праграму беларускай, заходнееўрапейскай, рускай класічнай музыкі. Прыемна, што ў нашай акцыі ўдзельнічаў і дзіцячы хор з горада Ноцінгема, даўняга пабраціма Мінска.

Між іншым, у задумках было яшчэ паказаць выступленне маладога беларускага балета (выхаванцаў харэаграфічнага каледжа) і адпаведную моманту новую працу вядомага мастака-дызайнера Уладзіміра Цеслера — роспіс, у якім спалучаны элементы аўтарскіх работ буйных майстроў тысячагоддзя. Гэтыя задумы, на жаль, не спраўдзіліся, але ўсё, што было ў Лондане рэалізавана, аказалася абсалютна ўдалым, без аніводнага "халастога стрэлу".

**— У чым жа выявілася "зваротная сувязь" з наведнікамі выстаўкі?**

— Людзі падыходзілі з самымі рознымі пытаннямі: хто мы, чым жывём? Даводзілася





даходліва тлумачыць, дзе месціцца Мінск: маўляў, на карце Еўропы гэта горад паміж Варшавай і Масквой.

Нашы музыканты выклікалі вялікую цікавасць і атрымалі дзелавыя прапановы, і, спадзяюся, у хуткім часе яны змогуць наведаць з гастролямі Еўропу. Дарэчы, аркестр "Віртуозы Мінска" адразу ж адгукнуўся на запрашэнне з Ноцінгема і выступіў у гэтым горадзе.

Умацаваліся нашы прафесійныя кантакты з Каралеўскім таварыствам архітэктараў Вялікабрытаніі і шэрагам інстытутаў, ужо ёсць дамоўленасць наконт абмену інфармацыяй. Нам бракуе глыбокага міжнароднага аналізу таго, што адбываецца сёння ў сусветнай архітэктуры, і кантакты з іншаземнымі калегамі надзвычай важныя. Спадзяёмся абменьвацца публікацыямі ў спецыялізаваных выданнях, а пры дапамозе пасольстваў рабіць і выстаўкі.

Надзвычай уразіла сустрэча з чалавекам сталых гадоў, які звярнуўся да нас на чысцюткай беларускай мове і ўжо сваімі пытаннямі паказаў дасведчанасць у нашай гісторыі, у музычным мастацтве. Я прыняў яго за прадстаўніка беларускай эміграцыі, але памыліўся: ён аказаўся французам, які жыве ў Лондане і зачараваны Беларуссю!

**— Гэта, часам, не Гай Пікарда?**

— Так, гэта быў Гай Пікарда! Цяпер мы знаёмыя, і падчас яго наступнага візіту ў Мінск зможам сустрэцца, пагутарыць. Прыемна, што ёсць людзі ў заходнім свеце, якія паважліва ставяцца да нашай культуры. І, дарэчы, брытанскі менеджэр Леслі Дзін, падводзячы вынік Дня Мінска, выказала здзіўленне глыбінёй культуры краіны, пра якую там, увогуле, мала ведаюць.

Зроблены крок насустрач, гэтак неабходны нам сёння. Пра нас даведаліся — і гэта важна.

**— Аляксандр Іванавіч, а ці быў у нашай дэлегацыі час пазнаёміцца з Лонданам?**

— Самалёты на Мінск выпраўляюцца адтуль, як вядома, не штодня. У гэтым сэнсе нам пашанцавала: давялося чакаць свой рэйс, і мы многае паспелі паглядзець.

Лондан рыхтаваўся да святкавання 100-годдзя каралевы-маці, і турыстычны сервіс быў наладжаны на вельмі высокім узроўні, так што "пустога" часу не заставалася, і ўсе славутыя мясціны мы наведалі. Былі ў Брытанскім музеі, Нацыянальнай галерэі і нядаўна адкрытай Галерэі сучаснага мастацтва. Наведалі Мост тысячагоддзя з "Вокам Лондана" — славутым колам агляду, сапраўды цыклапічным найноўшым збудаваннем. Пазнавальнай атрымалася экскурсія па старым Лондане — падарожжа ў тыя часы, калі ён быў яшчэ рымскім горадам.

Можна пералічыць мноства цікавых аб'ектаў: Трафальгарская плошча, плошча Эраса, Лонданскі мост, Вестмінстэрскае абацтва, Парламент, вуліца Пікадзілі, асабнякі патомнай арыстакратыі, раён Пэл-Мэл, дзе строга захоўваецца гістарычнае асяроддзе і вуліцы асвятляюць старасвецкімі газавымі ліхтарамі. Наведаліся і ў Грынвіч, дзе размяшчаецца Каралеўская абсерваторыя і знаходзіцца нулявы мерыдыян. Пабывалі ў Оксфардзе. Нават праехалі праз Соха — але гэта было па дарозе ў аэрапорт, раніцай, таму каларыт "скандальнага" раёна мы не адчулі.

**— Дзень Мінска на Фестывалі тысячагоддзя — ужо гісторыя. А што далей?**

— Жыццё пад Купалам тысячагоддзя, вядома, працягваецца, але ўжо сёння вырашаецца лёс гэтага павільёна. Фірмы — удзельніцы аўкцыёна па продажы аб'екта, мяркуюць захаваць у асноўным яго цяперашнія функцыі: правядзенне пазнавальных прэзентацый, забаўляльных імпрэз і адначасова — забеспячэнне дзелавых мэтаў (канферэнцый, сустрэч, выставак, кірмашоў).

Што да нашай выстаўкі — яна не застанецца разовай акцыяй. Ужо ў верасні экспазіцыя пабывае на Міжнародным фестывалі архітэктуры і горадабудаўніцтва ў Рызе. А ў лістападзе мяркуем паказаць яе мінчукам — на фестывалі архітэктуры і мастацтва, які мае адбыцца ў Палацы рэспублікі. Выстаўку разгорнем у фае, дапоўнім кампазіцыю, у якой удалося спалучыць тры архітэктурныя стылі XX стагоддзя, цікавымі для жыхароў Мінска праектамі. Спадзяюся, да нас актыўна далучацца мастакі, музыканты, кампазітары... Няхай горад адчуе, што творчая інтэлігенцыя — ёсць, жыве цікава і працуе на перспектыву.

**Гутарыла С. БЕРАСЦЕНЬ**

*На здымках: фрагменты экспазіцыі; граюць мінскія музыканты.*

МУЗЫКА

# Жывы голас яе гераінь

***Прэм'ера "Турандот" у Нацыянальным тэатры Беларусі ўразіла публіку і яркай, бліскучай музыкай гэтага апошняга твора Д.Пучыні, і самім выкананнем. У галоўнай партыі — ганарлівай, наравістай кітайскай прынцэсы Турандот выступіла Тамара Глаголева. Нягледзячы на канцэртнае выкананне оперы, голасам, асаблівымі вакальнымі фарбамі, непаўторнай эмацыйнасцю спявачка здолела стварыць каларытны вобраз жорсткай, непрыступнай прыгажуні, прынцэсы смерці, лёду. Толькі каханне змякчае яе, робіць зусім іншай — пяшчотнай, чулай, шчырай, — фактычна, поўнай супрацьлегласцю сабе. Перамагло вялікае самаадданае пачуццё!***

***Доўга апладзіравалі таленавітай артыстцы. А яна, усхваляваная паспяховай прэм'ерай, міжволі ўспамінала свой нялёгкі творчы шлях...***

Дачка вайскоўца, які паходзіў з кубанскіх казакоў, Тамара Глаголева нарадзілася ў Германіі, дзе тады служыў бацька. Потым сям'я асела ў беларускім горадзе Барысаве: з Міншчыны паходзіла Тамарына маці. У яе, дарэчы, было прыгожае высокае сапрана. Нядрэнна спяваў і бацька Тамары, хаця чагосьці гэтага саромеўся, часам любіў насвістваць папулярныя мелодыі "Травіяты". З дзяцінства будучая салістка оперы спявала, удзельнічала ў мастацкай самадзейнасці. Добрым словам успамінае школьную выкладчыцу спеваў Ніну Голубеву, якая параіла дзяўчынцы паступіць на вакальнае аддзяленне Маладзечанскага музычнага вучылішча. Тамара вельмі ўдзячная свайму тамтэйшаму педагогу па вакале Розе Антонаўне Зяблікавай: "Яе заслуга ў тым, што я зрабілася спявачкай. Яна надала мне упэўненасці, гаварыла: "У цябе унікальны голас, можаш спяваць ад легенды Лакмэ да хабанеры Кармэн. Пастарайся раскрыць магчымасці свайго голасу".

І ўсё ж шлях Т. Глаголевай да мастацтва не быў усыпаны лаўрамі...

У Беларускую дзяржаўную кансерваторыю не бралі нават яе дакументы — з-за таго, што быў пратэрмінаваны пашпарт. Засмучаная, дзяўчына была гатовая нават памяняць прафесію. Але, як гаворыцца, няма ліха без дабра. Паступіла ў Адэскую кансерваторыю, дзе нават не звярнулі ўвагу на пратэрмінаванасць пашпарта. На ўступных экзаменах яна спявала легенду Лакме з аднайменнай оперы Л. Дэліба. Яе педагог, на жаль, не разабралася ў індывідуальнасці маладой спявачкі. Балазе, вялікую падтрымку будучай артыстцы аказвала цудоўны канцэртмайстар, педагог, жонка вядомага выкладчыка вакалу Людміла Іванова. Фактычна Тамара Глаголева больш за два гады была без настаўніка па спецыяльнасці, пакуль не трапіла ў клас загадчыцы вакальнай кафедры, народнай артысткі Украіны Галіны Паліванавай.

Дыплом яна атрымала свабодны: трэба было самой уладкоўвацца на працу. У філармоніі для ўладальніцы опернага голасу не было месца. У музычных тэатры Украіны таксама было не проста трапіць, тым больш — без рэкамендацыі. І вось, нарэшце, пан поспех усміхнуўся ёй у Мінску.

Тагачасны галоўны дырыжор Беларускай оперы Генадзь Праватораў паслухаў у выкананні Т. Глаголевай партыю Царыцы ночы з "Чарадзейнай флейты" Моцарта і арыю Віялеты з "Травіяты" Д. Вердзі. Тады, чатырнаццаць гадоў таму, і пачалася яе творчая біяграфія ў Нацыянальным акадэмічным тэатры оперы Беларусі. За гэты час артыстка стварыла нямала цікавых неардынарных вобразаў пяшчотных закаханых жанчын, моцных валявых натур. Сярод іх — Таццяна, Аіда, Джыльда, Віялета, Амелія, Чыо-Чыо-сан з опер Чайкоўскага, Вердзі, Пучыні. З асаблівай цеплынёй гаворыць артыстка пра Маддалену, гераіню ранняй аднайменнай оперы С. Пракоф'ева, упершыню ў СССР пастаўленай менавіта на беларускай сцэне.

У нядаўняй прэм'еры оперы Д. Вердзі "Набука" яна выканала найскладанейшую партыю Абігаіль. Спявачка пранікла ў цудоўнай музыкай. І, на думку дырыжора Вячаслава Чарнухі, Тамара Глаголева ў гэтай партыі дасягнула і акцёрскай, і вакальнай высокай планкі. А партыя Турандот у аднайменнай оперы Д. Пучыні напісана быццам бы для яе голасу, хаця і тут за ўяўнай лёгкасцю, упэўненасцю выканання крыецца вялікая карпатлівая праца.

Раскаянне да Абігаіль, маленне Госпаду аб прабачэнні прыходзіць толькі ў апошнюю хвіліну. "Біблейскі сюжэт падкрэслівае, што гэты вобраз сімвалічны, — гаворыць артыстка. — Калі дзяўчына даведваецца, што яна — незаконная дачка, яе пячэ крыўда. Прыняўшы атруту, Абігаіль усведамляе, што ўсё, ёю зробленае, дарэмна, бессэнсоўна. Праз трагедыю мы разумеем складанасць, неадназначнасць гэтага яркага вобраза".

Зусім у іншым ключы выконвае артыстка партыю донны Ганны ў оперы "Дон Жуан": яе зачаравала прывабная лёгкасць моцартаўскай музыкі, і лірычная гераіня Т. Глаголевай зачароўвае сваёй абаяльнасцю публіку.

Што датычыць яе хвалявання, упэўненасці ці няўпэўненасці, часам самаедства, дык гэта ж нармальны стан творчай асобы.

**— Разумная спявачка. Яна не проста прапявае ноты, а пранікае ў змест сваім унікальным голасам, — так мяркуе яе былы канцэртмайстар Ніна Ражнова. — Наогул люблю яе як вакалістку і як чалавека.**

Аналагічныя меркаванні і ў сённяшняга канцэртмайстра спявачкі — Таццяны Івановай, якой цікава працаваць з Тамарай Глаголевай, бо да стварэння таго ці іншага вобраза артыстка падыходзіць творча, аргументавана, патрабавальна.

Як вядома, у тэатральным жыцці бываюць не толькі ружы, але і шыпы: зайздрасць, пляткарства, інтрыгі... Часам Т. Глаголева сустракае неразуменне і сярод публікі. Некаторым не падабаецца яе голас, манера выканання. Але ж усім падабацца немагчыма...

Праблемы не абмінаюць жыццё артысткі. На пачатку працы ў сталіцы Беларусі ёй не было дзе жыць, даводзілася ездзіць у тэатр аж з Барысава. Адсюль — стомленасць, хранічнае недасыпанне, што адбілася на голасе: кровазліццё ў звязкі. Нягледзячы на нягоды, яна працягвала шмат працаваць... І перамагла! Рэжысёр М. Ізворска-Елізар'ева паставіла "Шэкспірыяну", куды ўвайшлі фрагменты опер Вердзі "Фальстаф", "Атэла", "Макбет". Тамара Глаголева стварыла вобраз лэдзі Макбет і атрымала высокую адзнаку крытыкі.

Вельмі няпроста сумяшчаць лірыка-драматычныя, драматычна-каларатурныя партыі. Гэта вымагае самааддданай, карпатлівай працы. Спявачка шмат займаецца дома. Вядома ж, самае галоўнае для яе — музыка, музычная характарыстыка гераіні. Але ж немагчыма рыхтаваць партыю, не ведаючы драматургічны, псіхалагічны змест, эпоху, калі адбываецца сцэнічнае дзеянне. Як актрыса яна імкнецца акунуцца ў тыя падзеі, адчуць сябе часткай таго, што адбываецца ў спектаклі. З кожным оперным вобразам яна нібы зрастаецца, жыве думкамі, хваляваннямі сваіх гераінь. У кожнай партыі знаходзіць для сябе нешта сваё, незвычайнае, праўдзівае пэўны кавалак жыцця, пераадольвае свае "падводныя камяні".

Артыстка сур'ёзна, карпатлівая, настойліва вучыць кожную ролю, нават у электрычцы па дарозе да маці ў Барысаў. Вынік — на тэатральнай сцэне, дзе ўсё-ўсё, нават заўсёднае хваляванне, дапамагае выступіць ярка, натхнёна. І поспех Т. Глаголева мае і ў Мінску, дзе і сцены дапамагаюць, і на замежных гастролях тэатра. Пра тое, як выдатна яна выступіла на міжнародным фестывалі ў швейцарскім горадзе Салатурне, дзе ўжо неаднаразова пабываў наш тэатр, пісалася ў замежнай прэсе.

Чалавек працавіты, Тамара Глаголева вельмі адказна ставіцца да свайго Божага дару, свята аберагае голас. А пра тых, хто цёпла сустрэў, абагрэў яе сваёй увагай у тэатры, гаворыць з асаблівай павагай:

**— Цудоўную ролю сыграў у маім жыцці выдатны оперны рэжысёр Сямён Штэйн, які, на жаль, пайшоў з жыцця і яму няма замены. Не магу не назваць і знакамітых дырыжораў: Яраслава Вашчака, Уладзіміра Машэнскага. І, вядома ж, Генадзя Праваторава, які паверыў у мяне, запрасіў у тэатр. У маім лёсе вялікую ролю адыграла і цудоўная сямейная пара — былы саліст Беларускай оперы, цяпер прафесар вакалу Анатоль Генералаў і яго жонка — мой колішні канцэртмайстар Ніна Ражнова. З маіх першых крокаў у калектыве са мной поруч — загадчыца літаратурнай часткі тэатра Алена Саламаха, якая заўсёды падтрымлівае маральна. Так што ў Мінску мне шанцуе на добрых людзей.**

Дабрыня, шчырасць у адносінах — узаемныя, дапамагаюць жыць, працаваць, тварыць, знаходзіць новыя выканаўчыя фарбы, натхненне. Фактычна ў тэатры Тамара Глаголева — адзіная выканаўца партый драматычнага сапрана. Менавіта ў любові, адданасці мастацтву, а яшчэ ў веры, дабрыні і чэрпае яна сілы, упэўненасць.

**Вера КРОЗ**



*На здымку: заслужаная артыстка Беларусі Т. ГЛАГОЛЕВА ў партыі Чыо-Чыо-сан.*

## З увагай да нарыса

АНТАНІНЕ ЛЫСЕНКА — 70

**Антаніна Фёдараўна нарадзілася ў вёсцы Зарачаны Полацкага раёна. У 1955 годзе скончыла Гомельскі педагагічны інстытут, настаўнічала, пасля вучылася ў аспірантуры пры Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук БССР. З 1964-га працавала ў гэтым інстытуце навуковым супрацоўнікам. У 1965 годзе А. Лысенка абараніла кандыдацкую дысертацыю па тэме: "Беларускі мастацкі нарыс". Даследаванню беларускага нарыса, публіцыстыкі прысвечана ўся яе навукова-творчая дзейнасць. У Антаніны Фёдараўны выйшлі кнігі "Сучасны беларускі нарыс", "Лінія гарызонта. Нарыс творчасці Янкі Сіпакова". "З трывогай і надзеяй. Беларуская публіцыстыка 80-х гадоў". А.Лысенка — сааўтар некалькіх калектыўных даследаванняў, прысвечаных праблемам беларускай літаратуры, прымала ўдзел у падрыхтоўцы Збору твораў І.Мележа ў 10 тамах і М.Лынькова — у 8.**

**Віншуем Антаніну Фёдараўну з юбілеем і жадаем ёй надалей актыўнай творчай дзейнасці!**

## У Шарпілаўцы гучалі вершы

**Два гады назад, калі землякі ўрачыста адзначалі 60-годдзе з дня нараджэння лаўрэата Дзяржаўнай прэміі, паэта Анатоля Грачанікава, загадчык аддзела культуры Гомельскага райвыканкама Уладзімір Казлоў выказаў думку зрабіць паэтычныя чытанні на радзіме вядомага паэта традыцыйнымі. А сёлета, калі прыхільнікі таленту А. Грачанікава і яго сябры другі раз сабраліся ў Шарпілаўцы, ён заявіў ужо цвёрда: "Раз у два гады будуць гучаць вершы на беразе Сожа!"**

**Запэўніў у гэтым і намеснік старшыні райвыканкама Іван Храпуноў, які адкрыў уступным словам паэтычныя чытанні "Маё спагадлівае слова", што не можа не радаваць: на Гомельшчыне нарадзілася яшчэ адно літаратурнае свята, якое стане ўшанаваннем памяці Анатоля Грачанікава, будзе садзейнічаць прапагандзе творчасці не толькі беларускіх пісьменнікаў, але і суседзяў — літаратараў з Браншчыны і Чарнігаўшчыны.**

**Цёпла прымалі шарпілаўцы паэтаў Міхася Башлакова, Станіслава Рэп'яха (Чарнігаў), Юрыя Фатнева, перакладчыка Валерыя Стралко, пісьменнікаў Аляксея Слесарэнку, Барыса Качаноўскага (Бранск), лаўрэата абласной прэміі імя А. Грачанікава паэтэсу Таісію Мельчанку, паэта і мастака Генадзя Говара, паэтаў Ігара Палешука, Лідзію Возісаву і Міхася Буткевіча. Усе яны не толькі чыталі вершы, але і прыгадвалі пра свае сустрэчы з Анатолем Грачанікавым.**

**Прачытаў верш і Толя Грачанікаў, унук Анатоля Грачанікава, які прыехаў на свята разам з бабуляй Нэляй Іванаўнай і татам Андрэем.**

**У тым, што свята атрымалася, вялікая заслуга калектыву Гомельскай райбібліятэкі, і ў першую чаргу Ніны Серыкавай, па сцэнарыі якой і прайшлі паэтычныя чытанні ў Шарпілаўцы.**

**Васіль ТКАЧОЎ,**
**сакратар Гомельскага абласнога аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў**

## Узаемная цікавасць

**Зацікаўленая гаворка па пытаннях развіцця славацка-беларускіх моўных, літаратурных і культурных кантактаў адбылася нядаўна на міжнародным семінары ва універсітэце горада Прэшава (Славацкая Рэспубліка).**

**Семінар быў арганізаваны па ініцыятыве кафедры славістыкі Прэшаўскага універсітэта (загадчык кафедры дацэнт кандыдат філалогіі Юлія Дудашава).**

**Гэта была не першая на зямлі Славакіі сустрэча славацкіх і беларускіх навукоўцаў-філолагаў. У семінары прынялі ўдзел, выступілі з дакладамі як выкладчыкі з універсітэтаў г.г. Прэшава, Банска-Быстрыцы, так і госці з Беларусі.**

**Гаворка адбылася зацікаўленая і, галоўнае, змястоўная. Пашыраюцца кантакты, расце ўзаемная цікавасць.**

**Віталь МАСЛОЎСКІ,**
**выкладчык кафедры славістыкі універсітэта г. Прэшава (Славакія)**

ПАМЯЦЬ

# На вуліцы 3 мая ў Слоніме

Дзядзька Гальяш жыў у горадзе Слоніме на вуліцы 3 мая. Цяпер вуліцы з такою назваю няма, яна называецца Чырвонаармейскай. А дзядзька Гальяш — ні хто іншы, як выдатны беларускі паэт, калекцыянер, мастак і музыкант Гальяш Леўчык (Ілья Міхайлавіч Ляўковіч).

Няма на Чырвонаармейскай вуліцы і хаткі, дзе ён жыў. А гэта была не хатка, а цуд! Цяпер на месцы яе знаходзіцца аўтарамонтны завод.

Праект гэтай хаткі склаў і яе будаваў у 1920 годзе сам паэт, разабраўшы старую бацькаву хату. Яна прастаяла да пачатку 60-х гадоў, але пасля была знесена, бо пашыралася тэрыторыя завода. Шкада. Хатка нагадвала маленькі своеасаблівы музей. Усе сцены былі пазавешаны малюнкамі ў пазалочаных рамачках яго работ, фатаграфіямі, сярод якіх вялікі алейны партрэт самога Гальяша аўтарства варшаўскага мастака Барвіцкага. Шмат захоўвалася розных кніжак, роспісаў, старых рэчаў. Паэт цікавіўся гісторыяй Беларусі, збіраў народную творчасць, калекцыяніраваў усё беларускае — кнігі, паштоўкі, значкі, музычныя інструменты. Ды і сам добра іграў на гітары, скрыпцы і акарыне.

Падобны музей беларускай літаратуры і мастацтва быў і ў ягонай кватэры ў Варшаве. Летам Гальяш Леўчык жыў у Слоніме, а зімою — у сталіцы Польшчы. Захаваўся ўспамін Зоські Верас, датаваны 1984 годам, пра варшаўскую кватэру паэта: "Адзін даволі вялікі пакой, даўгі-даўгі, з адным акном. Пакой здаваўся вузкім таму, што адна яго сцяна была адбудаваная даволі шырокімі паліцамі ад падлогі да столі. І на іх кніжкі, кніжкі... Сапраўды бібліятэка вялікая, цікавая і каштоўная. Сабрана хіба ўсё, што выйшла з друку ў беларускай мове. Усе гадавікі "Нашай Нівы" ад самага яе пачатку, "Гоман", некалькі нумароў "Мужыцкай праўды", Францішак Багушэвіч: Дудка, Смык.., "Сялянка" Дуніна-Марцінкевіча ды іншыя яго творы... Купала, Колас... Усё, што выдала суполка "Загляне сонца і ў наша ваконца" ...І ўсе тамы "Lud Bialoruski" М. Федароўскага, падараваныя Гальяшу Леўчыку аўтарам...

Усе паліцы ўпрыгожаныя партрэтамі пісьменнікаў, паштоўкамі, краявідамі... Шмат з таго было купленым, але шмат і падараваным аўтарамі ды знаёмымі".

З Варшавы зноў вернемся ў Слонім, дзе жыў наш дзядзька Гальяш. Маладзейшыя слонімскія паэты, мастакі, музыканты яго звалі дзядзькам Гальяшам. У хатцы часта бывалі паэты Анатоль Іверс, Сяргей Хмара, Сяргей Новік-Пяюн, мастак Антон Карніцкі, а таксама Ядвіся. Тая самая Ядвіся, аб якой пісаў Якуб Колас у аповесці "У палескай глушы". Пра гэта пры жыцці не раз расказваў Сяргей Новік-Пяюн. Ён нават меў сустрэчу з Ядвісяй, іх пазнаёміў Гальяш Леўчык.

Ядвіся, сапраўды, жыла ў Слоніме на Ружанскай вуліцы. Прозвішча ў яе было — Бараноўская. Яна пісала вершы і друкавала ў "Нашай Ніве" пад псеўданімам "Юстына". У 1945 годзе Ядвіся пакінула горад над Шчарай і выехала ў Польшчу. Як склаўся яе далейшы лёс, невядома.

Да Гальяша Леўчыка ў Слоніме прыязджалі многія беларускія дзеячы. Гасцявалі ў яго Язэп Драздовіч, Зоська Верас, фалькларыст і кампазітар Антон Грыневіч, Міхась Лынькоў, Адам Станкевіч і Янка Купала. А было гэта 14 лістапада 1939 года.

Янка Купала вяртаўся з Беластока з Народнага сходу Заходняй Беларусі. Па дарозе на Мінск ён і заехаў у Слонім, бо ведаў, што тут жыве Гальяш Леўчык. На сваім "шаўрале" пад'ехаў да хаткі паэта, дзе яны сустрэліся. Пасля гутаркі, Янка Купала запрасіў Гальяша ў "Першы беларускі рэстаран", які знаходзіўся ў цэнтры Слоніма. Паабедалі разам і развіталіся. Больш у жыцці ім сустрэцца не давялося.

Гальяш Леўчык меў шмат сяброў. Яны прыязджалі не толькі ў Слонім, але і часта пісалі пісьмы, дасылалі кнігі, паштоўкі, часопісы. А сяброўкі, гаспадыні ў доме ў яго не было. І вось у 1932 годзе ён прачытаў у газеце "Кур'ер Кракаўскі" аб'яву, 30-гадовая жанчына з Ваўкавыска, якая піша апавяданні, хоча выйсці замуж. "Клюнуў" на гэтую аб'яву і паслаў жанчыне ліст. Пачалася перапіска, а праз пэўны час яны спаткаліся. Жанчына аказалася прыгожай і вельмі спадабалася слонімскаму паэту. Праўда, была яна даволі лёгкіх паводзін і любіла жыць раскошна. І гэта Гальяша Леўчыка трохі насцярожыла. Ён нават заехаў у Дзярэчын да свайго сябра Яна Пятроўскага (жыве цяпер у ЗША), каб пагутарыць пра сваю будучую жонку. Той адгаворваў яго жаніцца. Але Гальяш не паслухаў сябра і праз пэўны час слонімскі паэт і польская дзяўчына Зося ўзялі шлюб.

Вельмі цяжка давялося Гальяшу Леўчыку з Зосяй Ляўковіч. Яна яго не кахала і не берагла, а жыла, як хацела сама. Усе зберажэнні мужа праз некаторы час поўнасцю расходавала. А ў гады вайны за ёю сачыла нямецкая паліцыя, якой не падабаліся яе частыя выезды ў Варшаву. Паліцыя ўзяла ў яе распіску аб не выездзе. Зося ўсё ж працягвала свае паездкі. Яе хутка арыштавалі і ў камеру паліцыя падаслала правакатаршу, якой жанчына расказала, што яна захоўвае ў падушцы польскі сцяг з арлом. На кватэры немцы сапраўды знайшлі сцяг і незадоўга пасля гэтага ў 1942 годзе яе расстралялі на Пятралевіцкай гары каля Слоніма.

Гальяш Леўчык цяжка перажываў страту Зосі, відаць, моцна яе кахаў. У 1942 годзе са Слоніма ён падаўся ў Варшаву. Прыбыўшы туды, ён дабраўся да свайго дома і кватэры. Але ў ёй ужо жыла іншая сям'я, якая нічога не ведала пра папярэдніх кватарантаў. Так ён застаўся без жонкі, без кватэры і без архіваў. У акупіраванай немцамі Варшаве моцна галадаў, а ў пачатку 1944 года памёр.

Да гэтага кароткага жыццяпісу Гальяша Леўчыка трэба дадаць і самае галоўнае. Ён быў цудоўным паэтам. Першы зборнік вершаў "Чыжык беларускі" выйшаў з друку ў Вільні ў 1912 годзе. У 1980 годзе Янка Саламевіч сабраў і апублікаваў асобнаю кнігаю яго выбраныя творы пад загалоўкам "Доля і хлеб".

Чытаючы вершы Гальяша Леўчыка, якія ён напісаў 85—70 гадоў назад, адчуваеш іх сённяшнюю актуальнасць, злабадзённасць і смеласць.

Гэты артыкул я напісаў з нагоды 120-годдзя з дня нараджэння слонімскага паэта Гальяша Леўчыка. На жаль, юбілей не адзначаўся ні ў Слоніме, ні ў Мінску, ні ў Вільні, ні ў Варшаве. А шкада...

Даруйце нам, дзядзька Гальяш!

**Сяргей ЧЫГРЫН**



*Гальяш ЛЕЎЧЫК (стаіць другі злева) сярод удзельнікаў слонімскага хору. 1905 г. Здымак друкуецца ўпершыню.*

# СТАРЫ

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 9)*

дарогу: такі звычай. Праз хвіліну вынеслі труну. Стары заенчыў, здагадаўшыся, хто там... Ён любіў Міхала, як і ранейшага гаспадара — Адама. А цяпер Міхал памёр... І Стары адчуў сябе нібы асірацелым...

Здалёк праводзіў ён шэсце людзей, аббягаў ваколіцай адкрытыя мясціны. Потым ужо, калі ўсе разышліся, Стары моўчкі лёг грудзінай на сыры магільны жвір. Можа, ён плакаў, калі сабака ўмее плакаць. Але пэўна адно: адчуваць гора і шчасце дадзена не толькі чалавеку...

На могілкі непрыкметна насоўвалася цемра, станавілася страшна ад нематы ночы. І Стары, як і тады, калі бег з поля да вёскі, не вытрываў — падаўся з могілак у Тамілавічы, нібы ўцякаючы ад чагосьці няяснага, невыноснага, якое цяжка назваць, акрэсліць... Напаследак толькі пакружыў разы тры каля свежага грудка, пад якім цяпер вечна спачываў Міхал...

Вёска здалёк заблішчэла агеньчыкамі ў вокнах, але да хат Стары ўсё ж не пайшоў. Спыніўся ў знаёмым малінніку, а потым, наважыўшыся, падбег да падвор'я Рубецкіх і сцішыўся там ля плота.

На свет насоўвалася ноч. У чорным небе міргалі рэдкія зоркі. Месяц быў зацягнуты хмарай, бледна свяціўся толькі ягоны адбітак у цёмнай бездані. Не было чутно ні гуку — нема, мёртва вакол. Маўчала поле, Тамілавіцкі лес, вёска, маўчала неба, маўчала зямля. Было страшна. Нават вецер — і той дыхаў холадам.

І тады Стары, павярнуўшыся да хаты Рубецкіх, завыў — працяжна, хрыпата.

Дзесьці ў суседзяў бразнулі дзверы, пачуўся незадаволены мужчынскі голас:

— Сабака вые... На нябожчыка.

Яму адказаў старэчы, жаночы:

— Каля Рубецкіх. Нядаўна пахавалі — і вось ізноў...

Мужчына штосьці неразборліва буркнуў у адказ. Той жа голас, толькі ўжо больш сцішаны, працягваў:

— Не стой на двары, Сяргей, — холадна. Дзіўна, учора яшчэ так цёпла было, а сёння — і холад, і ноч нейкая чорная, нядобрая...

Бразнулі, зачыняючыся, дзверы, і ўсё сціхла.

А Стары выў, скуголіў, не супыняўся, глядзеў старэчымі вільготнымі вачыма на нейкую няяркую дробную зорку, што ледзь вырвалася з чарнаты неба, і енчыў, заліваўся віскатам, асіплым, хрыпатым і натужным голасам выказваў скаргу і крыўду сваю на лёс...

Але ніхто не адазваўся яму. Маўчала ўсё вакол, стаіўшы ў чорных сваіх глыбінах нешта страшнае і таемнае. Ноч паглынала гукі. І Стары стаміўся, безнадзейна апусціў галаву, лёг у сухую чэзлую траву ля плота і адчуў, як дзіўна пачало слабець цела, нямела, рабілася мяккім, бязвольным, а сам ён нібы праvalьваўся ў бездань, і над ім хутка-хутка кружылі ў чорным правале зоркі...

**V**

Уранку двое мужчын, што праходзілі загуменнем, згледзелі закачанелага, мёртвага сабаку пад плотам, і адзін з іх сказаў, паказваючы ў бок чорнай хаты Рубецкіх:

— Бачыш, як смерць іх косіць — усіх адным махам. Нават Стары памёр. Хутка сыходзіць іх час. Адна Марыя жыве пакуль...

Пра Вілю ніхто і не ўспомніў. Людзі пайшлі далей, сваёй дарогай...

ВІНШУЕМ!

# Уздымач яго радзіма

## Алесю ТРАЯНОЎСКАМУ — 75

Калі ехаць з Мінска на Слуцк у канцы Буды-Грэскай, у глыбіні лесу відненюцца некалькі вострых яловых вершалін. Тая мясціна называецца Уздымач. Там колісь стаяла леснічоўка, у якой 22 верасня 1925 года ў сям"і лесніка Пятра Іванавіча нарадзіўся сын Алесь. Да вайны ён паспеў скончыць сямігодку. Юнаком стаў партызанам атрада імя Чапаева, у 1944 удзельнічаў у знакамітым партызанскім парадзе ў Мінску. Потым фронт, два раненні, адно з іх цяжкае, якое давала і дае знаць пра сябе праз дзесяткі гадоў. Асколкі, якія выходзілі з цела, былы партызан умудраўся даставаць сам, пракаленымі на агні пласкагубцамі. Раны на тым месцы не хочуць закрывацца... З гадамі ўсе раны балючай баляць.

А тады, пасля вайны, маладосць не чула іх. Алесь Траяноўскі, працуючы на розных работах, атрымоўвае сярэднюю адукацыю, завочна заканчвае Маскоўскі гісторыка-архіўны інстытут і неўзабаве пададецца ў журналістыку. Пачынаў у шматтыражцы "Западная траса", а з 1962 года літсупрацоўнік у "Звяздзе", потым загадчык аддзела літаратуры і мастацтва. З 1983 па 1986 год намеснік галоўнага рэдактара часопіса "Мастацтва Беларусі".

Не адно пакаленне беларускіх паэтаў і празаікаў з удзячнасцю ўспамінае Алеся Пятровіча, з благлавення якога іхнія творы бачылі свет на старонках старэйшай і шаноўнейшай беларускай газеты "Звязда". Улюбёны ў літаратуру, мастацтва, знаток беларускай гісторыі, Алесь Пятровіч шчыра дзяліўся ведамі з аўтарамі намнога маладзейшымі, ім перадаваў сваё захапленне беларускасцю, Беларуссю. Знаёмства і сяброўства з Алесем Траяноўскім стала вялікай школай адкрыцця саміх сябе, усведамленнем саміх сябе, далучэннем да Бацькаўшчыны для многіх тады пачынаючых пісьменнікаў. Я ўжо не гавару пра тых, хто працаваў з ім непасрэдна, хто вучыўся няпростай і нялёгкай рэдактарскай рабоце. Пра гэта лепей могуць расказаць Сяргей Законнікаў, Віктар Карамазаў, Уладзімір Марук...

Асаблівая заслуга Алеся Траяноўскага ў далучэнні да беларускага чытача творчасці лужыцкіх сербаў і кашубаў. Дзякуючы яму на Беларусі выйшла анталогія паэзіі лужыцкіх сербаў "Там, дзе Шпрэвя шуміць", затым пры яго укладанні і ў яго перакладах кашубская анталогія "За даляглядам край Сталемаў", за што Алесь Траяноўскі стаў лаўрэатам прэміі Сталема.

У перакладзе Алеся Траяноўскага з верхнялужыцкай выйшла аповесць Ю.Брэзана "Чорны млын", ён уклаў анталогію беларускага апавядання "Дзівак з Ганчарнай вуліцы", якая выдадзена на верхнялужыцкай мове ў ГДР.

У активе пісьменніка энцыклапедычныя артыкулы, пераклады з польскай мовы, з украінскай, у тым ліку і вершы І.Франко, П.Тычыны, А.Ольжыча, з якімі чытач пазнаёміцца ў гэтым нумары "ЛіМа". А часопіс "Бярозка" друкуе пераклад кнігі Анны Стахіньскай "У краіне адкрыццяў і вынаходкаў". Пакрысе пішуцца вершы.



Добрага здароўя, творчых поспехаў, дарагі Алесь Пятровіч, у год вашага 75-годдзя — і намнога далей, далей.

**Алесь ЖУК**

# Жыццё, як знічка...

*Яго імя да нядаўняга часу не ўпаміналася ва ўкраінскай (савецкай) літаратуры. Чытачу невядомы быў паэт Алег Ольжыч і ягоная творчасць. Ды як жа ён мог быць вядомы? Сын паэта-эмігранта Аляксандра Олэся (Аляксандра Кандыбы), дзеяч змагання за незалежнасць сваёй радзімы, не мог мець хоць маленькага месца ў почаце творцаў украінскай літаратуры.*

*А ён быў чалавекам незвычайных здольнасцяў — адукацыю атрымаў у пражскім Карлавым універсітэце, быў археолагам, доктарам філасофіі, паэтам, публіцыстам, мастацтвазнаўцам, выступаў з лекцыямі ў многіх вышэйшых вучэльнях, у т.л. у Гарвадскім універсітэце ЗША.*

*Нарадзіўся Алег Ольжыч (Алег Кандыба) у 1907 г. у Жытоміры. У 1923 г. пераехаў у Чэхаславакію да бацькі. Творчую дзейнасць пачаў рана. Тэматыка яго паэтычных твораў надзвычай шырокая. Тут і заглыбленасць у далёкую гісторыю, і рамантыка заморскіх земляў, і роздум над прызваннем чалавека і інш. Але галоўная — гэта Украіна, яе доля і нядоля, барацьба за незалежнасць, мужны, самаадданы чалавек у гэтай барацьбе. Магчыма, гэтая тэма гучыць у вершах А. Ольжыча вельмі жорстка, сурова, але яе выкрышталізоўвала душа паэта-змагара, паэта-патрыёта.*

*Незалежніцкая, бескампрамісная пастава паэта прывяла яго да трагічнага канца — у чэрвені 1944 г. ён быў закатаваны ў гестапаўскай турме канцлагера Саксенгаўзэн.*

*Пры жыцці А. Ольжыча ў Празе выйшлі ягоныя зборнікі "Рінь" і "Вежі", на Захадзе пасмяротна былі выдадзены "Підзамча", "Поезії" і "Величність". У 1994 г. у Кіеве выйшаў упершыню на Украіне зборнік паэзіі і публіцыстыкі "Незнаному Воякові".*

Алег ОЛЬЖЫЧ

## Палессе

I

*Увечары цесна. Душна*
*ў пракураных сценах.*
*Выйшаў. Аглядзеўся.*
*Снегу па пояс.*
*Сонца крывавіцца ў пушчы.*
*Хістаюцца цені.*
*Цёпла. А голас —*
*як волава, голас.*

*Дзесьці ідзе Каляда,*
*дзесь ступае шырока.*
*Прыйдзе — і усцешна прагалы*
*пакрыюцца рунню,*
*Стане — і зноў над барамі,*
*над небам высокім*
*Гусі напнуць у блакіце*
*нязлічныя струны.*

II

*На асветленых, сонечных*
*схілах сон-зелле сінее,*
*Выгінаецца неба над гоманам*
*хвойных карон.*
*Тут бары залатыя, тут шумы,*
*што змружваюць веі,*
*Тут задумныя людзі, што слова*
*не чулі: закон.*

*Тут зямля толькі песціць, хвалюе,*
*цяжарыць і родзіць,*
*Тут голле насыціў туманам*
*хмяльны цецярук.*
*А далёка-далёка ў трывозе*
*праходзяць народы*
*І страчаецца бураю зброя*
*у тысячах рук.*

*Маё зграбнае цела — як ствол*
*ясакара срабрысты,*
*Роўна дыхаюць грудзі,*
*і кроў густа плыне, як мёд, —*
*Покуль кінуць і нас у працяг*
*стэпавы прамяністы*
*Прага мора, святла*
*і нястрымны парыў у паход.*

●

*Не светлы момант адкрыцця глыбінь*
*Празрыстае і чыстае навукі,*
*І не натхненне ружай залатою —*
*З бязмернаю ласкавасцю сваёю*
*Пашлі Ты мне, малюся, дар адзін:*
*Ў яе імя прыняць належна мукі*
*І ў грозны час жалезнае расплаты*
*Ў мундзіры шэрым згінуць ад гранаты.*

●

*Дзяржава не творыцца ў будучых днях,*
*Тварэнне дзяржавы настала —*
*То людзі, што гарт набылі у агнях,*
*То людзі — як глыбы, як скалы.*

*Не кволыя ўласнікі пенсій і рэнт,*
*Распешчаны цвет пансіёнаў, —*
*А тыя, хто воляй, крывёю ў цэмент*
*Змацуе жвір сыпкі мільёнаў.*

●

*Кроў шмат гадоў лілася на зямлі,*
*Яна сцвярдзела, нібыта каменне,*
*І ўслала здратаваныя палі*
*Хлапцоў нязломных пакаленне.*

*Да грудзей застылых, просячы цяпла,*
*Хацелі немаўляты прытуліцца,*
*Ды чорнае ім лона падала*
*Эпоха злая, як ваўчыца.*

*Цяпер дажджы, халодныя вятры,*
*Укрыты хмарамі зямлі прасцягі,*
*Але растуць у прыцемку нары*
*Браты суровае адвагі.*

●

А гострозоре, мужне покоління
Уже росте на молодій землі.
П. ФИЛИПОВИЧ.

*Яно ўзрасло з адчаю і прынукі,*
*Ўзмужнелае ў парывах сіл буйных,*
*Ўлюбёнае ў свае тугія лукі*
*І ў бронзу цел і мускулаў сваіх.*

*Прыемна так у прадчуванні бою,*
*Без роздуму і роспачных хвілін,*
*Пакорную зямлю чуць пад нагою*
*І піць паглядам далячыняў сінь.*

●

*Даліны падаюць і туляцца да ног,*
*Ускручваюць віхры*
*расхрыстаныя горы.*
*Наш пругкі, цвёрды крок зямля дарог*
*Страчае стогнамі пакоры.*

*Ці ж не расколем далягляды мы?!*
*Ці ж не абрынем хмары з небакраю?!*
*І вогкі вецер дужымі грудзьмі*
*Мне на мячы маім спявае.*

## Малітва

*Прыёр устаў. Браты-дамінíканы*
*Двума радамі узняліся з лаў,*
*І сэрца храма ўзрушылі арганы,*
*І змрок азваўся, звонка загучаў.*

*Вось брат адзін. Страшылішча іконам:*
*Рудая грыва і мядзведжы стан...*
*Калі б ён быў разбойніцкім баронам,*
*Да смерці б катаваў сваіх сялян.*

*Бязмерна ж моц Твая,*
*Сын Божы Хрысце,*
*Што і яго у Дом Твой прывяла!*
*Ён моліцца... І зяе прамяністасць*
*Пяшчотная з-пад дзікага чала.*

●

*І веру мець, і прагнуць — не дарма.*
*Бо неўміручасць — веліч і вячыстасць.*
*Вось хмара ліўнем зрынецца сама*
*І неба расхінаецца ўрачыста.*

*Пан Бог багаты нас паблаславіў*
*Дарамі, што забраць ніхто не ў стане:*
*Любоў і творчасць, смутак і парыў,*
*Адвага і агонь ахвяравання.*

*Шмат на сталах Яго іскрыстых він,*
*І шмат саладкіх гронак буйнаспелых.*
*Ідзі ж смялей ты і бяры адзін*
*Для твайго сэрца самы хмельны келіх.*

## Готы

*Пахмурны дзень стаіўся у тумане,*
*Спалохана іржуць над бродам коні.*
*Мой меч блішчыць, я чую: у змаганні*
*Не здрадзяць мне сталёвыя далоні.*

*Учора цвёрда так, беспаваротна,*
*Сказаў я "не" сурова, без вагання...*
*І цалаваў у цемры ночы слотнай*
*Палонніцу, хмяльную ад кахання.*

*Хоць анты дзесь за рэчкай у тумане —*
*Не здрадзяць мне сталёвыя далоні.*
*Хай толькі вобраз любы, у змаганні*
*Не дасць астыць маёй гарачай скроні.*

**Пераклаў з украінскай**
**Алесь ТРАЯНОЎСКІ**



*Фота Ул. КАГУЦЕНКІ*





## З лімаўскай кагорты

**Навум Кіслік быў літаратурным супрацоўнікам рэдакцыі газеты "Літаратура і мастацтва" ў 1952—1958 гадах. А нарадзіўся Навум Зіноўевіч 26 верасня 1925 года ў Маскве. Да Вялікай Айчыннай вайны жыў і вучыўся ў школе ў Віцебску. Пасля працаваў у Набярэжных Чалнах (Татарыя). З канца 1942 года на фронце. Удзельнічаў у баях на Курска-Арлоўскай дузе, быў двойчы паранены. Дэмабілізаваўся ў 1944 годзе. Некаторы час быў рабочым на станкабудаўнічым заводзе ў Арэнбургу, вучыўся ў мясцовым педагагічным інстытуце, а з 1946-га — на філалагічным факультэце Беларускага дзяржаўнага універсітэта, пасля заканчэння якога настаўнічаў у Дрысенскай сярэдняй школе. А потым — праца ў "ЛіМе", у часопісе "Полымя"... З першымі вершамі Н. Кіслік выступіў у 1944 годзе на старонках газеты Паўднёва-Уральскай ваеннай акругі "Сталинец". Выдаў кнігі паэзіі "Разговор з друзьями", "Поиск", "Повесть о спресованном порохе", "Ветви", "Воспоминание о вокзалах", "Зимний свет" і іншыя, якія выходзілі ў Мінску і Маскве. Цудоўна зарэкамендаваў сябе як перакладчык з беларускай мовы. Дзякуючы Н. Кісліку рускамоўны чытач змог пазнаёміцца з раманам І. Мележа "Людзі на балоце", аповесцямі А. Карпюка "Данута", "Пушчанская адысея", раманам У. Караткевіча "Хрыстос прызямліўся ў Гародні", многімі вершамі Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча, П. Броўкі, А. Вялюгіна, С. Дзергая, У. Караткевіча, А. Куляшова, П. Панчанкі, А. Пысіна, А. Русецкага, М. Танка, Р. Барадуліна і іншых. Выбраныя пераклады Н. Кісліка змешчаны ў яго кнізе "Спелый бор" (1982). Памёр у 1998 годзе.**

## Дбаў аб вольнай Беларусі

**Імя Юльяна Сергіевіча, не сказаць, каб шмат гаварыла аматарам літаратуры, а ён заслугоўвае таго, каб пра яго памяталі. Нарадзіўся Юльян Іосіфавіч 23 верасня 1910 года ў вёсцы Юраўшчына цяперашняга Маладзечанскага раёна. Вучыўся ў пачатковай школе, а далей займаўся самаадукацыяй, працуючы на сельскай гаспадарцы. Пасля службы ў польскай арміі скончыў сельскагаспадарчыя курсы. З'яўляўся актывістам Беларускай сялянска-рабочай грамады і Таварыства беларускай школы, пісаў сцэнарыі для самадзейных калектываў. Калі Германія напала на Польшчу, трапіў у палон, як салдат польскага войска. Знаходзіўся ў розных лагерах, працаваў у нямецкага баўэра. Пасля вайны некаторы час настаўнічаў, быў рэпрэсіраваны, жыў у Сібіры і Казахстане. Пасля рэабілітацыі працаваў у калгасе імя Леніна Маладзечанскага раёна. Памёр Ю. Сергіевіч 4 кастрычніка 1976 года. Упершыню ў друку выступіў у 1922 годзе. Друкаваўся ў часопісах "Маланка", "Шлях моладзі", іншых заходнебеларускіх выданнях, адзін з аўтараў калектыўнага зборніка "Рунь веснаходу", што выйшаў у Вільні ў 1928 годзе. Падрыхтаваў сваю кнігу, але 17 верасня 1939 года набор быў раскіданы і яна так не пабачыла свет. Некаторыя творы Ю. Сергіевіча апублікаваны ў зборніку "Ростані волі" (1990).**

## Настаўнік Доўнар-Запольскага

**А ім з'яўляўся украінскі гісторык, археолаг, этнограф Уладзімір Антановіч (нарадзіўся ў 1830 годзе ў г. Чарнобылі, цяпер Кіеўская вобласць Украіны, памёр 21 сакавіка 1908-га). У 1863—1880 гадах У. Антановіч быў галоўным рэдактарам Часовай камісіі для разбору старажытных актаў у Кіеве, кіраўніком выдання "Архіў Паўднёва-Заходняй Русі". У часопісе "Кіеўская старына" апублікаваў "Дыярыуш" Ф. Еўлашоўскага. Працы У. Антановіча па гісторыі Украіны, Беларусі, Літвы ўвайшлі ў яго зборнік "Манаграфіі па гісторыі Заходняй і Паўднёва-Заходняй Расіі".**

ЛЁСЫ

# Варта жыць дзеля Радзімы

ЖЫЦЦЁ І ЛІСТЫ Аляксандра РАКОВІЧА

УЖО АМАЛЬ ГОД, як пайшоў з жыцця прафесар Аляксандр Гаўрылавіч Раковіч. Па яго пакручастым шляху да адукацыі і драматычным лёсе можна вывучаць гісторыю Заходняй Беларусі. Ён з тых нешматлікіх пакуль што прадстаўнікоў прыродазнаўчых і тэхнічных навук, хто падобна прафесарам В. Берніку (матэматык), А. Майсяёнку (біяхімік), А. Саламонаву (геадэзіст) шанаваў беларускую мову.

Унікальнасць доктара тэхнічных навук А. Раковіча ўжо ў тым, што сярэднюю адукацыю па савецкіх стандартах ён атрымаў толькі ў 31 год, а вышэйшую — у 37. А навукоўцам стаў у кібернетыцы, якую таксама доўга не прызнавалі, называючы яе "буржуазнай ілжэнавукай".

Аляксандр Гаўрылавіч павінен быць адзначаны як адданы сын Бацькаўшчыны — яе пакутнік (бо пацярпеў за беларускую справу) і яе гонар, бо ён вядомы вучоны ў галіне тэхнічнай кібернетыкі і інфарматыкі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі — першай у гісторыі Інстытута тэхнічнай кібернетыкі НАН Беларусі, дзе ён працаваў да апошніх дзён жыцця.

А. Раковіч быў інтэлігентам, адным з адукаванейшых людзей краіны. Пра яго як цікавую неардынарную асобу пісалі Лідзія Савік ("Космас беларуса", Мн., 1996 г., 1998), Галіна Каржанеўская ("А Беларусь — жыве", "ЛіМ", 4.09.1998), Андрэй Чэмер ("Выбраныя богам", Вільнюс, 1999). Аднак, па-першае, сказана няшмат і няпоўна. Па-другое, у самыя апошнія дні я атрымаў магчымасць з дазволу яго дачкі Рагнеды пазнаёміцца з пісьмамі Аляксандра Гаўрылавіча з ГУЛАГа. IX змест і зробленае ім у навуцы даюць падставу сцвярджаць, што А. Раковіча можна аднесці да шэрагу самых значных і выдатных людзей беларускай зямлі.

### Бацькі

Нарадзіўся ён у вёсцы з паэтычнай назвай Лясок Карэліцкага раёна у 1926 годзе. Бацькі яго падчас Першай сусветнай вайны былі ў бежанцах, бо фронт праходзіў у 3-4 кіламетрах ад вёскі па рацэ Сервеч, і ўсіх высялялі. Маці была ў сваякоў у Санкт-Пецярбургу. Бацька ж Алеся трапіў у Тамбоў, працаваў там электрыкам на паравазным заводзе, пасля рэвалюцыі быў прызваны ў Чырвоную Армію і накіраваны на Украіну. Недзе ў 1921 г. ён з'явіўся ў роднай вёсцы, маці ж вярнулася на год раней. Так, пабываўшы ў бежанстве, пабачыўшы свету і набраўшыся жыццёвага вопыту, яны сустрэліся і пабраліся шлюбам. Былі яны шчырымі прыхільнікамі беларушчыны, шанавалі веды і царкву, да якой далучылі і дзяцей: сыноў Георгія і Алеся, дачку Людмілу. Алесь з дзіцячых гадоў дапамагаў праваслаўным святарам у час царкоўнай службы і захаваў глыбокую веру праз усё жыццё.

### Вучоба

Алесь прайшоў амаль усе ступені і формы народнай асветы, як польскай, так і савецкай. Пачаў вучыцца ў Запольскай пачатковай школе, пасля шостага класа паступіў у Навагрудскую польскую гімназію імя А. Міцкевіча. Калі ў сувязі з перадачай Вільні Літве ў Навагрудак пераехала Віленская беларуская гімназія на чале з дырэктарам Барысам Кітам, Алесь перавёўся туды. Як піша ён у сваіх успамінах, частыя размовы бацькі і яго сяброў пра поспехі ў адукацыі Б. Кіта "будзілі ў маёй дзіцячай свядомасці баязлівыя летуценні, жаданні пайсці яго шляхам, стаць з часам такім жа, як ён. Тыя часы сёння мне здаюцца рамантычнымі і вызначальнымі ў нашых лёсах, а асоба Б. Кіта нейкай легендарна-волатаўскай... Менавіта ён з размахам сеяў сярод нас зерні высокай нацыянальнай свядомасці, пачуцця беларускай годнасці, бязмежнага жадання ведаў".

З 1942 г. Раковіч зноў вучыўся, бо вучоба, як і праца дзе-небудзь, страхавала моладзь ад гвалтоўнага вывазу ў Германію. Тады адкрывалася шмат беларускіх школ, а настаўнікаў для іх не хапала. Згодна з "Беларускай думкай" (1983 , N 27—28), у 1941-42 школьным годзе з-за нястачы настаўнікаў працавалі кароткатэрміновыя (ад 6 месяцаў да 3 тыдняў) настаўніцкія курсы у Нясвіжы, Баранавічах, Навагрудку (з 13 курсантаў), Валожыне, Глыбокім, Паставах, Браслаўлі, Слоніме, Мінску, Вілейцы, Быцені, Любчы, Карэлічах і Дзятлаве. У 1942-43 школьным годзе адчынены настаўніцкія семінарыі ў Нясвіжы, Навагрудку і Слоніме, якія разам мелі каля 2500 семінарыстаў. Алесь скончыў у Навагрудку і шасцімесячныя курсы настаўнікаў і трохгадовую настаўніцкую семінарыю, бо залічаны быў адразу ж на другі курс.

Многія з настаўнікаў і навучэнцаў вышэйпералічаных устаноў пасля вайны былі рэпрэсіраваны і асуджаны на працяглыя тэрміны. Не абмінула гэтая доля і Алеся Раковіча. 30 чэрвеня 1948 года, калі ён адслужыў ужо 4 гады ў Навачаркаску камандзірам "выдатнай" гарматы, Ваенны трыбунал асудзіў яго на 25 гадоў пазбаўлення волі ў папраўча-працоўных лагерах. Ён быццам бы прадбачыў бяду, калі пісаў на адваротным баку фотаздымка: "Глядзіце, успамінайце, шануйце копію як арыгінал. Навачаркаск, 24 сакавіка, 1948 г. Алесь".

Яго бацькам і сястры нічога не заставалася на працягу многіх гадоў, як "шанаваць фотаздымак і плакаць ад гора і бяссілля.

### Лісты з ГУЛАГа

Пачалася нявольніцкая адысея ў нечалавечых умовах Поўначы, Забайкалля і Кузбаса. Я прасочваю яе па лістах Алеся сваім родным, якія яны змаглі атрымаць, бо "адзін з нашых начальнікаў, які мае права і заўсёды кантралюе нашыя лісты" выкрэсліваў, замазваў так, што прачытаць нельга, назвы пасёлкаў, адлегласць паміж імі і іншыя звесткі, якія, мабыць, лічыліся "сакрэтнымі". У сваіх лістах Алесь закранае розныя праблемы, часцей за ўсё дзякуе родным за пасылкі і маральную падтрымку. Асабліва цёплыя словы ён адрасуе маці (правапіс і стылістыка захаваны аўтарскія. — **М. С.**):

**"г. <u>Алдан</u>, 2.10.1951. Роднenькая мамачка! Нізка кланяюся Вам і цалую Вашу спрацаваную ручку... Глыбока ўдзячны Вам, што Вы змаглі выхаваць мяне такім, якім я ёсць. Вы з самага дзяцінства прывілі мне любоў да людзей, да нашага акружэньня, навучылі цаніць жыццё, адрозніваць дабро ад зла. Гэта Ваша заслуга, што цяпер у мой нялёгкі жыццёвы перыяд, як і ў мінулым, пройдзеным жыцьці, я ніколі не быў пагарджаным у грамадзтве і сяброўскай кампаніі. Гэта Вы мяне ўзьвялі ў такія рамкі, якія дазваляюць мне, юнаку з сярэдняй асьветай, лёгка праходзіць за граматнага і дасьведчанага чалавека ў асяроддзі сталых людзей, маючых за сабой часта універсітэты і нярэдка навуковыя дыплёмы..."**

**"г. <u>Алдан</u>, 25.12.1952.**

**Хай мама верыць у сустрэчу. Яна адбудзецца. Сустрэнемся усе ў добры новы жыцьцёвы час, які раз і назаўсёды высушыць слёзы ўсіх вякамі крыўджаных, абражаных і зганьбаваных.**

**Грошы з пасылак трачу на пакупку хлеба, часамі цукру ў нашым ларку, зь іх жа раблю часамі некаторыя ўтрыманьні на неабходнае для навукі, з якой я і цяпер "у цяжкія" хвіліны жыцьця не разлучыўся. Так, напрыклад, за апошні час я зрадніўся з матэматычнаю навукай аб будове і рухах нябесных цел — астраноміяй і магу пахваліцца, што маю ў гэтым напрамку нядрэнныя посьпехі..."**

У адказ на парады і павучанні бацькоў аб прыстасаванні да лагернага жыцця ён адказвае:

**"<u>Балей</u>, 1.12.1953. Падобнай гордасцю павінен быць прасякнуты кожны чалавек, пакуль у яго б'ецца людзкое сэрца, пакуль ён асоба, а не мокрая ануча. А што да парады прыспасобіцца да працы, дык я ж не супраць, ды мае ж вы любыя, паверце, што надта подла часамі гэтае прыстасаванне выглядае і яшчэ часцей бывае, што самыя кароткія хвіліны "салодкага" існавання ў лагеры каштуюць, калінікалі, чэсьці, а то і жыцьця. І галоўнае, даражэнькія, што перада мною шчаслівая і радасная будучыня, а не затхлае сучаснае, і на першае я ў асноўным трымаю арыентацыю. Не хачу разменьвацца на мелкіх і шкурніцкіх карысьлівых справах..."**

Звяртаючыся да сястры Люды, якую пасля сканчэння гандлёвай школы ў Баранавічах накіравалі на працу ў Навагрудак, Алесь прызнаецца ў любові да былой сталіцы ВКЛ:

**"<u>Барзас</u>, 1.09.1955. Люда, ты пасялілася ў Навагрудку, з якім зьвязаны лепшыя хвіліны майго вольнага жыцьця. Навагрудак — горад, які здаецца для мяне мілейшым ва ўсім сьвеце. А пагэтаму не крыўдуй, калі буду непакоіць частымі і ўпартымі пытаннямі пра розныя цікавячыя мяне рэчы, якіх у мяне будзе нямала..."**

У сваіх лістах ён неаднаразова звяртаецца да гэтай тэмы:

**"Пра адбудову дома Міцкевіча ў Навагрудку я чуў па радыё рэпартаж і паведамленьне. Што ж да адбудовы другіх аб'ектаў, дык штосьці я знаходжуся ў сумненьні.**

**Рады нямала, што нашы аднасяльчане па чарзе варочаюцца на Бацькаўшчыну. Як цяжка асьведамляцца у рэальным факце штучнага дзяленьня, якое праводзіцца ў нашай вёсцы сьцяной, збудаванай чужынцамі і ворагамі. 14.07.1955."**

Прызнаюся, мяне асабліва ўразіла непахіснай вераю, нейкім нават прароцтвам пісьмо, адзінае сярод усіх астатніх, напісанае па-руску і адрасаванае сястры яго бацькі з суседняй вёскі Краснае:

**"г. <u>Алдан</u>, 10.09.1951. Тетя Катя!**

**Чтение Вашего письма составило мне особое приятное удовольствие. Я на минуту смог оторваться от существующей действительности, которая не является чересчур красивой, и погрузился в мысли и мечты о предметах, вещах, лицах и объектах, которые составляют такое величавое и родное понятие, такое близкое и милое сердцу отдаленного человека впечатление, как впечатление о Родине...**

**Сейчас хочу сказать пару слов о самом себе. Живу в таких же, как и раньше, условиях. Ежедневно отдаю все свои усилия во имя движения маленького винтика в великом общественном механизме, прокладывающем асфальтный путь к хорошему грядущему будущему. Физически чувствую себя здоровым. Морально немножко придавлен. Однако, не будучи адептом фатализма, я верю, что фортуна, эта деспотическая повелительница людских судеб, так злорадно насмеявшаяся надо мной в розовой юности, подарит в скором будущем доброжелательную улыбку и даст возможность пробить себе путь к апогею Славы. Вы можете, конечно, не поверить мне, или правильнее выражаясь, сочесть эту мою писанину за бессмысленный бред буйствующего юноши, но говорят "верить и желать — это мочь, это быть..."**

Помніць Алесь партрэты Сталіна ў чорных рамках. Але палітзняволеныя не плакалі, у іх вачах свяцілася радасць. Адбываліся і ў ГУЛАГу некаторыя змены, пачалі вызваляць нявінна асуджаных. У лісце да сястры Людмілы, які ёй перадаў вызвалены з лагераў сябар і зямляк Пятрусь Бондар, жахар вёскі Шчорсы, Алесь піша:

**"<u>Барзас</u>, 19.10.1955. Згодна амністыі (маецца на ўвазе Указ Прэзідыума ВС СССР ад 17.09.1955. — М. С.) тэрмін**



*Сяржант А. РАКОВІЧ (першы злева) за тры месяцы да раптоўнага арышту.*



*Падчас міжнароднай навукова-тэхнічнай канферэнцыі ў Кракаве (1999).*

**пакарання мне зменшаны напалову. Наперадзе яшчэ адзін год і дзесяць месяцаў тулачкі і скітаньняў.**

**Гэты ліст не будзе чытацца цэнзурай, а таму я буду пісаць у ім адкрыта, без якіх-колечы намёкаў. Воля, што мне прадстаўлена амністыяй, і надалей у маім разуменьні зьяўляецца адносным паняцьцем і ўсе маніпуляцыі зь ёй зьвязаныя, не так ужо мяне і цешаць. Я і далей буду імкнуцца да волі без прыкрасак, волі абсалютнай, свабоды без крыўды і прыгнёту."**

Аб уменні А. Раковіча лагічна разважаць, рабіць разумныя, я б сказаў, мудрыя вывады і нават прадбачанні сведчыць хаця б такі ўрывак з яго ліста:

**"<u>г. Алдан</u>, 12.02, 1953. ...Асабліва надоўга прыкаваў да сябе маю ўвагу фотаздымак Ірачкі (пляменніцы Алеся, дачкі брата Георгія. Тады ёй было 3 гадочкі. — М. С.). Бачу, што дзёрзкая і што, галоўнае, судзячы па форме ілба, разумная дзяўчына павінна вырасці з яе."** Заўважу, што прагноз, зроблены Алесем па дзіцячай фатаграфіі, спраўдзіўся. Ірачка скончыла філфак БДУ і зараз працуе намеснікам дырэктара аднаго з інстытутаў Міністэрства адукацыі Беларусі.

Пасля пераезду з Алдана ў пас. Лебядзіны (таксама ў Якуціі) Алесь трапна дае ацэнку наваколлю і свайму душэўнаму стану:

**"<u>пас. Лебядзіны</u>, 2.05.1953. Адносна да Куранахскага клімату тут значна халадней і наогул суровей. Ужо травень, а тут яшчэ ўсё падсыпае сьнег. Сьнегу ўсюды па калена і здаецца, гледзячы на ўвесь гэты зачараваны адвечным холадам край, што вясна і лета ніколі не пакажа тут свайго прыемнага аблічча.**

**Чуюся фізічна і маральна нядрэнна, толькі вось сум па роднай страчанай старонцы, якая для мяне як быццам сьвятыня, што засела глыбока ў душу, не пакідае ніколі. Але гэта дарэчы. Так павінна дзеяцца ў кожнага на сэрцы, хто многа чаго пакінуў у раннім юнацтве, каб потым узмужнелым мужчынам вярнуцца на родныя гоні.**

**Кіламетраў за пару цягнуцца ланцугом горы, на якіх няма ні лесу, ні травы, а толькі зімой і летам ахутвае халодная белая коўдра сьнегу."**

Невыноснымі былі ўмовы ў лагерах. Яшчэ больш жудаснымі выглядалі пераезды і пераходы ў іншыя лагеры і мясціны:

**"<u>Неизвестный</u>, 8.12.1954.**

**...Дарога да новага мейсца адбыцця пакарання была нялёгкай і доўгай, тым больш, што яе прышлося праходзіць у вядомых Вам нечалавечых умовах. У дарозе знаходзіўся я два тыдні. Ехаў машынай, пасьля цягніком у цялячых закрытых вагонах, пасьля са станцыі Яя, з якой я Вам напісаў пару слоў, прышлося зноў ехаць машынай 100 км, а пасьля 30 км ісці пешшу...**

**Кругом шуміць густая сібірская тайга, непраходная, злосная, дзікая. І вось з гэтай тайгой прыдзецца вясьці барацьбу на новым этапе майго нявольнага жыцьця. Прыдзецца пасьля золата папрабаваць пілаваць "дубы"... Чуў, што спаткаю ў новым лягеры хлопцаў з-пад Любчы, добра знаёмых мне па свабодзе..."**

У адным з апошніх лістоў Алесь выказаў занепакоенасць, каб яму не забаранілі вучыцца.

**"<u>Барзас</u>, 4.04.1956. ...Проста жах, якая зіма ў гэтым годзе на Беларусі. Мусіць, клімат гэтай патоптанай і зганьбаванай краіны пакінуў ейныя граніцы, уступаючы месца суроваму сібірскаму клімату.**

**Па заліках я размяняў апошні год свайго тэрміну. Да Новага году павінен вярнуцца дамоў.**

**Вось гэта будзе спатканьне! Я часта думаю, як я буду праходзіць міма сваіх аднасяльчан, не пазнаючы нікога, як буду прыглядацца навакол, жадаючы знайсці Лясок 30-х гадоў такім, якім я яго бачыў у дзяцінстве, як з горыччу прыйдзецца ўспомніць аб тых, якіх я пакінуў у 1944 годзе і якіх сяньня ўжо не застану... Але больш усяго мяне непакоіць маё дальнейшае паводжаньне і жыцьцё. Баюся, каб не астацца з воўчым білетам..."**

Аднак трывожыцца за гэта Алесю давялося нядоўга. Праз 24 дні пасля цытаванага пісьма рашэннем Камісіі Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР ён быў вызвалены са скасаваннем судзімасці. Тады ж вырашалася пытанне аб вызваленні з Барзаскага лагера яго сябра Міколы Асіненкі, кіраўніка пастаўскай групы Саюза беларускіх патрыётаў.

...Як Аляксандр Гаўрылавіч і наказваў падчас цяжкай хваробы, яго пахавалі ў радзімым куточку. Адпяваў яго айцец Аляксей у капліцы, грошы на аднаўленне якой ахвяраваў у свой час разам з аднавяскоўцамі і Раковіч. З высокага пагоста, дзе ён пахаваны побач з бацькамі і братам, відаць вёска Лясок і навакольная зямля, на якой працавалі яго бацькі і дзяды, якую ён вельмі любіў і да якой заўсёды імкнуўся. Літаральна так, бо за капліцай пачынаецца зямля, што спрадвеку належала роду Раковічаў....

**Мікола САВІК**

ПАМЯЦЬ

# 5 год без Максіма Танка

У верасні нарадзіўся, а пяць год таму пайшоў ад нас Яўген Іванавіч Скурко — Максім Танк, — народны паэт Беларусі, грамадскі дзеяч, чалавек, легендарнае імя якога колькі часу было і застанецца навекі сімвалам і і гонарам нацыі, чалавек, які ўвасобіў сабой цэлую эпоху. Ён быў барацьбітом за свабоду і незалежнасць свайго народа, рызыкаваў дзеля гэтага сваім жыццём, сядзеў у турмах. Многае давялося яму пабачыць і перажыць за сваё жыццё. Мудры, светлы, просты чалавек, такім ён запомніўся тым, хто меў шчасце знацца з ім, працаваць з ім. Чытаць яго цудоўныя, таленавітыя паэтычныя творы.

Выступаючы на жалобным мітынгу на радзіме нябожчыка, каля бацькоўскай хаты, народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч адзначыў такія рысы Яўгена Іванавіча, як мудрасць, дабрыня, прастата і сціпласць Ён назваў гэтыя якасці ўрокамі Максіма Танка.

Пра Максіма Танка напісана шмат добрых і таленавітых кніг. Але самая добрая, праўдзівая і глыбокая кніга, зазначыў Ніл Сымонавіч, яшчэ наперадзе. Цяжкімі былі апошнія гады жыцця Максіма Танка. І не толькі з прычыны пагаршэння здароўя.

Прыпамінаецца, як аднойчы ў час нашай сустрэчы з Яўгенам Іванавічам на Нарачы ён абураўся, што ў запале перабудовачнай эйфарыі разбураецца культура і мараль чалавека. Замест маральна-этычных каштоўнасцей, створаных лепшымі прадстаўнікамі нацыянальнай культуры і літаратуры нашым людзям падсоўваюць кінафільмы і кнігі, у якіх ідзе прапаганда пошласці, нізкіх інстынктаў і іншых антычалавечых ідэй. Асабліва яго хвалявала пытанне — што будзе з нашай моладдзю? Ці зможа яна стрываць націск псеўдакультуры і пошласці? І тут прыйшлося пачуць такія яго словы: "Калі што і скароціць мне жыццё, дык гэта тое, што робіцца з нашай культурай, з нашай роднай мовай..."

Нялёгка было чуць гэтыя словы, адчуваць перажыванні чалавека, які прысвяціў усё сваё жыццё самым чыстым, самым светлым ідэалам.



Як ні горка, але нельга не прыпомніць і пра тое, як абышліся з Яўгенам Іванавічам у апошнія дні яго жыцця. Артыкул Алены Малочкі "Як у лечкамісіі паміраў Максім Танк, або Чаму любіць мёртвых паэтаў лягчэй, чым клапаціцца пра жывых" быў грамадзянскім прысудам чыноўнікам ад медыцыны ў белых халатах, але з чэрствымі сэрцамі, якія ў апошнія дні жыцця ганаровага грамадзяніна Мінска паслалі на пакутную смерць. І цяпер, праз пяць гадоў хочацца крыкнуць: "Ганьба!"

Даруйце нам усім, дарагі Яўген Іванавіч, за тое, што мы не абаранілі Вас.

**В. ВІЛЬТОЎСКІ**

# Сэрца, аддадзенае Беларусі

Памерла Галіна Русак, амерыканская беларуска, мастачка, слынная дзяячка беларускай дыяспары. Спадарыня Галіна нарадзілася 24 траўня 1930 года ў Навагрудку. Яе сям"я была вымушана пакінуць Беларусь напрыканцы 1944 года, бо бацька Галіны, школьны настаўнік, у часе нямецкай акупацыі працаваў у беларускай гімназіі і з гэтае прычыны, згодна бальшавіцкай логіцы, аўтаматычна трапляў у "ворагі народа". У 1949 годзе Галіна Русак ужо ў ЗША. Атрымала добрую адукацыю. Напачатку ў Заходняй Еўропе — Універсітэт Філіпс (Марбург, Нямеччына), Лювэнскі універсітэт (Бельгія), потым у Злучаных Штатах — Канэктыкуцкі каледж (Нью-Лондан, Канэктыкут). Ступень бакалаўра гуманітарных навук атрымала ў каледжы Даглас (Нью-Брунсьвік, Нью-Джэрсі), ступень магістра гуманітарных навук — ва універсітэце Ратгерс (Нью-Брунсьвік, Нью-Джэрсі). Галіна Русак вядома як жывапісец і графік, а таксама даследчык мастацтва. Упершыню публіка пазнаёмілася з яе творамі ў 1969 годзе. З таго часу яны экспанаваліся ў ЗША і Канадзе. Восем гадоў назад іх убачылі і на радзіме. Выстава праходзіла ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь.

Спадарыня Галіна была амерыканкаю паводле ладу жыцця,але душою заўжды заставалася беларускаю. Гэта дваістасць цалкам натуральная ў яе лёсе, лёсе многіх не па сваёй волі эмігрантаў, адбівалася і ў яе творах. Тут адчуваецца і досвед мастацтва XX стагоддзя (амерыканская версія), і тое спрадвечнае, што стагоддзямі натхняла беларускага селяніна на стварэнне шэдэўраў традыцыйнага мастацтва. Арнаментальны рытм яе палотнаў — гэта ўспамін пра дзяцінства, гэта



даніна памяці, гэта туга па радзіме. "Маё мастацтва дапамагае мне не адрывацца ад натуральнага асяроддзя й не забываць тыя спрацаваныя, але прыгожыя рукі сталых жанчын, якія тварылі гісторыю роду, гісторыю чалавецтва. Тры найважнейшыя фактары ўплываюць на змест майго мастацтва — прырода, жанчына як яе інтэрпрэтатар і рукатворны сымболь", — так вызначала мастачка сваё крэда.

Выставу ў Мінску ў Нацыянальным мастацкім музеі яна назвала "Вяртанне". Галіна Русак марыла, каб яе мастацтва, ды ўвогуле рассеяныя па свеце беларускі здабытак, наша культурная спадчына, калі-небудзь вярнуліся на радзіму. У свабодную, незалежную Беларусь. Не дачакалася... Відаць, яшчэ не час.

Свае творы спадарыня Галіна пакінула Амерыцы, душу — Богу, сэрца — Беларусі.

**П.В.**

**Калектыў Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны глыбока смуткуе з выпадку смерці Ежы ГЕДРОЙЦА — палітыка і публіцыста, заснавальніка і рэдактара парыжскага часопіса "Культура" — выдатнай з'явы ў польска-беларускім інтэлектуальным дыялогу. Адкрытасць, пошук праўды, свабодалюбства і годнасць, неабходнасць раўнапраўнага супрацоўніцтва незалежных краін Беларусі, Польшчы, Украіны, Літвы — прынцып жыцця і дзейнасці Ежы Гедройца — мусіць стаць прынцыпам кожнай Асобы, якая рупіцца на карысць беларускай перспектывы.**

---

**Калектыў Аб'яднання дзяржаўных літаратурных музеяў Рэспублікі Беларусь смуткуе і выказвае глыбокае спачуванне родным, блізкім і сябрам АНІСКАВЕЦ Тамары Пятроўны, намесніка дырэктара Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры, у сувязі з яе заўчаснай смерцю.**

